ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!




# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ



ОРГАН
НАРКОМАСВЕТЫ
І ЦК САЮЗА
ПАЧАТКОВЫХ
І СЯРЭДНІХ
ШКОЛ
БССР

ЛІПЕНЬ
№ 7
1935

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

## *ФРЫДРЫХ ЭНГЕЛЬС* [1])

*Какой светильник разума погас,*
*Какое сердце биться перестало!*

5-га жніўня новага стылю (24 ліпеня) 1895 г. памёр у Лондане Фрыдрых Энгельс. Пасля свайго друга Карла Маркса (памёршага ў 1883 г.) Энгельс быў самым выдатным вучоным і настаўнікам сучаснага пролетарыята ва ўсім цывілізаваным свеце. З таго часу, як лёс звёў Карла Маркса з Фрыдрыхам Энгельсам, жыццёвая праца абодвух прыяцеляў зрабілася іх агульнай справай. Таму, для таго каб зразумець, што зрабіў Фрыдрых Энгельс для пролетарыята, трэба ясней усвоіць сабе значэнне вучэння і дзейнасці Маркса ў развіцці сучаснага рабочага руху. Маркс і Энгельс першыя паказалі, што рабочы клас з яго патрабаваннямі ёсць неабходнае параджэнне сучаснага эканамічнага парадку, які разам з буржуазіяй немінуча стварае і арганізуе пролетарыят; яны паказалі, што не дображаданыя спробы асобных шляхетных асоб, а класавая барацьба арганізаванага пролетарыята вызваляць чалавецтва ад гнятучых яго цяпер бядот. Маркс і Энгельс у сваіх навуковых працах першыя раз'яснілі, што соцыялізм не выдумка лятуценнікаў, а канчатковая мэта і немінучы рэзультат развіцця прадукцыйных сіл у сучасным грамадстве. Уся пісаная гісторыя да гэтага часу была гісторыяй класавай барацьбы, зменай панавання і перамог адных грамадскіх класаў над другімі. І гэта будзе прадаўжацца да таго часу, пакуль не знікнуць асновы класавай барацьбы і класавага панавання—прыватная ўласнасць і беспарадачная грамадская вытворчасць. Інтарэсы пролетарыята патрабуюць знішчэння гэтых асноў, і таму супроць іх павінна быць накіравана свядомая класавая барацьба арганізаваных рабочых. А ўсякая класавая барацьба ёсць барацьба палітычная.

Гэтыя погляды Маркса і Энгельса ўсвоены цяпер усім змагаючымся за сваё вызваленне пролетарыятам, але калі два прыяцелі ў 40-х гадах прынялі ўдзел у соцыялістычнай літаратуры і грамадскіх рухах свайго часу, такія погляды былі абсалютнай навіной. Тады было многа талантлівых і бяздарных, чэсных і бясчэсных людзей, якія захапляючыся барацьбой за палітычную свабоду, барацьбой з самадзяржаўем цароў, паліцыяй і папоў, не бачылі процілегласці інтарэсаў буржуазіі і пролетарыята. Гэтыя людзі не дапускалі і мыслі, каб рабочыя выступалі як самастойная грамадская сіла. З другога боку, было многа лятуценнікаў, падчас геніяльных, якія думалі, што трэба толькі пераканаць правіцеляў і пануючыя класы ў несправяд-

[1]) В. І. Ленін, творы, выд. II, т. I, стар. 407—416.

лівасці сучаснага грамадскага парадку і тады лёгка вадварыць на зямлі мір і ўсеагульны добрабыт. Яны марылі аб соцыялізме без барацьбы. Нарэшце, амаль усе тагачасныя соцыялісты і наогул прыяцелі рабочага класа бачылі ў пролетарыяце толькі *язву*, з жахам глядзелі яны, як з ростам прамысловасці расце і гэтая язва. Таму ўсе яны думалі аб тым, як-бы спыніць развіццё прамысловасці і пролетарыята, спыніць „кола гісторыі“. У процілегласць агульнаму страху перад развіццём пролетарыята, Маркс і Энгельс усе свае надзеі ўскладалі на бесперапынны рост пролетарыята. Чым больш пролетарыяў, тым большая іх сіла, як рэволюцыйнага класа, тым бліжэй і мажлівей соцыялізм. У нямногіх словах заслугі Маркса і Энгельса перад рабочым класам можна выразіць так: яны навучылі рабочы клас самапазнанню і самасазнанню і на месца лятуценняў паставілі навуку.

Вось чаму імя і жыццё Энгельса павінны быць знаёмы кожнаму рабочаму, вось чаму ў нашым зборніку, мэта якога, як і ўсіх нашых выданняў, будзіць класавае самасазнанне ў рускіх рабочых, мы павінны даць нарыс жыцця і дзейнасці Фрыдрыха Энгельса, аднаго з двух вялікіх настаўнікаў сучаснага пролетарыята.

Энгельс нарадзіўся ў 1820 годзе ў г. Бармэне, у рэйнскай правінцыі пруськага каралеўства. Бацька яго быў фабрыкантам. У 1838 годзе Энгельс сямейнымі акалічнасцямі быў вымушан, не скончыўшы гімназіі, паступіць у прыказчыкі аднаго брэменскага гандлёвага дома. Заняткі купецкай справай не перашкодзілі Энгельсу працаваць над сваёй навуковай і палітычнай адукацыяй. Яшчэ гімназістам зненавідзеў ён самадзяржаўе і самавольства чыноўнікаў. Заняткі філасофіяй павялі яго далей. У той час у нямецкай філасофіі панавала вучэнне Гегеля, і Энгельс зрабіўся яго паслядоўцам. Хоць сам Гегель быў паклоннікам самадзяржаўнай Пруськай дзяржавы, на службе якой ён састаяў у якасці прафесара Берлінскага універсітэта,— *вучэнне* Гегеля было рэволюцыйным. Вера Гегеля ў чалавечы розум і яго правы і асноўнае палажэнне гегелеўскай філасофіі, што ў свеце адбываецца пастаянны працэс змянення і развіцця, прыводзілі тых вучняў берлінскага філосафа, якія не хацелі мірыцца з рэчаіснасцю, да думкі, што і барацьба з рэчаіснасцю, барацьба з існуючай няпраўдай і пануючым злом караніцца ў сусветным законе вечнага развіцця. Калі ўсё развіваецца, калі адны ўстановы змяняюцца другімі, чаму-ж вечна будуць прадаўжацца самадзяржаўе пруськага караля або рускага цара, абагачэнне ніштожнай меншасці за кошт агромнай большасці, панаванне буржуазіі над народам? Філасофія Гегеля гаварыла аб развіцці духу і ідэй, яна была *ідэалістычнай*. З развіцця духу яна выводзіла развіццё прыроды, чалавека і людскіх, грамадскіх адносін. Маркс і Энгельс, утрымаўшы мысль Гегеля аб вечным працэсе развіцця [1], адкінулі прадузяты ідэалістычны погляд; прыгледзеўшыся да жыцця яны ўбачылі, што не развіццё духу аб'ясняе развіццё прыроды, а наадварот—дух трэба аб'ясніць з прыроды, матэрыі... У процілегласць Гегелю і іншым гегеліянцам, Маркс і Энгельс былі матэрыялістамі. Зірнуўшы матэрыялістычна на свет і чалавецтва, яны ўбачылі, што як у аснове ўсіх з'яў прыроды ляжаць прычыны матэрыяльныя, так і развіццё чалавечага грамадства абумоўліваецца развіццём матэрыяльных, прадукцыйных сіл. Ад развіцця прадукцыйных сіл залежаць

---

[1] Маркс і Энгельс не раз указвалі, што яны ў сваім разумовым развіцці многім абавязаны вялікім нямецкім філосафам і ў прыватнасці Гегелю. „Без нямецкай філасофіі,—гаворыць Энгельс,—не было-б і навуковага соцыялізма“.

адносіны, у якія становяцца людзі адзін да другога пры вытворчасці прадметаў, неабходных для задавальнення чалавечых патрэбнасцей. І ў гэтых адносінах—аб'ясненне ўсіх з'яў грамадскага жыцця, чалавечых імкненняў, ідэй і законаў. Развіццё прадукцыйных сіл стварае грамадскія адносіны, якія апіраюцца на прыватную ўласнасць, але цяпер мы бачым, як тое-ж развіццё прадукцыйных сіл адбірае ўласнасць у большасці і сканцэнтроўвае яе ў руках ніштожнай меншасці. Яно знішчае ўласнасць, аснову сучаснага грамадскага парадку, яно само імкнецца да той-жа мэты, якую паставілі сабе соцыялісты. Соцыялістам трэба толькі зразумець, якая грамадская сіла, па свайму становішчу ў сучасным грамадстве, зацікаўлена ў ажыццяўленні соцыялізма, і надаць гэтай сіле ўсведамленне яе інтарэсаў і гістарычнай задачы. Такая сіла — пролетарыят. З ім Энгельс пазнаёміўся ў Англіі, у цэнтры англійскай прамысловасці, Манчэстэры, куды ён перабраўся ў 1842 г., паступіўшы на службу ў гандлёвы дом, адным з пайшчыкаў якога быў яго бацька. Тут Энгельс не толькі сядзеў у фабрычнай канторы,—ён хадзіў па гразкіх кварталах, дзе туліліся рабочыя, сам сваімі вачыма бачыў іх нішчату і бедствы. Але ён не задавольваўся асабістымі назіраннямі, ён прачытаў усё, што было знойдзена да яго аб становішчы англійскага рабочага класа, ён старанна вывучыў усе даступныя яму афіцыяльныя дакументы. Пладом гэтых вывучэнняў і назіранняў была вышаўшая ў 1845 г. кніга: „Становішча рабочага класа ў Англіі". Мы ўжо ўпамянулі вышэй, у чым галоўная заслуга Энгельса як аўтара „Становішча рабочага класа ў Англіі". І да Энгельса вельмі многія абрысоўвалі пакуты пролетарыята і ўказвалі на неабходнасць дапамагчы яму. Энгельс *першы* сказаў, што пролетарыят *не толькі* пакутуючы клас; што іменна тое ганебнае эканамічнае становішча, у якім знаходзіцца пролетарыят, нястрымна штурхае яго ўперад і прымушае змагацца за сваё канчатковае вызваленне. А змагаючыйся пролетарыят *сам дапаможа сабе.* Палітычны рух рабочага класа немінуча прывядзе рабочых да ўсведамлення таго, што ў іх няма выхаду апрача соцыялізма. З другога боку, соцыялізм будзе толькі тады сілай, калі ён стане мэтай *палітычнай барацьбы* рабочага *класа.* Вось асноўныя мыслі кнігі Энгельса аб становішчы рабочага класа ў Англіі, мыслі цяпер усвоеныя ўсім мыслячым і змагаючымся пролетарыятам, але тады зусім новыя. Гэтыя мыслі былі ізложаны ў кнізе, цікава напісанай, поўнай самых дакладных і патрасаючых карцін цяжкага жыцця англійскага пролетарыята. Кніга гэта была жудасным абвінавачаннем капіталізма і буржуазіі. Уражанне, зробленае ёю, было вельмі вялікае. На кнігу Энгельса сталі ўсюды спасылацца як на лепшую карціну становішча сучаснага пролетарыята. І сапраўды, ні да 1845 года, ні пазней не паяўлялася ніводнага такога яркага і праўдзівага ізабражэння бедстваў рабочага класа.

Соцыялістам Энгельс зрабіўся толькі ў Англіі. У Манчэстэры ён уступіў у сувязь з дзеячамі тагачаснага англійскага рабочага руху і стаў пісаць у англійскіх соцыялістычных выданнях. У 1844 г., звяртаючыся ў Германію, ён па дарозе пазнаёміўся ў Парыжы з Марксам, з якім ужо раней у яго завязалася перапіска. Маркс у Парыжы пад уплывам французскіх соцыялістаў і французскага жыцця зрабіўся таксама соцыялістам. Тут сябры супольна напісалі кнігу: „Святое сямейства, або крытыка крытычнай крытыкі". У гэтай кнізе, вышаўшай за год да „Становішча рабочага класа ў Англіі" і напісанай большай часткай Марксам, закладзены асновы таго рэволюцыйна-матэрыялістычнага соцыялізма, галоўныя мыслі якога мы ізлажылі вышэй.

„Святое сямейства“—жартаўлівая мянушка філосафаў братоў Бауэраў з іх паслядоўцамі. Гэтыя паны прапаведвалі крытыку, якая стаіць вышэй усякай рэчаіснасці, вышэй партый і палітыкі, адмаўляе ўсякую практычную дзейнасць і толькі „крытычна“ сузірае акружаючы свет і падзеі, якія ў ім адбываюцца. Паны Бауэры звысака судзілі аб пролетарыяце, як аб некрытычнай масе. Супроць гэтага недарэчнага і шкоднага кірунку рашуча паўсталі Маркс і Энгельс. У імя сапраўднай чалавечай асобы—рабочага, папіраемага пануючымі класамі і дзяржавай, яны патрабуюць не сузірання, а барацьбы за лепшую будову грамадства. Сілу, здольную весці такую барацьбу і зацікаўленую ў ёй, яны бачаць, вядома, у пролетарыяце. Яшчэ да „Святога сямейства“ Энгельс надрукаваў у „Нямецка-французскім журнале“ [1]) Маркса і Руге „Крытычныя нарысы па палітычнай эканоміі“, у якіх з пункту гледжання соцыялізма разгледзеў асноўныя з'явы сучаснага эканамічнага парадку, як неабходныя вынікі панавання прыватнай уласнасці. Сувязь з Энгельсам бясспрэчна садзейнічала таму, што Маркс рашыў заняцца палітычнай эканоміяй, той навукай, у якой яго працы зрабілі цэлы пераварот.

Час ад 1845 па 1847 г. Энгельс правёў у Бруселі і Парыжы, злучаючы навуковыя заняткі з практычнай дзейнасцю ў асяроддзі нямецкіх рабочых Бруселя і Парыжа. Тут у Энгельса і Маркса завязаліся адносіны з тайным нямецкім „Саюзам комуністаў“ [2]), які даручыў ім ізлажыць асноўныя пачаткі выпрацаванага імі соцыялізма. Так узнік надрукаваны ў 1848 годзе славуты „Маніфест комуністычнай партыі“ *Маркса і Энгельса.* Гэтая невялічкая кніжачка варта цэлых томаў: духам яе жыве і рухаецца да гэтага часу ўвесь арганізаваны і змагаючыйся пролетарыят цывілізаванага свету.

Рэволюцыя 1848 г., якая разразілася спачатку ў Францыі, а затым пашырылася і на іншыя краіны Заходняй Еўропы, прывяла Маркса і Энгельса на радзіму. Тут, у Рэйнскай Прусіі, яны сталі на чале дэмакратычнай „Новай рэйнскай газеты“ [3]), якая выдавалася ў Кельне. Абодва сябры былі душою ўсіх рэволюцыйна-дэмакратычных імкненняў у Рэйнскай Прусіі. Да апошняй магчымасці адстойвалі яны інтарэсы народу і свабоды ад рэакцыйных сіл. Апошнія, як вядома, перамаглі. „Новая рэйнская газета“ была забаронена. Маркс, які страціў за час свайго эміграцкага жыцця правы прускага падданага быў высланы, а Энгельс прыняў удзел ва ўзброеным народным паўстанні, у трох бітвах біўся за свабоду і пасля паражэння паўстанцаў уцёк праз Швейцарыю ў Лондан.

Там-жа пасяліўся і Маркс. Энгельс неўзабаве зноў зрабіўся прыказчыкам, а потым і пайшчыкам таго гандлёвага дому ў Манчэстэры, у якім ён служыў у 40-х гадах. Да 1870 г. ён жыў у Манчэстэры, а Маркс у Лондане, што не перашкаджала ім мець самыя жывыя духоўныя зносіны: яны амаль штодзённа перапісваліся.

[1]) „Нямецка-французскі журнал“ („Deutsch-Französische Jahrbüchern“)—выдаваўся К. Марксам сумесна з Руге ў Парыжы. Вышаў усяго адзін нумар у лютым 1844 г. Маркс змясціў тут свае артыкулы—прадмова да крытыкі гегелеўскай „Філасофіі права“ і разбор кніг бр. Бауэраў па яўрэйскаму пытанню.

[2]) „Саюз комуністаў“—міжнародная арганізацыя рабочых з комуністычнай праграмай, аснаваная пры актыўным удзеле Маркса і Энгельса ў 1847 г. і праіснаваўшая да 1852 г. Па даручэнню „Саюза комуністаў“ Маркс напісаў свой „Маніфест Комуністычнай партыі“,

[3]) „Новая рэйнская газета“ („Neue Rheinische Zeitung“)—выдавалася з 1 чэрвеня 1848 г. па 19 мая 1849 г. у Кельне гуртком комуністаў на чале з К. Марксам і Ф. Энгельсам.

У гэтай перапісцы сябры абменьваліся сваімі поглядамі і ведамі і прадаўжалі супольна выпрацоўваць навуковы соцыялізм. У 1870 г. Энгельс перабраўся ў Лондан, і да 1883 г., калі памёр Маркс, прадаўжалася іх сумеснае духоўнае жыццё, поўнае напружанай работы. Вынікам яе былі—з боку Маркса—„Капітал“, найвялікшы палітыкаэканамічны твор нашага веку, з боку Энгельса—цэлы рад буйных і дробных твораў. Маркс працаваў над разборам складаных з‘яў капіталістычнай гаспадаркі. Энгельс у вельмі лёгка напісаных, нярэдка палемічных работах асвятляў самыя агульныя навуковыя пытанні і розныя з‘явы мінулага і сучаснага ў духу матэрыялістычнага разумення гісторыі і эканамічнай тэорыі Маркса. З гэтых работ Энгельса назавём:—палемічны твор супроць Дзюрынга (тут разабраны найвялікшыя пытанні з вобласці філасофіі, прыродазнаўства і грамадскіх навук [1]) „Паходжанне сям‘і, уласнасці і дзяржавы“ (пераклад на рускую мову, выдан у С.-Пецербургу, 3-е выд. 1895 г.), „Людвіг Фейербах“ (рускі пераклад з заўвагамі Г. Плеханава, Жэнева, 1892), артыкул аб замежнай палітыцы рускага ўрада (перакладзен на рускую мову ў жэнеўскім „Соцыялдэмакраце“ № № 1 і 2), цікавыя артыкулы аб кватэрным пытанні, нарэшце, два маленькія, але вельмі каштоўныя артыкулы аб эканамічным развіцці Расіі („Фридрих Энгельс о России“, пераклад на рускую мову В. І. Засуліч, Жэнева, 1894). Маркс памёр, не паспеўшы канчаткова апрацаваць сваю агромную працу аб капітале. Начорна, аднак, яна была ўжо гатова, і вось Энгельс пасля смерці прыяцеля ўзяўся за цяжкую працу апрацоўкі і выдання II і III тому „Капітала“. У 1885 г. ён выдаў II, у 1894 г.—III том (IV том ён не паспеў апрацаваць). Работы над гэтымі двума томамі патрабавалася вельмі многа. Аўстрыйскі соцыял-дэмакрат Адлер правільна заўважыў, што выданнем II і III томаў „Капітала“ Энгельс пабудаваў свайму геніяльнаму другу велічны помнік, на якім мімаволі нязгладзімымі рысамі выразаў сваё ўласнае імя. Сапраўды, гэтыя два томы „Капітала“,—праца абодвух: Маркса і Энгельса. Старынныя паданні расказваюць аб розных чуллівых прыкладах дружбы. Еўрапейскі пралетарыят можа сказаць, што яго навука створана двума вучонымі і барацьбітамі, адносіны якіх перавышаюць усе самыя чуллівыя апавяданні старажытных аб чалавечай дружбе. Энгельс заўсёды,—і, у агульным, зусім справядліва,—ставіў сябе ззаду Маркса. „Пры Марксе,—пісаў ён аднаму старому прыяцелю,—я іграў другую скрыпку“. Яго любоў да жывога Маркса і высокая пашана ў адносінах да памяці памёршага былі бязмежны. Гэты суровы барацьбіт і строгі мысліцель меў глыбока любячую душу.

Пасля руху 1848-1849 гг. Маркс і Энгельс у выгнанні займаліся не адной толькі навукай. Маркс стварыў у 1864 г. „Міжнароднае таварыства рабочых“ і на працягу цэлага дзесяцігоддзя кіраваў гэтым таварыствам. Жывы ўдзел у яго справах прымаў таксама і Энгельс. Дзейнасць „Міжнароднага таварыства“, злучаўшага, па думцы Маркса, пролетарыяў усіх краін, мела вялікае значэнне ў развіцці рабочага руху. Але з закрыццём у 70-х гадах „Міжнароднага таварыства“ аб‘яднаўчая роля Маркса і Энгельса не спынілася. Наадварот, можна сказаць, што значэнне іх, як духоўных кіраўнікоў рабочага руху,

---

[1]) Гэта на дзіва змястоўная і навучальная кніга. З яе, на жаль, на рускую мову перакладзена толькі невялікая частка, якая змяшчае гістарычны нарыс развіцця соцыялізма („Развитие научного социализма“, 2-е выд., Жэнева. 1892) (Поўны рускі пераклад „Анты-Дзюрынга“ вышаў у 1904 г.—Рэд.).

пастаянна ўзрастала, таму што бесперапынна рос і сам рух. Пасля смерці Маркса Энгельс адзін прадаўжаў быць саветнікам і кіраўніком еўрапейскіх соцыялістаў. Да яго аднолькава зварачаліся за парадамі і ўказаннямі і нямецкія соцыялісты, сіла якіх, не гледзячы на ўрадавыя праследванні, хутка і бесперапынна павялічвалася, і прадстаўнікі астатніх краін,—напр., іспанцы, румыны, рускія, якім прыходзілася абдумваць і ўзважваць свае першыя крокі. Усе яны чэрпалі з багатай скарбніцы ведаў і вопыту старога Энгельса.

Маркс і Энгельс, абодва ведаўшыя рускую мову і чытаўшыя рускія кнігі, жыва цікавіліся Расіяй, з спачуваннем сачылі за рускім рэволюцыйным рухам і падтрымлівалі зносіны з рускімі рэволюцыянерамі. Абодва яны зрабіліся соцыялістамі з *дэмакратаў*, і дэмакратычнае пачуццё *ненавісці* да палітычнага самавольства было ў іх надзвычай моцнае. Гэта непасрэднае палітычнае пачуццё разам з глыбокім тэарэтычным разуменнем сувязі палітычнага праізволу з эканамічным прыгнечаннем, а таксама багаты жыццёвы вопыт зрабілі Маркса і Энгельса надзвычай чуткімі іменна ў *палітычных* адносінах. Таму гераічная барацьба малалікай кучкі рускіх рэволюцыянераў з магутным царскім урадам знаходзіла ў душах гэтых выпрабаваных рэволюцыянераў самы спачуваючы водгук. Наадварот, папаўзнавенне дзеля мнімых эканамічных выгад адварачвацца ад самай непасрэднай і важнай задачы рускіх соцыялістаў—заваявання палітычнай свабоды—натуральна з'яўлялася ў іх вачах падазроным і нават проста лічылася імі здрадай вялікай справе соцыяльнай рэволюцыі. „Вызваленне пролетарыята павінна быць яго ўласнай справай“—вось чаму пастаянна вучылі Маркс і Энгельс. А для таго, каб змагацца за сваё эканамічнае вызваленне, пролетарыят павінен заваяваць сабе пэўныя *палітычныя* правы. Апрача таго, і Маркс і Энгельс ясна бачылі, што і для заходне-еўрапейскага рабочага руху палітычная рэволюцыя ў Расіі будзе мець агромнае значэнне. Самадзяржаўная Расія заўсёды была аплотам усёй еўрапейскай рэакцыі. Нязвычайна выгаднае міжнароднае становішча, у якое паставіла Расію вайна 1870 г., надоўга пасяліўшая разлад між Германіяй і Францыяй, вядома, толькі павялічыла значэнне самадзяржаўнай Расіі, як рэакцыйнай сілы. Толькі свабодная Расія, якая не мае патрэбы ні ў прыгнечанні палякаў, фінляндцаў, немцаў, армян і іншых дробных народаў, ні ў пастаянным нацкоўванні Францыі з Германіяй адной на другую, дасць сучаснай Еўропе свабодна ўздыхнуць ад ваенных цяжараў, аслабіць усе рэакцыйныя элементы ў Еўропе і павялічыць сілу еўрапейскага рабочага класа. Вось чаму Энгельс і для поспехаў рабочага руху на Захадзе горача жадаў устанаўлення ў Расіі палітычнай свабоды. Рускія рэволюцыянеры страцілі ў ім свайго лепшага друга.

Вечная памяць Фрыдрыху Энгельсу, вялікаму змагару і настаўніку пролетарыята!

*Комуністы лічаць лішнім скрываць свае погляды і намеры. Яны адкрыта заяўляюць, што іх мэты могуць быць дасягнуты толькі шляхам гвалтоўнага нізвяржэння ўсяго існуючага да гэтага часу грамадскага ладу. Няхай пануючыя класы садрагаюцца перад комуністычнай рэволюцыяй.*

*Пролетарыям няма чаго траціць у ёй апрача сваіх ланцугоў, набудуць-жа яны цэлы свет.*

*(К. Маркс і Ф. Энгельс—„Маніфест комуністычнай партыі“).*

(„Народный учитель“ № 4, 1935 г.).

*Праф. Е. Н. МЕДЫНСКІ*

# Фрыдрых Энгельс аб выхаванні

## (Да саракагоддзя з дня смерці)

„Вялікі змагар і настаўнік пролетарыята“ (як яго характарызуе В. І. Ленін), друг і саратнік Маркса, распрацаваўшы сумесна з апошнім філасофію пролетарыята—дыялектычны матэрыялізм, *Фрыдрых Энгельс* (1820—1895) многа ўвагі ўдзяляў пытанням выхавання.

Ужо ў 21-22-гадовым узросце Энгельс ад рэволюцыйнага дэмакратызма пераходзіць да комунізма, але гэты комунізм да знаёмства Энгельса з Марксам быў яшчэ ў значнай ступені ўтапічным, „эгалітарным“ (ураўніцельным). У 1842 г. Энгельс упершыню сустракаецца з Марксам; у 1844 г. адбываецца іх зблiжэнне, а ў наступным 1845 г. яны сумесна выпускаюць „Святое семейство“, і Маркс знаёміць свайго друга з выпрацаванымі ім асновамі дыялектычнага матэрыялізма. Пад уплывам Маркса Энгельс зжывае ўтапічныя рысы свайго ранейшага светапогляду і пераходзіць у 1845 г. да навуковага комунізма.

У 1842 г. Энгельс прыехаў з Германіі ў Англію, у цэнтр тэкстыльнай прамысловасці — Манчэстэр. Тут ён „хадзіў па гразкіх кварталах, дзе жылі рабочыя, сам сваімі вачыма бачыў іх галечу і бедствы“ (*Ленин*, соч. т. I, стр. 411).
Ён вывучаў чартысцкі рух, збіраў матэрыял аб становішчы англійскіх рабочых, які выкарыстаў потым для вядомай сваёй работы „Становішча рабочага класа ў Англіі“. Выданая ў 1845 г., калі Энгельсу было ўсяго 25 год, калі ўстанавілася яго цеснае супрацоўніцтва з Марксам і навукова-комуністычныя погляды, гэта работа прадстаўляе сабой, па характарыстыцы В. І. Леніна, „адзін з лепшых твораў у сусветнай соцыялістычнай літаратуры“.

У „Становішчы рабочага класа ў Англіі“, як і ў іншых работах, Энгельс *ускрывае класавы характар выхавання і дае бічуючую крытыку буржуазнага выхавання.*

Рысуючы цяжкія ўмовы жыцця рабочых у капіталістычным грамадстве, Энгельс падрабязна спыняецца на *фізічным выхаванні* дзяцей рабочых. Цяжарныя жанчыны працавалі да наступлення родаў, нярэдка здаралася, што жанчыны, якія працавалі да вечара, нараджалі на другую раніцу, а часам і на самой фабрыцы сярод машын. Ужо ў момант свайго паяўлення на свет дзеці рабочых былі, такім чынам, надломлены. Дзеці гэтыя не атрымлівалі нармальнага харчавання: маці, якая працавала на фабрыцы, не магла рэгулярна карміць свайго дзіцяці; страва, якую былі вымушаны даваць яны маленькім

дзецям, не была прыгоднай для апошніх. У перыяды крызісаў нават і гэтай малапрыгоднай стравы дзеці не атрымлівалі. Жудасныя жыллёвыя ўмовы, дрэннае ненармальнае харчаванне, адсутнасць догляду за дзецьмі прыводзілі да вельмі высокай дзіцячай смяротнасці.

„Кволы арганізм дзіцяці ўсё менш здольны змагацца з неспрыячымі ўздзеяннямі дрэнных умоў жыцця. Адсутнасць догляду, на якую ён часта бывае асуджан, калі і бацька і маці працуюць або адзін з іх памёр, вельмі часта помсціць за сябе“[1]).

У многіх сем'ях жонка працуе па-за домам, таксама як і муж, у выніку чаго дзеці астаюцца зусім без догляду; іх або замыкаюць у доме, або аддаюць куды небудзь пад нагляд. Што дзіўнага, калі пры такіх умовах сотні дзяцей гінуць у выніку розных няшчасных выпадкаў. Нідзе ў іншым месцы не гіне пад калёсамі экіпажаў і пад капытамі коней, не топіцца і не згарае столькі дзяцей, як у вялікіх гарадах Англіі[2]). Гнеўна кідае Энгельс буржуазіі абвінавачванне ў сацыяльным забойстве. Тыя нязначныя меры, якія буржуазія прадпрымае для безапаснасці, „не закранаюць карэнняў зла“. „Становішча,—гаворыць Энгельс у гэтай сваёй юнацкай рабоце,—можа змяніцца толькі ў выпадку пераходу ўлады ў рукі рабочых“.

*Разумовая адукацыя*, маральнае выхаванне, якое буржуазія дае дзецям рабочых, нямногім адрозніваецца ад фізічнага выхавання.

З надзвычайнай чоткасцю, у класічна кароткай і моцнай фармуліроўцы Энгельс выразіў сутнасць той „адукацыі“, якую дае рабочым буржуазія: „Калі буржуазія дае рабочым жыць толькі пастолькі, паколькі гэта ёй неабходна, то нічога дзіўнага, калі яна і адукацыі дае ім толькі пастолькі, паколькі гэта ў яе інтарэсах[3]).

З мэтай ажыццяўлення гэтага класавага выхавання буржуазія адкрывае вельмі недастатковую колькасць школ. „Апрача таго, і гэтыя школы пастаўлены вельмі дрэнна: настаўнікі ў іх інваліды або іншыя ні на што не здольныя людзі, якія ідуць у настаўнікі, каб мець які-небудзь заработак і самі большай часткай пазбаўлены самых неабходных і элементарных звестак, не маюць патрэбных для настаўніка маральных якасцей і не падвяргаюцца ніякаму грамадскаму кантролю.“

Рабочыя патрабавалі ўсеагульнага абавязковага навучання; буржуазія (на той ступені, на якой знаходзілася англійская прамысловасць у першай палавіне XIX в.) усімі сіламі змагалася супроць абавязковага навучання.

Характарызуючы далей пастаноўку навучання ў даступных рабочым школах, Энгельс патрабуе *свецкай школы*, указваючы пры гэтым, што буржуазія ў сваіх інтарэсах насаджвае, наадварот, школу рэлігійную. У той перыяд пачатковае навучанне ў Англіі праводзілася галоўным чынам рэлігійнымі сектамі, і кожная секта, па трапнай характарыстыцы Энгельса, „тады толькі згодна прадаставіць небяспечную ў іншых адносінах адукацыю рабочаму, калі ён разам з асветай возьме і яго праціяддзе ў выглядзе догматаў, якія састаўляюць спецыяльную прыналежнасць кожнай секты“.

---

[1]) *Маркс и Энгельс*—Соч., т. III, стр. 399 (*Энгельс*—„Положение рабочего класса в Англии“).

[2]) *Маркс и Энгельс*—Соч., т. III, стр. 401 (*Энгельс*—„Положение рабочего класса в Англии“).

[3]) *Маркс и Энгельс*—Соч. т. III, стр. 402.

Калі-б нават школы сталі адкрывацца ўрадам, рэлігійнае выхаванне ў тым або іншым выглядзе, пакуль ва ўладзе стаіць буржуазія, праводзілася-б немінуча, таму што „міністр—паслухмяны раб буржуазіі".

Прыводзячы факты з справаздачы інспектароў і актаў абследвання, праведзеннага парламенцкімі камісіямі, Энгельс паказвае, што далей якога-небудзь абучэння чытанню, школы для дзяцей рабочых не ішлі: у многіх школах не абучалі нават пісаць, а тым больш пісаць арфаграфічна граматна.

Нарысаваўшы гэтае ўбогае буржуазнае „навучанне", Энгельс указвае, што рабочыя пачынаюць самі ўсведамляць свае інтарэсы і выпрацоўваць у практычным жыцці-барацьбе неабходныя веды: „Умовы, у якіх жыве гэты клас, такія, што яны даюць яму практычную асвету, якая не толькі замяняе гэты школьны хлам, але і абясшкоджвае звязаныя з ім зблытаныя рэлігійныя прадстаўленні. Англійскі рабочы, які ледзь умее чытаць і яшчэ менш пісаць, тым не менш добра ведае, у чым заключаюцца яго ўласныя інтарэсы і ў чым—інтарэсы ўсёй нацыі; ён ведае таксама, якія спецыяльныя інтарэсы буржуазіі і чаго ён ад апошняй можа чакаць [1]).

Маральнае выхаванне цесна звязана з рэлігійным і даецца рабочаму таксама толькі ў інтарэсах буржуазіі. Энгельс паказвае класавую прыроду маралі і ўскрывае сутнасць буржуазнай маралі і буржуазнага „маральнага выхавання".

У процівагу той убогай разумовай адукацыі, якую дае рабочаму буржуазія, і той мешаніне, якую прапаведвалі вульгарызатары, накшталт Е. Дзюрынга, Энгельс у сваім „Анты-Дзюрынгу" развівае станоўчыя патрабаванні навуковага комунізма ў галіне *разумовай адукацыі.*

Канец гэтай працы прысвечан пытанням выхавання і прадстаўляе разгорнутую праграму разумовай адукацыі, якой Маркс і Энгельс надавалі агромнае значэнне. Выказванні Энгельса па пытаннях школы і разумовай сістэматычнай адукацыі прадстаўляюць выключную цікавасць для педагога; таму спынімся на іх больш падрабязна.

Энгельс едка высмейвае Дзюрынга за тое, што апошні „школе будучага ўдзяляе столькі-ж увагі, колькі і аўтарскаму праву". Энгельс падкрэслівае тым самым, што пытанне аб школе ў соцыялістычным грамадстве патрабуе велізарнай увагі.

З лёгкадумнай павярхоўнасцю Дзюрынг лічыў, што ва *ўсеагульнай* народнай школе дзяцей будуць знаёміць з матэматыкай, пачынаючы з простага лічэння і канчаючы вышэйшай матэматыкай (інтэгральным вылічэннем). Энгельс высмейвае гэтае лёгкадумнае пражакцёрства, ясна даючы зразумець чытачу, што пры пабудове школьных вучэбных планаў і праграм неабходна: 1) улічваць узросныя асаблівасці дзяцей і пасільнасць для дзяцей прадпалагаемага навучальнага матэрыялу і 2) кожную навуку неабходна праходзіць ва ўласцівай ёй паслядоўнасці і сістэме, грунтоўна засвойваючы ўсе яе раздзелы.

З іроніяй па адрасу Дзюрынга Энгельс зазначае: „Гэта, аднак, зусім не значыць, што ў гэтай (г. зн. намячаемай Дзюрынгам—*Е. М.*) школе сапраўды будуць інтэгрыраваць і дыферэнцыраваць: зусім наадварот. *Там* будуць *вывучаць у сапраўднасці* зусім новыя элементы матэматыкі *ў цэлым*, якія маюць у зародку як звычайную элементар-

[1]) *Маркс и Энгельс*—Соч., т. III, стр. 405.

ную, так і вышэйшую матэматыку". Энгельс смяецца над „элементамі матэматыкі *ў цэлым*", даючы ясна зразумець, што матэматыка можа вывучацца толькі сістэматычна.

Гэтыя едкія заўвагі Энгельса па адрасу Дзюрынга б'юць таксама па метадычнаму пражакцёрству нашых „левакоў", комплекснай сістэме, метаду праектаў, дзе таксама праводзілася вывучэнне матэматыкі „ў цэлым" і ў „сапраўднасці".

З няменшай вастратой крытыкі выступае Энгельс *супроць упрашчэнства ў выкладанні навук* (супроць якога накіравана і пастанова ЦК ВКП(б) ад 25 жніўня 1932 г.). Дзюрынг лічыў, што заалогія і батаніка як апісальныя навукі „будуць служыць прадметам *лёгкай гутаркі*".

Прывёўшы гэтае выказванне Дзюрынга, Энгельс указвае, што батаніка і заалогія зусім не „апісальныя" навукі і што пры выкладанні прыродазнаўства неабходна скарыстаць навейшыя дасягненні біялагічных навук. Вялікае значэнне надае Энгельс у сістэме агульнай адукацыі *хіміі*.

Аперыруючы „левай" фразай, неразумеючы дыялектыкі, Дзюрынг лічыў, што з школы будучага павінны быць выкінуты літаратура і паэзія мінулых вякоў, так, нібы ў гэтай паэзіі (у тым ліку ў геніяльных творах Гётэ) сустракаюцца міфалагічныя вобразы. Энгельс і па гэтаму пытанню ярка ўскрывае вульгарызатарскі, упрашчэнскі падыход Дзюрынга да культурнай спадчыны мінулага, едка заўважаючы, што, напэўна, п. Дзюрынгу прыдзецца самому ўзяцца за паэтычную творчасць. Энгельс, такім чынам, вучыць нас цаніць мінулы вопыт чалавецтва.

Выступаючы супроць *ненавуковай* граматыкі, Энгельс падкрэслівае важнасць *гістарызма* пры выкладанні роднай мовы і патрабуе, каб вучні вывучалі граматыку навуковую, якая паказвае, як развівалася мова.

Вельмі важныя выказванні Энгельса адносна выкладання новых моў. „Веданне гэтых моў,—гаворыць Энгельс,—дае магчымасць людзям розных нацый разумець адзін другога і пашырае кругавід дзяцей той ці іншай нацыянальнасці". Пэўнае адукацыйнае значэнне прызнае Энгельс таксама за старажытнымі мовамі, адзначаючы іх інтэрнацыянальнае значэнне.

У перыяд, калі Энгельс пісаў работу „Анты-Дзюрынг", ішла барацьба паміж класічнай і рэальнай адукацыяй. Частка буржуазіі патрабавала рэформы школы, выстаўляючы ў якасці школьнага ідэала рэальную школу замест існаваўшай тады прускай класічнай гімназіі. Але далей гэтай рэформы патрабаванні буржуазіі і дробнай буржуазіі не ішлі і не маглі ісці: буржуазны змест школьнага выкладання захоўваўся.

Разабраўшы погляды Дзюрынга на разумовую адукацыю, Энгельс паказвае, што пры ўсім „левым" утапічным пражакцёрстве Дзюрынг мысліць школу ў соцыялістычным грамадстве толькі як *рэфарміраваную* прускую гімназію. Справа-ж заключаецца ў неабходнасці *прынцыпова іншага зместу* школьнай работы ў соцыялістычным грамадстве, у зусім іншай арганізацыі школы, якую будзе будаваць рабочы клас пасля заваявання ім улады.

Ужо ў ранняй сумеснай рабоце, у „Комуністычным маніфесце" (1848 г.), Маркс і Энгельс ускрылі *залежнасць выхавання ад грамадскага ладу*. Па пытанню аб узаемаадносінах сямейнага і грамадскага выхавання яны высунулі на першае месца *выхаванне грамадскае*. Яны

ярка паказалі, што сям'я ў капіталістычным грамадстве разлагаецца: „Буржуазныя разглагольстваванні аб сям'і і выхаванні, аб задушэўных адносінах бацькоў да дзяцей унушаюць тым больш агіднасці, чым больш разбураюцца ўсе сямейныя сувязі сярод пралетарыята дзякуючы буйнай прамысловасці і чым больш дзеці рабочых ператвараюцца ў простыя прадметы гандлю і рабочыя інструменты" [1]). Бацькі-рабочыя вымушаюцца самім капіталістычным ладам да эксплаатацыі сваіх дзяцей. Толькі знішчэнне буржуазнага ладу можа наладжыць канец гэтай эксплаатацыі. Толькі заваяванне ўлады рабочым класам можа ўстанавіць правільны ўдзел сям'і ў выхаванні дзяцей сумесна са школай.

У многіх месцах сваіх твораў („Комуністычны маніфест", „Прынцыпы комунізма", „Анты-Дзюрынг") Энгельс указвае на неабходнасць *палітэхнічнай* адукацыі, на *злучэнне прадукцыйнай працы з навучаннем.* Выхаванне, па Марксу і Энгельсу, як вядома з рэзалюцыі Жэнеўскага кангрэса І Інтэрнацыянала, састаіць з разумовай адукацыі (змест яе, як мы бачылі вышэй, Энгельс падрабязна раскрыў у „Анты-Дзюрынгу"), фізічнага выхавання (у „Анты-Дзюрынгу" Энгельс гаворыць аб неабходнасці гімнастыкі) і палітэхнічнай адукацыі. Паўтараючы формулу Маркса адносна сутнасці палітэхнічнай адукацыі, Энгельс у „Анты-Дзюрынгу" гаворыць, што „вызваленае ад пут капіталістычнай вытворчасці" грамадства „створыць новае пакаленне ўсебакова развітых вытворцаў, якія разумеюць навуковыя асновы ўсёй прамысловай вытворчасці і вывучаюць практычна кожны паасобку ўвесь рад галін вытворчасці ад пачатку да канца" [2]).

У гэтай фразе, як і ў цэлым радзе выказванняў Маркса, указваецца неабходнасць палітэхнічнай адукацыі, высвятляецца сутнасць апошняй і падкрэсліваецца, што ажыццяўленне палітэхнічнай адукацыі магчыма толькі пасля заваявання ўлады рабочым класам.

Тую-ж думку аб немагчымасці палітэхнічнай адукацыі ў капіталістычным грамадстве мы сустракаем часта ў Энгельса. Так, напрыклад, Энгельс цыціруе поўнасцю мысль Маркса („Капітал", т. І): „З фабрычнай сістэмы, як гэта можна ў падрабязнасці прасачыць у Роберта Оуэна, узніклі зародкі *будучага* выхавання, пры якім для ўсіх дзяцей звыш пэўнага ўзросту будуць злучаны прадукцыйная праца з навучаннем і гімнастыкай не толькі як спосаб павелічэння грамадскай вытворчасці, але як адзіны спосаб вытворчасці ўсебакова развітых людзей" [3]).

Гаворачы аб быстрым росце тэхнікі ў капіталістычным грамадстве, Энгельс, спасылаючыся на Маркса, указвае, што гэты рост тэхнікі патрабуе ўсебаковай рухомасці рабочага, умення прыстасавацца да новых машын, умення хутка пераключыцца на іншую работу. Аднак вытворчыя адносіны—прыналежнасць сродкаў вытворчасці буржуазіі і ўлада апошняй—не дазваляюць увесці палітэхнічную адукацыю ў капіталістычным грамадстве. У галіне выхавання, як і ў іншых галінах, наглядаецца звычайная супярэчнасць капіталістычнага грамадства: супярэчнасць паміж патрэбнасцямі, якія высоўваюцца развіццём вытворчых сіл, і тормазам, які параджаецца капіталістычнымі вытворчымі адносінамі. Развіццё буйнай машыннай вытворчасці патрабуе палітэхнічнай адукацыі; капіталістычны лад робіць апошнюю немагчымай.

---

[1]) *Маркс и Энгельс*—„Комуністычны маніфест". Аб разлажэнні сям'і і недахопах сямейнага выхавання. Гл. таксама—*Энгельс*—„Становішча рабочага класа ў Англіі".
[2]) *Маркс и Энгельс*—Соч. т. XIV, стр. 302.
[3]) *Маркс и Энгельс*—Соч. т. XIV, стр. 329 („Анти-Дзюринг").

Мэтай выхавання ў соцыялістычным грамадстве Энгельс, як і Маркс лічыць *усебаковае развіццё чалавека.*

Вытворчая праца ў соцыялістычным грамадстве зробіцца сродкам „вызвалення, даючы кожнай асобе магчымасць развіваць ва ўсіх кірунках і праяўляюць усе свае здольнасці—як фізічныя, так і духоўныя“ [1]).

Неабходнай умовай для ўсебаковага развіцця чалавека з'яўляецца заваяванне ўлады рабочым класам. У буржуазным грамадстве, хоць педагогі буржуазіі і дробнай буржуазіі любяць гаварыць аб усебаковым развіцці асобы, аб развіцці шматбаковай цікавасці і т. д.,—у буржуазным грамадстве, дзе, па выразу Энгельса, „чалавек раздроблен на часткі атупляючай сістэмай раздзялення працы“—гэтае ўсебаковае развіццё чалавека немагчыма.

Заветы Маркса і Энгельса ў галіне выхавання, развітыя геніем Леніна і Сталіна, ажыццяўляюцца совецкай школай. У прамове на III з'ездзе комсамола, у „Заметках на тезисы Крупской о политехнизме“ і ў радзе іншых артыкулаў і прамоў Леніна, у праграме ВКП(б), у гістарычных пастановах ЦК ВКП(б) аб школе ад 5/IX 1931 г., 25 жніўня 1932 г. і інш., у выступленнях т. Сталіна мы маем далейшае развіццё педагагічных прынцыпаў Маркса—Энгельса.

Выключнае значэнне для школы і кожнага педагога мае прамова т. Сталіна на выпуску ваенных акадэмікаў 4 мая 1935 г., якая заклікае да ўважлівых, беражлівых адносін да чалавека. Кадры вырастаюць на рабоце, у працэсе барацьбы і практыкі соцыялістычнага будаўніцтва. Пачатак гэтага вырошчвання кадраў ажыццяўляе важнейшае звяно соцыялістычнага будаўніцтва—школа.

——

*А хіба вашае выхаванне не вызначаецца грамадствам? Не вызначаецца грамадскімі адносінамі, у якіх вы выхоўваеце, не вызначаецца прамым ці ўскосным умяшаннем грамадства праз школу і т. д.? Комуністы не выдумляюць уплыву грамадства на выхаванне, яны толькі змяняюць яго характар, яны вырываюць яго з пад уплыву пануючага класа.*

*(К. Маркс і Ф. Энгельс—„Маніфест комуністычнай партыі“)*

(Народный учитель, № 4, 1935 г.).

---

[1]) *Маркс и Энгельс*—Соч., т. XIV, стр. 299.

*А. ПІНКЕВІЧ*

# Энгельс аб выхаванні

Гаварыць аб Энгельсе, не гаворачы аб Марксе, немагчыма. Гэта верна ў адносінах іх біяграфіі, гэта верна і ў адносінах іх навуковай творчасці. І ў сваёй палкай палітычнай барацьбе і ў узвядзенні грандыёзнага будынку дыялектыка-матэрыялістычнага светапогляду яны звязаны неразрыўна.

Выкрываючы сучасную ім практыку буржуазнага выхавання, як выхавання класавага, вялікія асновапаложнікі марксізма проціпаставілі яму высокі ідэал комуністычнага выхавання, сапраўды ўсебаковага і гарманічнага. Злучэнне навучання з вытворчай працай і наадварот, палітэхнізацыя гэтага навучання, арганічная сувязь паміж сабой „духоўнага, фізічнага і палітэхнічнага навучання, правільная арганізацыя вучэбнага плана, глыбокія змены ўсяго ўнутранага зместу навучання (матэрыялізм, дыялектыка, антырэлігійнасць, інтэрнацыяналізм, глыбокі актывізм усяго навучання і інш.)—такія галоўнейшыя рысы сістэмы педагагічных поглядаў Маркса і Энгельса.

Найбольш поўна Энгельс спыняецца на пытаннях педагагічнага парадку ў трох сваіх работах: „Становішча рабочага класа ў Англіі“ (1845 г.), „Прынцыпы комунізма“ (1847 г.), „Анты-Дзюрынг“ (1878 г.).

Першы з пералічаных вышэй твораў дае выдатную па сваёй сіле і яркасці характарыстыку буржуазнай народнай „асветы“. Асноўныя палажэнні захоўваюць сваю сілу і значэнне да гэтага часу. Класавы, эксплаататарскі характар буржуазнай асветы мас вызначан Энгельсам у формуле, якая можа быць названа законам па сваёй дакладнасці і сцісласці.

„Калі буржуазія,—гаворыць Энгельс,—дае рабочым жыць толькі пастолькі, паколькі гэта неабходна, то нічога дзіўнага, калі яна і адукацыі дае ім усяго столькі, колькі гэта ў яе інтарэсах“.

У „Прынцыпах комунізма“ Энгельс выходзіць з агульнага, прынцыповага палажэння аб тым, што „прамысловасць, упраўляемая ўсім грамадствам планамерна і ў грамадскім інтарэсе, адчувае патрэбу ў людзях, з усебакова развітымі здольнасцямі, у людзях, здольных арыентавацца ва ўсёй сістэме вытворчасці“. Паколькі раздзяленне працы знікне зусім, то і выхаване прыме істотна іншы характар. Яно „дазволіць маладым людзям хутка знаёміцца з усёй сістэмай вытворчасці; яно дазволіць ім пачаргова пераходзіць ад адной галіны да другой, у залежнасці ад патрэбнасцей грамадства і іх уласных здольнасцей. Такім чынам выхаванне вызваліць іх ад той аднабаковасці, да якой вымушае ў цяперашні час кожнае сучаснае раздзяленне працы“.

У апошняй главе „Анты-Дзюрынга“ Энгельс, ізлагаючы педагагічныя погляды Дзюрынга, падвяргае іх самай жорсткай крытыцы. Энгельс не закранае ўсіх педагагічных праблем, закранутых Дзюрынгам. Ён абмяжоўваецца, як ён выражаецца, „аглядам навук, якім прадпалагаюць абучаць юнацтва абодвух полаў“ у будучым грамадстве Дзюрынга. Перш за ўсё Энгельс гаворыць аб матэматыцы, іранічна ізлагаючы прапанову Дзюрынга. „Там перш за ўсё,—гаворыць Энгельс—іх будуць абучаць матэматыцы і іменна так, што круг усіх прынцыповых паняццяў і спосабаў, пачынаючыся з простага лічэння і складання і заканчваючыся інтэгральным вылічэннем, будзе „зусім вычарпаны“. (Ф. Энгельс. „Анты-Дзюрынг“. Партиздат. 1934 г., стр. 232.)

Ад матэматыкі Энгельс пераходзіць да пытанняў выкладання прыродазнаўства. Тут Энгельс звяртае ўвагу на тое, што Дзюрынг прапануе даць заалогію і батаніку пераважна апісальную.

Па гэтаму поваду Энгельс іранічна заўважае: „Пан Дзюрынг і да гэтага дня ведае толькі адну, „пераважна апісальную батаніку і заалогію“. Уся арганічная марфалогія, якая ахапляе сабой параўнальную анатомію, эмбрыялогію і палеанталогію арганічнага свету, не знаёма яму нават па назве“. (Ф. Энгельс. Там-жа стар. 232).

Вялікую цікавасць прадстаўляе заўвага Энгельса аб вывучэнні *жывых замежных і старажытных моў*. Дзюрынг рашуча выказваецца супроць вывучэння старажытных моў і лічыць вывучэнне замежных моў справай другараднай. Энгельс жорстка высмейвае Дзюрынга: „Нацыянальная абмежаванасць сучаснага чалавека з'яўляецца яшчэ занадта касмапалітычнай для пана Дзюрынга,“—піша Энгельс.—„Ён хоча знішчыць і тыя два рычагі, якія пры сучасным ладзе даюць хоць некаторую магчымасць стаць вышэй абмежаванага нацыянальнага пункту гледжання“. (Ф. Энгельс. Там-жа стар. 233.)

Энгельс рашуча выступае за вывучэнне *класікаў*. Ён здзекваецца над намерамі Дзюрынга „ствараць занова паэзію“. Нечага і думаць, што Дзюрынг у якой-небудзь меры зразумеў сапраўдную ролю *працы ў школе* будучага. Энгельс указвае на тое, што дзюрынгаўскія размовы аб працы ў школе не маюць пад сабой ніякай падставы, бо ў яго грамадстве „існуючае цяпер раздзяленне працы ў сваіх істотных рысах захоўваецца“. (Ф. Энгельс. Там-жа, стар. 234.)

Калі паспрабаваць падагуліць тое станоўчае, што дана Энгельсам у форме крытычнай, то мы атрымаем даволі поўную і вельмі чоткую вучэбную праграму.

Па-першае, школа будучага—гэта масавая палітэхнічная школа, у якой павінны быць злучаны вытворчая праца з вучэннем і гімнастыкай; пры тым гэта павінна быць не толькі спосабам павелічэння грамадскай працы, але *адзіным* спосабам выхавання і абучэння ўсебакова развітых людзей.

Па-другое, Энгельс стаіць за сістэматычнае ізлажэнне матэматыкі і за эвалюцыйна-дыялектычнае выкладанне біялогіі. Побач з такімі прадметамі, як заалогія, батаніка, Энгельс патрабуе таксама і выкладання хіміі.

Па-трэцяе, родная мова павінна быць вывучана гістарычна. Энгельс падкрэслівае вялікае значэнне замежных моў, а ва ўмовах капіталістычнага грамадства ён прызнае станоўчае значэнне і за мовамі старажытнымі. Энгельс не адмаўляецца ад паэтаў мінулага.

І, нарэшце, зусім відавочна, што ў вучэбным плане павінна заняць віднае месца фізкультура (гімнастыка).

Такавы тыя вывады, якія мы павінны зрабіць у рэзультаце вывучэння некалькіх старонак, прысвечаных Энгельсам у „Анты-Дзюрынгу“ вучэбнаму плану школы. Пункт гледжання, у іх адлюстраваны, паражае сваёй яснасцю і чоткасцю. У парадку самакрытыкі неабходна адзначыць, што гэтыя старонкі Энгельса не падвяргаліся ўважліваму аналізу нашымі совецкімі педагогамі на працягу многіх год пасля Кастрычніцкай рэволюцыі. А калі-б гэтыя ўказанні былі своечасова зразуметы і адлюстраваны ў нашай педагагічнай тэорыі і практыцы, многія скажэнні не мелі-б месца. Яўна адмоўныя адносіны Энгельса да фузіянізма, камплексавання, канцэнтрацыі і т. д., рашучае выступленне Энгельса за замежныя мовы, за вывучэнне паэтаў-класікаў, за вывучэнне хіміі і гістарычны падыход як да заалогіі і батанікі, з аднаго боку, так і да роднай мовы—з другога—усё гэта мела-б агромны аздараўляючы ўплыў на нашы школы і ў прыватнасці на работу нашых Наркомасветы.

Мы павінны падкрэсліць, што, як гэта ні дзіўна, да гэтага часу педагагічныя погляды Маркса і Энгельса не вывучаны ў дастатковай меры. Сорамна сказаць, але-ж гэта зусім бясспрэчны факт: да гэтага часу няма ні адной глыбокай манаграфіі, прысвечанай педагагічным поглядам Маркса і Энгельса. Падобнае вывучэнне дало-б багатыя рэзультаты, бо ў работах Маркса і Энгельса ёсць указанні па ўсіх важнейшых пытаннях нашай педагогікі. Амаль у такім-жа становішчы знаходзіцца і справа вывучэння педагагічных выказванняў *Леніна і Сталіна*. У дні, калі мы адзначаем саракавую гадавіну смерці *Энгельса*, неабходна было-б яшчэ раз і настойліва паставіць перад Наркомасветы і навукова-даследчымі ўстановамі патрабаванне стварэння сур'ёзных работ, прысвечаных педагагічным поглядам асновапаложнікаў марксізма і ленінізма — *Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна*.

(„ЗКП“, № 106 ад 6/VIII—35 г.).

---

БАРШЧЭЎСКАЯ І БРАЗОЎСКАЯ

# Аб некаторых выніках 1934-35 навучальнага года

Наша школа, узброеная рашэннямі ЦК ВКП(б), акружаная клопатамі і вялікай увагай нашай партыі, яе правадыра таварыша Сталіна, совецкага ўрада і ўсёй пролетарскай грамадскасці мае ў галіне вучэбна-выхаваўчай работы за мінулы 1934-35 навучальны год рад безумоўных дасягненняў.

Матэрыяльная база школы значна вырасла. Школа мае ўсе даныя, каб забяспечыць больш высокую якасць вучэбна-выхаваўчай работы, набыць як знадворны так і ўнутраны культурны выгляд, навесці сапраўдны большэвіцкі парадак.

Аднак, не гледзячы на гэтыя даныя, нашы школы недастаткова яшчэ вядуць барацьбу за культурны выгляд, за ўнядрэнне сапраўднага большэвіцкага парадку. Большасць школ мае няўтульны выгляд. Найчасцей, зайшоўшы ў школу, мы можам бачыць некалькі коса і крыва павешаных на сценах партрэтаў, упрыгожаных даўно пажоўклаю запыленаю зелянінаю, або паліняўшаю калісьці чырвонаю паперай, некалькі карава напісаных і з памылкамі лозунгаў, якія вісяць ад Мая да Кастрычніка, а то і ад Мая да Мая. Сцены звычайна абвешаны табліцамі, дыяграмамі, карцінамі, розным „дыдактычным матэрыялам“, які толькі збірае пыл і адцягвае ўвагу дзяцей, а падчас і перашкаджае заняткам. У школе брудна, пыльна, падлога не мытая, сцены і парты парысаваны, дзеці сядзяць на занятках у вопратцы, у школе халодна.

Аднак мы маем ужо не мала і такіх школ, якія па шляху прывядзення школы ў сапраўды культурны выгляд зрабілі вялікі крок наперад. Прыкладам гэтага могуць служыць Бельская НСШ Полацкага раёна, Танежская НСШ Тураўскага раёна і інш. Гэта звычайныя вясковыя школы, але ў іх чыста, утульна, школа і школьны двор азяленены. У Танежскай НСШ, напрыклад, дырэктар школы т. Трухан паклапаціўся прывесці ў культурны выгляд нават вуліцу каля школы, праклаў тратуары і т. д. Вучні, настаўнікі, кіраўніцтва школы на працягу ўсяго года многа энергіі патрацілі на тое, каб упрыгожыць школу прывесці яе ў сапраўды культурны выгляд. Дзеці асабліва любілі сваю школу і гэтая любоў дзяцей і настаўнікаў да школы, іх адданасць у рабоце заражала бацькоў. Яны з вялікай ахвотай дапамагалі школе ў любым яе пачынанні.

1935-36 навучальны год павінен быць годам навядзення ўзорнага парадку, чыстаты і культурнасці ў школе. За гэту справу павінен змагацца кожны дырэктар, кожны загадчык, кожны настаўнік у сваім класе.

Гэту работу трэба пачаць адразу-ж, у пачатку навучальнага года. Кожная школа павінна быць чыстай, утульнай, упрыгожанай, азяленёнай. Трэба кожную школу агарадзіць, азеляніць двор, зрабіць клумбы, насадзіць кветак.

Культурны выгляд школы, належнае абсталяванне яе з'яўляецца адной з неабходных умоў, забяспечваючай высокаякасную пастаноўку вучэбна-выхаваўчай работы ў школе. Але разам з тым не трэба забывацца і аб тым, што высокая якасць вучэбна-выхаваўчай работы, высокая культура педагагічнай працы з'яўляецца адной з рашаючых умоў падняцця культурнасці школы.

Вынікі 1934-1935 навучальнага года па матэрыялах 64 раёнаў паказваюць нам, што мінулы навучальны год яшчэ не з'явіўся годам ліквідацыі „карэннага недахопу" школы. Аб гэтым сведчыць 7,9 проц. вучняў другагоднікаў, і 10,3 проц. атрымаўшых іспыты на восень, г. зн. 18,2 проц. непаспяваючых. Гэта надзвычайна вялікі процант браку ў нашай рабоце. Ды мы яшчэ і не гарантаваны, што гэтая лічба паспяховасці цалкам адпавядае сапраўднасці. Яшчэ часта некаторыя настаўнікі ў пагоні за высокім працантам паспяховасці пры ацэнцы ведаў вучняў праяўляюць ліберальныя адносіны, зніжаюць патрабаванні да вучняў. Мы павінны рашуча змагацца з такімі з'явамі, змагацца за высокую паспяховасць вучняў, за высокую якасць ведаў. У Совецкай школе не можа быць месца „очковтирательству", гнілому лібералізму ў ацэнцы ведаў. Наша ацэнка павінна цалкам адпавядаць фактычным ведам вучняў. Абсалютна недапушчальным з'яўляецца такое становішча, калі вучні, якія атрымалі пасведчанні аб сканчэнні НСШ і маюць добрыя ацэнкі паспяховасці, пры паступленні ў тэхнікумы правальваюцца на іспытах і ў самай простай дыктоўцы робяць вялікую колькасць памылак.

Яшчэ не зусім добра абстаіць справа ў нашых школах з наведваннем вучняў. У радзе школ мы маем частыя спазненні, пропускі заняткаў. Абсалютна ненармальна і такое становішча, калі к канцу навучальнага года мы маем у сярэднім 5,3 проц. адсеву. У паасобных-жа раёнах гэты процант яшчэ вышэйшы. Дзержынскі, Кіраўскі, Бярэзінскі, Бягомльскі, Буда-Кашалёўскі, Барысаўскі і іншыя раёны далі 7 проц., Грэскі 8,3 проц., а Добрушскі нават 19 проц. адсеву. Гэта з'яўляецца вынікам таго, што кіраўніцтва гэтых школ, увесь педагагічны калектыў не правялі належнай работы каб забяспечыць акуратнае наведванне дзяцей школы і недапусціць адсеву па няўважлівых прычынах. Многія дырэктары і загадчыкі школ не лічаць сваім абавязкам загадзя паклапаціцца аб падвозе вучняў, аб інтэрнатах, аб гарачых снеданнях, належна ацяпліць школу. Не вядзецца адпаведная выхаваўчая работа з бацькамі вучняў, а злосных зрыўшчыкаў не прыцягваюць да адказнасці. Выключна дрэнна абстаяла справа ў цэлым радзе школ з раскладам урокаў, „Устаноўленая НКА сістэма ацэнкі паспяховасці вучняў не дае ўяўлення аб фактычных ведах вучняў і вядзе на практыцы да зніжэння ўзроўню вучобы".

Пытанням рэжыму і свядомай дысцыпліны школы ўсё яшчэ ўдзялялі зусім недастатковую ўвагу. Зразумела, што ўсё гэта рэзка адбівалася на якасці вучэбна-выхаваўчай работы.

Зараз паспрабуем даць кароткі аналіз становішча выкладання паасобных дысцыплін.

1934-35 навучальны год характарызуецца падняццем граматнасці вучняў, як у галіне роднай, так і ў галіне другой і трэцяй мовы. Значная работа праведзена школамі па падняццю арфаграфічнай гра-

матнасці, большая ўвага звернута на каліграфію пісьма, палепшыўся почарк вучняў, вучнёўскія сшыткі ў значнай колькасці школ чыстыя, акуратныя, абкладзены. Да такіх школ адносяцца Гомельская ўзорная СШ імя Комінтэрна, Урэцкая ўзорная СШ і 1-я Слуцкая ўзорная СШ, Менскія базавыя 5, 4, 36 і 27 сярэднія школы, Цěляшоўская НСШ, Уваравіцкага раёна, Багуціцкая пачатковая двухкамплектовая школа Ельскага раёна, Старасельская НСШ Шклоўскага раёна і інш.

Вывучэнню арфаграфіі і граматыкі ў школах адведзена дастатковае месца. Праводзіцца многа арфаграфічных практыкаванняў. Значна акуратней і лепш чым у мінулыя гады выпраўляюцца вучнёўскія сшыткі. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў старэйшых класах становішча з граматнасцю вучняў значна горшае, чым у малодшых. Тлумачыцца гэта тым, што ўпартая работа над павышэннем граматнасці вучняў за апошнія 3 гады дала ўжо свае вынікі ў малодшых класах, а старэйшыя класы яшчэ не ліквідавалі спадчыны мінулых гадоў.

Не гледзячы на рост паспяховасці па мовах у параўнанні з мінулымі гадамі, граматнасць вучняў у большасці школ і на сёнешні дзень яшчэ нездавальняючая. Далёка не ва ўсіх школах вядзецца разгорнутая барацьба ўсяго настаўніцкага калектыва за культуру вуснай і пісьмовай мовы. У вучнёўскіх сшытках яшчэ многа памылак.

Выпраўляюцца вучнёўскія сшыткі не сістэматычна. Звычайна выпраўляецца толькі кантрольная работа, а класныя практыкаванні і хатнія заданні ў большасці школ зусім не выпраўляюцца. Пры гэтым выпраўленне сшыткаў часткаю настаўнікаў робіцца няўважліва, выпраўляюць алоўкам, пішуць нечытэльна, пакідаюць пасля выпраўлення памылкі, не праводзяць амаль ніякай работы пасля выпраўлення памылак. З боку часткі настаўнікаў заўважаюцца ліберальныя адносіны пры ацэнцы пісьмовых работ, аб чым вельмі ярка сведчаць вынікі іспытаў і матэрыялы выбарачнага абследвання.

Слаба яшчэ засвоены вучнямі асобныя раздзелы як з марфалогіі, так і з сінтакса. Пры разборы сказаў вучні 5-га, а часамі 6-га і 7-га класаў блытаюць часціны мовы і часціны сказаў: назоўнік з дзейнікам, выказнік з дзеясловам; дрэнна разбіраюцца ў зменах канчаткаў па склонах, вельмі блытаюць назоўны і вінавальны, вінавальны і родны склоны.

Асноўнай прычынай нізкай граматнасці вучняў з'яўляецца недастатковая падрыхтаванасць часткі настаўнікаў, дрэннае ўладанне методыкай выкладання і недастатковая ўвага да павышэння сваёй кваліфікацыі. Граматыка часткай настаўнікаў прыпадносіцца схаластычна, нецікава, методыка работы вельмі аднастайная: запісванне прыкладаў на дошцы і ў сшытках вучняў, разбор іх, вывады—кожны дзень адны і тыя-ж прыёмы работы. Формы работы таксама аднастайныя: дыктоўка, практыкаванні, спісванне. Настаўнікі не ўжываюць цікавых форм работы па развіццю вуснай і пісьмовай мовы, мала практыкуюць вусныя і пісьмовыя работы творчага парадку—пераказы, апавяданні, самастойныя ўкладанні і інш.

Калі ў справе падняцця граматнасці і аўладання граматыкай мы маем ужо некаторыя дасягненні, то значна горш абстаіць справа з развіццём вуснай і пісьмовай мовы. Вучні не ўмеюць звязна выражаць свае думкі, не ўладаюць літаратурнай мовай, маюць надзвычайна бедны запас слоў. Пісьмовая мова вучняў нездавальняючая і з боку стылю. Яны не ўмеюць будаваць сказаў, у выніку чаго часта атрымліваецца бяссэнсіцца, або нават скажаецца сэнс напісанага. Самі настаўнікі часта, выпраўляючы пісьмовыя работы, не звяртаюць увагі на

чыстату мовы, не выпраўляюць няправільных выразаў. Выкладчыкі мовы і літаратуры, а больш за ўсё гэта датычыцца выкладчыкаў астатніх дысцыплін, не сочаць за культурай веснай мовы вучняў. Самі настаўнікі не сочаць за культурай сваёй уласнай мовы, дапускаюць розныя правінцыялізмы, няграматныя стылістычныя фразы, ужываюць часта змешаную беларуска-рускую, ці наадварот, руска-беларускую мову.

Веды вучняў у галіне другой і трэцяй мовы, асабліва рускай у вясковых школах, яшчэ астаюцца слабымі. Зрухі за гэты год зусім нязначныя. Гэта тлумачыцца тым, што часта самі настаўнікі вельмі дрэнна ведаюць рускую мову, на ўроках рускай мовы і літаратуры гавораць на змешанай руска-беларускай мове. Пры выкладанні другой і трэцяй мовы не ўлічваецца спецыфіка гэтых моў у параўнанні з роднай мовай. Настаўнікі не прадумваюць метадаў, прыёмаў выкладання гэтых дысцыплін.

Такое становішча выкладання мовы нас зусім не можа задаволіць. У надыходзячым навучальным годзе прадстаіць яшчэ вялікая работа па ліквідацыі ўсіх адзначаных недахопаў.

Не аслабляючы работы над правапісам і граматыкай, а наадварот, узмацняючы яе, настаўнікі ў новым навучальным годзе павінны звярнуць асаблівую ўвагу на развіццё вуснай і пісьмовай мовы. Неабходна ўжываць рознастайныя віды пісьмовых работ творчага парадку, упарта змагацца за культуру пісьмовай і вуснай мовы вучняў, абавязкова выпраўляць мову вучняў, упарта змагаючыся над падняццем культуры мовы самога настаўніка.

З гэтай задачай школа справіцца, калі выкананне яе стане абавязкам не толькі выкладчыкаў мовы, але і ўсіх настаўнікаў. Работа адзіным фронтам усяго настаўніцкага калектыва школы—залог поспеху ў падняцці граматнасці вучняў.

За мінулы навучальны год школа дабілася пэўных дасягненняў у выкладанні літаратуры. Значна больш увагі выкладчыкі сталі звяртаць на тое, каб вучні ведалі тыя мастацкія творы, якія яны разбіраюць, сталі больш увагі звяртаць на спецыфіку літаратуры, разбіраць літаратурныя творы з пункту гледжання формы, мастацкіх сродкаў, характэрных асаблівасцей пісьменніка і т. д.

Аднак трэба падкрэсліць, што такіх настаўнікаў не многа. Гэта—выкладчыкі лепшых школ, найбольш кваліфікаваныя настаўнікі. Асноўная-ж маса выкладчыкаў літаратуры вясковых НСШ не мае спецыяльнай падрыхтоўкі і слаба спраўляецца з выкладаннем літаратуры.

Выкладанне літаратуры ў мінулым навучальным годзе мела яшчэ многа недахопаў. Не зжыта яшчэ соцыялагізацыя ў выкладанні мастацкай літаратуры. Ёсць яшчэ выпадкі, калі ўрокі літаратуры ператвараюцца ва ўрокі грамадазнаўства. Пры разборы твора вядуцца разважанні наконт эпохі, наконт падзей, наконт пісьменніка наогул, а толькі не па сутнасці данага твора. Не рэдкі выпадкі, калі вучні разбіраюць твор, не чытаўшы яго, па расказу настаўніка.

У мінулым навучальным годзе 8—10 класы працавалі без праграм па беларускай літаратуры, а 9 і 10 класы без падручнікаў. Гэта вядома з'явілася вялікай перашкодай у рабоце выкладчыкаў літаратуры. К новаму навучальнаму году НКА выдае праграмы і падручнікі для ўсіх класаў сярэдняй школы.

У гэтым навучальным годзе трэба дабіцца карэннага палепшання ў выкладанні літаратуры, зрабіць яе сапраўдным сродкам комуністычнага выхавання. Нельга дапускаць нават і думкі, каб вучні вывучалі

творы, не чытаўшы іх. Трэба выхоўваць у вучняў любоў да літаратуры, жаданне чытаць, зацікаўленасць, уменне аналізаваць творы.

Выкладчыкі літаратуры павінны рашуча вызваліцца ад социялагізавання. Кожны твор неабходна разбіраць з пункту гледжання літаратурнай спецыфікі, разбіраць вобразы, якія паказвае аўтар у творы, мастацкія сродкі, пры дапамозе якіх аўтар абрысоўвае даныя вобразы, развівае галоўную думку твора. Аднак нельга затушоўваць і класавага характару літаратуры.

Пастанова ЦК ВКП(б) аб выкладанні гісторыі і геаграфіі зрабіла вялікі пералом у выкладанні гэтых дысцыплін. За мінулы навучальны год мы маем некаторыя дасягненні у выкладанні гісторыі ў школе. Урокі гісторыі насычаны фактычным матэрыялам, вучні лепш ведаюць гістарычныя факты, храналогію, карту. На ўроках ужываецца дыдактычны матэрыял (карціны, дыяпазітывы і іншы ілюстрацыйны матэрыял). Можна прывесці ў прыклад некалькі выкладчыкаў гісторыі, якія ўзорна паставілі выкладанне гісторыі. Такімі выкладчыкамі з'яўляюцца: настаўніца Элькінд—23-я Віцебская ўзорная СШ, Галкіна—7-я Менская ўзорная НСШ, Сабалеўскі—20-я Менская СШ, Фейгінберг—Гомельская ўзорная СШ імя Комінтэрна, Сталярова—Лельчыцкая СШ і інш.

Аднак у выкладанні гісторыі ёсць яшчэ цэлы рад буйнейшых недахопаў. Частка настаўнікаў, жадаючы пазбавіцца социялагізавання і схематызма, ператварае гісторыю ў факталогію, дае многа фактаў, дат, не падкрэсліваючы больш важных з іх, заграмаджае памяць вучняў часта непатрэбнымі дробязямі. Настаўнікі не ўстанаўліваюць прычыннай сувязі паміж асобнымі фактамі, не робяць належных вывадаў, не аналізуюць фактаў, не развіваюць у вучняў гістарычнай перспектывы. Такое выкладанне гісторыі не можа забяспечыць марксісцка-ленінскага разумення развіцця гістарычнага працэса. Тут неабходна барацьба на два фронты—як з голым схематызмам і социялагізацыяй, так і з факталогіяй, награмаджэннем гістарычных фактаў без аналіза, сістэмы, устанаўлення прычыннай сувязі, марксісцкай ацэнкі фактаў і высвятлення тых вывадаў, да якіх гэтыя факты прыводзяць. Апрача гэтага ў паасобных выкладчыкаў гісторыі заўважаюцца факты скажэнняў, што з'яўляецца вынікам слабай кваліфікацыі настаўнікаў, якія не авалодалі марксісцка-ленінскай тэорыяй, ці ў асобных выпадках праяўленнем класава-варожых настрояў, выразіўшыхся ў прытаскванні трацкісцкай кантрабанды (выкладчык Антоненка—13-ая Віцебская СШ).

Мы павінны адзначыць, што рэволюцыйная пільнасць з боку кіраўнікоў школ і саміх выкладчыкаў гісторыі ў адносінах выкладання гэтага прадмета была далёка не на вышыні.

Умовы работы выкладчыкаў гісторыі ў мінулым годзе ў сувязі з адсутнасцю адпаведнага падручніка, неабходнага дыдактычнага матэрыялу, карт, былі цяжкія. Гэта, вядома, не магло не адбіцца на якасці выкладання.

Выкладчыкам гісторыі, дырэктарам школ у гэтым пытанні трэба праявіць максімум ініцыятывы. Неабходна з самага пачатку навучальнага года прадумаць і прадугледзіць абсталяванне лекцый па гісторыі. Неабходна выкарыстаць увесь дыдактычны матэрыял, які ёсць у распараджэнні школы, падрыхтаваць сваімі сіламі некаторы дыдактычны матэрыял, выкарыстоўваць гістарычную мастацкую літаратуру,

звязацца з міжбібліятэчным абанементам Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі, праз які можна забяспечыць школу патрэбнай літаратурай як сучаснай, так і дарэволюцыйнай. У гэтым годзе выкладанне гісторыі пачнецца з 3 класса. Ад выкладчыкаў патрабуецца сур'ёзная напружаная работа, каб забяспечыць марксісці вытрыманае выкладанне гэтага курса. Папулярнасць ні ў якім разе не павінна дасягацца за кошт упрашчэнства і вульгарызацыі.

У мінулым навучальным годзе мы мелі вялікі пералом у выкладанні геаграфіі. Вучні лепш ведаюць карту, аўладалі фактычным матэрыялам. Ёсць прыклады вельмі добрай пастаноўкі выкладання геаграфіі ў асобных школах, дзе дзеці свядома засвоілі праграмны матэрыял, добра разбіраюцца па карце. Такімі школамі з'яўляюцца 4-я Менская СШ, 5-я Менская СШ, 4-я Віцебская СШ, Асмолаўская НСШ і інш. Выкладчыкі гэтых школ цікава, вобразна прыпадносяць дзецям матэрыял, умела выкарыстоўваюць мастацкую літаратуру, багата абстаўляюць лекцыі дыдактычным матэрыялам, умела карыстаюцца картай. Гэтага нельга сказаць аб рабоце большасці школ, асабліва вясковых. У асноўным у выкладанні геаграфіі недахопы зводзяцца да ператварэння геаграфіі ў грамадазнаўства, ператварэння фізічнай геаграфіі ў эканамічную. У паасобных выкладчыкаў заўважаецца ў выкладанні неканкрэтнасць, схаластычнасць, адсутнасць нагляднасці, дрэнная метадычная падрыхтаванасць настаўніка, недасканалае веданне дзецьмі карты. Дзеці не ўмеюць правільна паказваць рэк ад вытокі да вусця, у выніку чаго даюць такія адказы, што Волга выцякае з Каспійскага мора (Чэлюшкавіцкая школа Капаткевіцкага раёна), вучні маюць смутнае, няяснае ўяўленне аб зонах, слаба ведаюць границы між дзяржавамі. Ёсць яшчэ і другая небяспека. Даючы фактычныя веды ў галіне геаграфіі (што з'яўляецца абсалютна правільным), настаўнікі часта не выкарыстоўваюць у мэтах комуністычнага выхаванне тых тэм, якія даюць для гэтага багаты матэрыял, недастаткова выкарыстоўваюць матэрыял соцыялістычнага будаўніцтва. Выкладчыкі недастаткова выкарыстоўваюць матэрыял геаграфіі, каб паказаць усю магутнасць і прыгожасць нашай вялікай соцыялістычнай радзімы і глыбока засвоіць тыя змены, якія ўтварыліся ў эканоміцы і геаграфіі нашай краіны за гады існавання дыктатуры пролетарыята.

Узровень ведаў і навыкаў вучняў у галіне арыфметыкі ў параўнанні з мінулым годам павысіўся. Вучні сталі больш дасканала аперыраваць з цэлымі і дробавымі лікамі, палепшылася тэхніка лічэння. Дзеці не дрэнна выконваюць усе дзеянні, мала памылак робяць у складаных выпадках дзялення і множання (прыклады з нулямі).

Тое-ж самае можна сказаць і аб алгебры. Вучні значна лепш аўладалі ўменнем выконваць дзеянні над алгебраічнымі лікамі.

Не глядзячы на гэта ў выкладанні матэматыкі ёсць яшчэ рад буйнейшых недахопаў. У школах праводзіцца зусім недастатковая работа над аналізам задач. Гэтай справе настаўнікі не ўдзяляюць належнай увагі, пачынаючы з першага класа, не працуюць над развіццём у дзяцей аналітычнага матэматычнага мышлення. У выніку гэтага вучні не ўмеюць аналізаваць задачы, не ўмеюць разважаць. Настаўнікі часта няўважліва падбіраюць задачы, папярэдне не праглядаюць іх.

Выкладчыкі недастаткова прывучаюць вучняў да самастойнага рашэння задач (складанне ўраўненняў, рашэнне складаных арыфметычных задач, рашэнне геаметрычных задач). Настаўнікі на ўроках

у большасці самі праводзяць аналіз задачы. Вучні толькі дапамагаюць у гэтым настаўніку. Таму пры самастойным рашэнні задач вучні спраўляюцца з гэтым слаба. Аб гэтым сведчыць матэрыял выбарачнага абследвання і вясновыя іспыты. Вельмі недастатковая ўвага ўдзяляецца вуснаму лічэнню.

Выкладанне алгебры ў школах пастаўлена схаластычна. Дзеці вывучаюць алгебраічныя формулы, умеюць рабіцьператварэнні, складаюць ураўненні, але не ўмеюць прымяняць веды па алгебры пры рашэнні задач.

Яшчэ горш абстаіць справа з геаметрыяй. У значнай частцы школ вучні не могуць дакладна фармуліраваць тэарэмы, не ўмеюць даказваць тэарэмы, вельмі слаба рашаюць геаметрычныя задачы. Геаметрыя з'яўляецца найбольш слабым участкам у выкладанні матэматыкі. Гэта асабліва яскрава выявілася ў час правядзення выбарачнага абследвання і на праверачных іспытах.

У вучнёўскіх сшытках заўважаецца неахайнасць у запісах і надпісах. Настаўнікі не зварочваюць увагі на такую „дробязь", як назвы пры лічбах.

Сшыткі па матэматыцы выпраўляюцца вельмі рэдка, няўважліва, астаецца многа памылак матэматычных і асабліва граматычных.

Пры выкладанні матэматыкі настаўнікі дрэнна абсталёўваюць урокі дыдактычным матэрыялам, у недастатковай ступені выкарыстоўваюць наглядныя дапаможнікі, нават у тых выпадках, калі яны ёсць у школе. Напрыклад, у Багушэвіцкай НСШ Бярэзінскага раёна ў другім класе цэлы год ляжалі на шафе шчоты, а настаўніца іх ніколі не выкарыстоўвала.

Як бачыце, недахопаў у выкладанні матэматыкі яшчэ многа. Асноўны вывад—настаўнікам патрэбна грунтоўна прапрацаваць методыку матэматыкі і праводзіць работу так, каб знішчыць недахопы, якія ёсць у выкладанні матэматыкі.

Выкладанне прыродазнаўства ў школе нас яшчэ зусім не можа задаволіць. На лекцыях па прыродазнаўству яшчэ ў значнай ступені пануе славеснасць у выкладанні. Непасрэднае знаёмства з аб'ектамі і з'явамі прыроды замяняецца гутаркай аб іх.

Значная частка настаўнікаў не выконвае таго мінімума назіранняў, экскурсій і доследаў, якія вызначаны па праграме і з'яўляюцца абавязковымі для правядзення з вучнямі.

Большасць школ не мае жывых куткоў. Настаўнікі не клапоцяцца аб набыцці і вырабе неабходных наглядных дапаможнікаў сваімі ўласнымі сіламі і сіламі вучняў з матэрыялу, які можна атрымаць у прыродзе. Прыродазнаўчыя габінеты ў радзе школ вельмі бедныя, а ў паасобных школах зусім адсутнічаюць.

Аднак нельга сказаць, што ва ўсіх школах дрэнна пастаўлена выкладанне прыродазнаўства. Ёсць рад настаўнікаў, якія даюць добрыя паказчыкі работы, карыстаюцца рознымі нагляднымі метадамі выкладання, самі загатовілі наглядныя дапаможнікі, маюць жывыя куткі пры школах. Настаўнік 1—2-га класа Серыкаў Роўкавіцкай НСШ Чачэрскага раёна, выкладчыца прыродазнаўства Бярэзінскай СШ Янкоўская, настаўніца 2-га класа 25-й базавай СШ Стрэйкіс і рад іншых настаўнікаў могуць служыць прыкладам гэтага.

1935—36 навучальны год павінен зрабіць рашучы пералом у выкладанні прыродазнаўства ў школе. Не месца ў нашай савецкай політэхнічнай школе схаластычнаму славеснаму метаду выкладання. Настаўнікам нельга спадзявацца выключна на абсталяванне прырода-

знаўчых габінетаў наглядньмі дапаможнікамі фабрычнай вытворчасці. Пры жаданні кожны настаўнік зможа сваімі ўласнымі сіламі і сіламі вучняў абсталяваць прыродазнаўчыя габінеты, арганізаваць жывыя куткі, нарыхтаваць гербарыі, акварыумы, тэрарыумы і інш.

У невялікім артыкуле няма магчымасці даць падрабязны аналіз становішча выкладання ўсіх дысцыплін, таму мы спыніліся толькі на кароткім аналізе асноўных дысцыплін.

Некалькі слоў аб пастаноўцы выхаваўчай работы ў школе.

Вучэбна-выхаваўчая работа—адзіны педагагічны працэс. У практыцы школьнай работы мы часта заўважаем, што пытанні комуністычнага выхавання зводзяцца да пазашкольнай работы; паасобныя настаўнікі разумеюць пад гэтым работу гурткоў, мерапрыемствы па арганізацыі досугу дзяцей, масавыя вечары і т. д. Такая пастаноўка пытання з'яўляецца зусім няправільнай. Без комуністычнай накіраванасці ўрока задача комуністычнага выхавання дзяцей не можа быць вырашана. Асновы навук ёсць база комуністычнага выхаваня. Нашы навучальныя праграмы і стабільныя падручнікі даюць багаты матэрыял для глыбокай штодзённай сістэматычнай выхаваўчай работы. Выхаваўчая работа патрабуе ад настаўніка пастаяннай сур'ёзнай падрыхтоўкі да ўрока, адпаведнай мэтанакіраванасці ў гэтым напрамку.

Недастаткова сур'ёзна прадуманая работа настаўніка па забеспячэнню комуністычнай накіраванасці ўрока прыводзіць або да выхалашчвання ўсякіх выхаваўчых момантаў, зводзіць заняткі да голай фармальнай вучобы, або да падмены выхаваўчай работы грубым вульгарызатарствам, да натасквання, да „прыцягвання за валасы“ такіх выхаваўчых момантаў, якія не маюць ніякай сувязі з вучэбным матэрыялам, з спецыфікай данай дысцыпліны і т. д., а ў паасобных выпадках нават дае антывыхаваўчыя вынікі.

Правільная пастаноўка выхаваўчай работы на ўроку садзейнічае лепшаму засваенню прапрацоўваемага матэрыялу, дапамагае фарміраванню марксісцка-ленінскага светапогляду ў вучняў.

Для таго, каб забяспечыць комуністычную накіраванасць урока, настаўнік павінен сам быць палітычна падрыхтаванным, у дастатковай ступені ўзброеным марксісцка-ленінскай тэорыяй. Неабходнай умовай комуністычнага выхавання з'яўляецца наданне класавай пільнасці і непрымірымасці да ўсякага роду класава-варожых праяў як збоку настаўнікаў, так і з боку вучняў. Трэба адзначыць, што агульнапалітычны ўзровень значнай часткі настаўнікаў нізкі. Настаўнікі часта не ведаюць адбываючыхся палітычных падзей, як у СССР, так і заграніцай. Аб гэтым сведчаць наступныя факты. Настаўнікі Сутоцкай НСШ Лёзненскага раёна на пытанне хто такі Ракошы, адказваюць: „Ракошы—беларускі пісьменнік“. Настаўнік Палескай НСШ Чачэрскага раёна Загароўскі не ведае, хто такі Гікало, Галадзед, Чарвякоў. Выкладчыца геаграфіі Роўкаўскай НСШ Чачэрскага раёна Цярэшка на ўроку геаграфіі ў 7-м класе пры ўступнай гутарцы аб прамысловасці Уральскай вобласці правяла параўнанне уральскай металургічнай базы з украінскай і зрабіла вывад, што украінская металургічная база для нас небяспечна таму, што яна знаходзіцца на заходняй мяжы і ў любы момант можа апынуцца за рубяжом. Настаўнік Роўкаўскай НСШ Квакуха тлумачыць, што Шмідт—гэта параход у якога зламаліся крыллі і ён патануў.

Ні органы народнай асветы, ні профсаюзныя арганізацыі не вялі амаль ніякай работы па павышэнню палітычнага ўзроўню настаўнікаў.

У 1935—36 навучальным годзе нельга паўтараць памылак мінулага года. Неабходна адразу з пачатку навучальнага года арганізаваць палітвучобу сярод настаўнікаў і забяспечыць палітгурткі кваліфікаванымі кіраўнікамі і неабходнымі дапаможнікамі.

Вялікую ролю ў выхаваўчай рабоце адыгрывае класны кіраўнік. Ва ўсіх школах у гэтым годзе мы мелі класных кіраўнікоў. Але дырэктары школ не заўсёды сур'ёзна падыходзяць да прызначэння класных кіраўнікоў, не ўлічваюць асаблівасцей класа, асабістых якасцей настаўніка, разглядаючы гэту работу як нагрузку, якую патрэбна роўнамерна размяркоўваць паміж настаўнікамі. У выніку гэтага ў якасці класных кіраўнікоў пападаюць настаўнікі, якія не могуць забяспечыць пастаноўку выхаваўчай работы з вучнямі свайго класа. У якасці класных кіраўнікоў патрэбна вылучыць лепшых настаўнікаў, здольных арганізатараў, якія могуць забяспечыць чулы, уважлівы падыход да дзяцей.

Практыка работы класных кіраўнікоў за мінулы навучальны год паказвае, што мы маем ужо частку сапраўдных класных кіраўнікоў, якія чула, уважліва падыходзяць да дзяцей, вывучаюць іх інтарэсы, цікавяцца і сочаць за тым, што дзеці чытаюць, кіруюць чытаннем, ведаюць хатнія ўмовы, звязаны з бацькамі, дапамагаюць дзецям у школе і дома. Прыкладам такіх класных кіраўнікоў з'яўляюцца настаўнікі малодшых класаў 25-й Менскай базавай СШ тт. Вадэйка, Стрэйкіс, настаўнік 23-й Менскай НСШ т. Фрыдман, настаўніца 4-й Віцебскай НСШ Клугман, настаўніца Гомельскай СШ ім. Комінтэрна т. Пруднікава і рад іншых настаўнікаў.

Значная частка класных кіраўнікоў яшчэ адносіцца да работы фармальна. Планы іх работы маюць схематычнасць, неканкрэтнасць, не вызначаецца мэта, змест, час мерапрыемстваў, праводзімых з вучнямі і іх бацькамі, не прадугледжваюцца мерапрыемствы па ахопу вучняў тэатрам, кіно і інш. культмасавымі мерапрыемствамі, работа з газетай і т. д.

Бываюць нават і такія выпадкі, калі класныя кіраўнікі вывучаюць вучняў свайго класа шляхам запаўнення вучнямі анкет, не вывучаюць хатніх умоў, не ведаюць зусім вучняў свайго класа (дырэктар Полацкай НСШ Чачэрскага раёна, настаўнік 4-й Віцебскай узорнай СШ т. Салаўёў).

У другім паўгоддзі мінулага навучальнага года быў зроблен пералом у рабоце з бацькамі. Конкурс на лепшую сям'ю па комуністычнаму выхаванню дзяцей, у які ўключылася большасць школ БССР, узняў актыўнасць бацькоў, наблізіў бацькоў да школы, мабілізаваў вялікі бацькоўскі актыў у дапамогу школе па наладжванню выхаваўчай работы.

Асобныя школы, як напрыклад, 25-я базавая Менская СШ, 28-я Менская яўрэйская НСШ, Урэцкая СШ Слуцкага раёна, Танежская НСШ Тураўскага раёна, Бельская НСШ Полацкага раёна і рад іншых школ правялі ў гэтай галіне вялікую работу.

Асноўнымі недахопамі гэтага вялікага мерапрыемства з'яўляецца тое, што школы, аддзелы народнай асветы і НКА не заўсёды ўзначальвалі гэты ўздым грамадскасці, не падвялі нават вынікаў гэтай работы.

У гэтым навучальным годзе неабходна прадоўжыць пачатую ў мінулым годзе работу з бацькамі па конкурсу на лепшую сям'ю па комуністычнаму выхаванню дзяцей. У цэнтры ўвагі павінна быць індывідуальная работа з бацькамі (кансультацыя, гутаркі пры на-

ведванні дома і ў школе, парады і т. д.). Наша задача—азнаёміць бацькоў з асновамі педагогікі і педалогіі. Кожны дырэктар школы, кожны загадчык у сваім плане выхаваўчай работы павінен вызначыць круг пытанняў для прапрацоўкі з бацькамі.

У вясковых умовах вельмі цяжка склікаць сходы бацькоў, асабліва ў НСШ, дзе раён абслугоўвання школы вельмі вялікі. У такіх выпадках карысна работу перанесці ў вёску, у пасёлак, непасрэдна да бацькоў.

Цікавую работу з бацькамі ў мінулым годзе правёў Віцебскі педінстытут. Сіламі педінстытута быў арганізаваны для бацькоў семінар па пытаннях педагогікі і педалогіі, якім было ахоплена да 300 бацькоў. Апрача таго, работнікі інстытута правялі многа гутарак і дакладаў на гэтыя-ж тэмы ў розных школах Віцебска.

Трэба падкрэсліць, што нашы педінстытуты і педтэхнікумы вельмі мала дапамагаюць у гэтай галіне школам.

Адным з галоўных відаў пазашкольнай работы з'яўляюцца гурткі і масавыя мерапрыемствы. Амаль ва ўсіх нашых школах ёсць многа розных гурткоў. Але НКА да гэтага часу яшчэ не забяспечыў школ праграмамі для гурткоў, і работу гурткоў кожная школа праводзіць па свайму разуменню. Работа значнай часткі гурткоў з'яўляецца паўтарэннем ці працягам работы ў класе. Работа праводзіцца часта не цікава, не захапляе дзяцей. Школа дрэнна вывучае інтарэсы дзяцей. Пры арганізацыі гурткоў не заўсёды выходзяць з інтарэсаў дзяцей. Дзецям вельмі падабаюцца розныя канструкцыйныя работы, мадэліраванне. Трэба больш арганізоўваць авія-аўта-мадэльных і інш. тэхнічных гурткоў.

Дзеці любяць музыку, з захапленнем удзельнічаюць у музычных, харавых гуртках. Трэба выкарыстаць гэту цікавасць дзяцей да музыкі, арганізоўваць музычныя і харавыя гурткі і такім чынам садзейнічаць мастацкаму выхаванню дзяцей. Ёсць многа школ, якія маюць добрыя струнныя гурткі, хоры, выконваючыя нават складаныя класічныя творы. Такімі школамі з'яўляюцца 1-я, 2-я, 25-я Менская СШ, Гомельская СШ ім. Комінтэрна, 22-я Віцебская СШ, Бярэзінская СШ і інш.

Недахопам работы з'яўляецца тое, што гурткамі і масавымі мерапрыемствамі ахапляецца ў большасці актыў дзяцей, не ўцягваюцца цяжкія дзеці, адсталыя, якія патрабуюць арганізаванага ўздзейнічання.

Асноўнай адзінкай усёй выхаваўчай пазашкольнай работы ў школе павінен з'явіцца клас. Нерацыянальна, непатрэбна раствараць клас у агульна-школьнай рабоце. Усе пазашкольныя мерапрыемствы (гутаркі, вечары, зацейніцтва і т. д.) трэба арганізоўваць з даным класам. Гэтым, вядома, не адмаўляюцца агульна-школьныя мерапрыемствы, але цэнтр увагі ў пазашкольнай рабоце павінен быць перанесен у клас. Арганізатарам, кіраўніком пазашкольнай работы з'яўляецца класны кіраўнік.

Пастанова ЦК ВКП(б) аб структуры школы ўскладае на дырэктара надзвычайна вялікія абавязкі, робіць яго сапраўдным гаспадаром школы, адзінаначальнікам, кіраўніком усяго гаспадарчага вучэбна-выхаваўчага жыцця школы. Але далёка не ўсе дырэктары яшчэ з'яўляюцца сапраўднымі гаспадарамі ўсяго жыцця школы. Адзінаначалле яшчэ далёка не ўнядрылася ва ўсе школы. Значная частка дырэктароў яшчэ і да апошняга часу займаецца выключна толькі гаспадарчай работай. Яны яшчэ не адчуваюць сябе адказнымі за змест работы школы, за ўсю вучэбна-выхаваўчую і метадычную работу.

Што датычыцца загадчыкаў пачатковых школ, то большасць іх да гэтага часу з'яўляецца гаспадарамі жыцця школы толькі па арганізацыйна-гаспадарчых пытаннях і вельмі мала займаецца вучэбна-выхаваўчай работай, не ведае як працуюць другія настаўнікі данай школы.

У гэтым навучальным годзе прадстаіць яшчэ вельмі сур'ёзная работа ў напрамку пераключэння дырэктароў на сапраўднае кіраўніцтва вучэбна-выхаваўчай работай школы. Вялікай перашкодай у рабоце дырэктара з'яўляецца надзвычайная перагрузка непасрэднай педагагічнай работай у класе, што не дае яму магчымасці планава і сістэматычна наведваць лекцыі настаўнікаў і дапамагаць апошнім у іх штодзённай рабоце.

Частка дырэктароў не мае планаў метадычнай работы. Усё метадычнае кіраўніцтва і да гэтага часу праводзяць праз метадычныя нарады, якія яшчэ існуюць у школе як пастаянныя органы школы, ператвараюцца часта ў рашаючыя органы, якія прымаюць пастановы. За гэтыя нарады хаваецца дырэктар школы, як кіраўнік.

Дырэктары школ і загадчыкі навучальных частак мала вывучаюць работу настаўнікаў і зусім недастаткова дапамагаюць ім у іх рабоце. Наведванне лекцый дырэктарам і загадчыкам навучальнай часткі часта носіць выпадковы характар, не мае пэўнай мэты, адпаведным чынам не падрыхтоўваецца. З гэтай прычыны яны не могуць як след прааналізаваць работу настаўніка, зрабіць настаўніку належныя ўказанні, даць яму кансультацыю па таму ці іншаму пытанню.

Зусім недастаткова дырэктары школ кіруюць пазашкольнай работай. Гэты важнейшы ўчастак цалкам перадаецца ў „канцэсію“ піонерработніку. Такое становішча з'яўляецца абсалютна недапушчальным.

Дырэктары школ павінны сістэматычна вывучаць пастаноўку работы ў паасобных класах, пастаноўку работы кожнага настаўніка. Кожны дырэктар абавязан мець чоткі план сваёй работы ў галіне наведвання лекцый, ставіць пры наведванні лекцый пэўную мэту, свае заўвагі фіксаваць і на падставе іх потым даваць указанні настаўнікам. Апрача наведвання лекцый дырэктар павінен даваць кансультацыю для настаўнікаў, выклікаць іх да сябе для гутаркі па асобных пытаннях.

Дырэктар школы павінен таксама весці сістэматычную работу з класнымі кіраўнікамі па пытанню іх работы, шляхам індывідуальных гутарак, кансультацый, нарад, склікаемых па меры неабходнасці, патрабаваць планы пазашкольнай работы класных кіраўнікоў, кіраўнікоў гурткоў і інш. відаў пазашкольнай работы, аналізаваць гэтыя планы і правяраць іх выкананне.

Робячы ўпор на работу дырэктара, як кіраўніка вучэбна-выхаваўчай работы, мы ні ў якім разе не здымаем з яго адказнасці за кіраўніцтва арганізацыйна-гаспадарчай работы школы. Дырэктар школы павінен прыкласці максімум клопатаў і ўвагі да таго, каб школа мела сапраўды ўзорны культурны выгляд, была забяспечана неабходным абсталяваннем, навучальнымі прыладамі, каб увесь інвентар, які ёсць у распараджэнні школы, быў занесен у адпаведную інвентарную кнігу, займаў належачае яму месца і захоўваўся ў поўным парадку.

У цэнтры метадычнай работы школы павінен стаяць настаўнік, высокаякасная падрыхтоўка яго да лекцый і павышэнне яго кваліфікацыі. Нарады не павінны з'яўляцца пастаянна існуючымі інстытуцыямі ў школе, з пэўнымі юрыдычнымі правамі. Іх збірае дырэктар

школы па меры патрэбы. Дырэктар павінен стварыць адпаведныя ўмовы ў школе для падрыхтоўкі настаўнікаў, забяспечыць неабходнай літаратурай. Трэба каб настаўнік меў поўную магчымасць рыхтавацца да лекцыі. Дырэктар ці загадчык навучальнай часткі сам павінен дапамагаць тым настаўнікам, якія патрабуюць гэтай дапамогі шляхам парад, арганізацыі наведвання лекцыі ў другога настаўніка і т. д.

Гэты навучальны год пачаўся пад знакам гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 3 верасня, якая развязала самае жгучае пытанне—арганізацыю вучэбнай работы. Створаны зараз усе ўмовы, каб бягучы вучэбны год стаў годам далейшага крутога пад'ёму якасці работы школы.

---

*А. РУТЭНБЕРГ*

# Аб рабоце піонерскай арганізацыі БССР[1])

У сваёй пастанове ў адзнаку 10-гадовага юбілея піонерскай арганізацыі СССР ад 21 красавіка 1932 г. ЦК ВКП(б), адзначаючы вялікія дасягненні піонерарганізацыі за 10 год існавання, разам з тым указвае на наяўнасць сур'ёзных недахопаў у рабоце піонерарганізацыі і кіраўніцтве ёю з боку комсамола, у прыватнасці на тое, што актыўнасць дзяцей не ў дастатковай ступені накіравана на галоўнае—на аўладанне асновамі навук. У гэтай пастанове ЦК партыі патрабаваў каб „у цэнтры ўвагі піонерарганізацыі паставіць задачу: выпрацоўкі соцыяльных адносін да вучобы, працы і грамадска-практычнай работы як у сваіх піонерскіх радах, так і сярод дзяцей. Дабіцца такога становішча, каб *кожны піонер* усюды—у школе, у сям'і, на вуліцы, у піоер-клубе, піонерлагерах і т. д. быў-бы *„усім дзецям прыклад"*. Гэтым мы павінны былі і абавязаны зараз кіравацца ў нашай рабоце сярод дзяцей.

Піонерская арганізацыя з'яўляецца масавай самадзейнай палітычнай арганізацыяй дзяцей, якою кіруе комсамол.

Праз атрады юных піонераў мы павінны выхаваць у дзяцей актыўнасць, творчыя здольнасці, палітычную свядомасць, любоў да соцыялістычнай бацькаўшчыны, да партыі і яе кіраўнікоў.

Партыя праяўляе штодзённыя клопаты ў адносінах піонерарганізацыі і неаднаразова ўказвала на задачы яе работы.

Яшчэ ў 1925 г. ЦК нашай партыі ў спецыяльнай пастанове аб піонерскай арганізацыі ўказаў на неабходнасць змагацца з казёншчынай у рабоце і засушваннем рабят, што трэба прыстасаваць формы работы да іх здаровага запатрабавання: у грамадскай рабоце дзяцей трэба перайсці ад знешніх форм і метадаў да пастаяннага ўдзелу ўсіх рабят у грамадскай рабоце, пераважна сярод дзяцей. У 1928 г. ЦК ВКП(б) у пастанове аб рабоце піонерскай арганізацыі патрабаваў, каб піонеры дабіваліся поспехаў у вучобе, развівалі клубную і грамадскую работу і ўцягвалі вучняў у свае піонерскія гурткі.

Дзеці нашай краіны асобыя дзеці. Няма ў свеце падобных дзяцей, яны акружаны ўвагай і клопатамі партыі і ўрада, маюць магчымасць добра вучыцца, лепшыя дзеці састаяць у піонерскай арганізацыі, праз якую яны выражаюць сваю волю, свае жаданні, свае імкненні стаць байцамі вялікай арміі будаўнікоў соцыялізма. І мы павінны добра працаваць з гэтымі дзецьмі, мацаваць нашу арганіза-

---

[1]) Скарочаная і апрацаваная стэнаграма даклада на нарадзе раённых піонерработнікаў 12/IV—35 г.

цыю юных піонераў. Піонерская арганізацыя—трэцяе пакаленне большэвікоў. Яна мае мэтай комуністычнае выхаванне дзяцей і падрыхтоўку змены комсамолу. Таму, пры прыёме ў піонеры, мы дабіваемся, каб вучань, уступаючы ў піонерскую арганізацыю, рабіў гэта свядома, разумеў неабходнасць быць перадавым у вучобе, дысцыпліне і грамадскай рабоце, і адчуваў адказнасць за сябе і за сваіх таварышоў па атраду, па класу ў школе.

Не здарма піонер носіць чырвоны гальштук, які сімвалізуе сувязь трох пакаленняў большэвікоў, якім піонер павінен быць верным.

Трэба праводзіць вялікую палітыка-выхаваўчую работу сярод рабят. Расказамі аб мінулым—аб прыгнечанні працоўных Расіі ў мінулым, аб капіталістах, памешчыках, аб жандарах, аб рэлігіі, аб турмах і ссылках—трэба дасягнуць таго, каб рабяты ведалі, якім шляхам пролетарыят і яго авангард—комуністычная партыя дабіваліся сёнешняга сучаснага жыцця, каб яны ведалі колькі афяр каштавала наша сёнешняе, наша прыгожае жыццё, у якім свабодна навучаюцца і выхоўваюцца для актыўнай творчай работы на карысць соцыялізма совецкія дзеці.

Задача комсамола, які адказвае за выхаванне дзяцей, задача піонерскіх работнікаў заключаецца ў тым, каб усямерна развіваць у рабят інтэрнацыянальную дружбу і спаянасць дзяцей працоўных, смеласць, адважнасць і няўстрашымасць у барацьбе з класава-варожымі праявамі, павышаць цікавасць дзяцей да тэхнікі, літаратуры і мастацтва.

Ці маем мы дасягненні ў гэтым напрамку? Безумоўна маем. У нас ёсць добрыя піонерскія атрады. Дзеці ў масе сваёй жадаюць добра вучыцца, бо яны бачаць у вучобе ключ да новага жыцця.

Разам з ударнай вучобай у школе, піонеры праводзяць вялікую грамадска-карысную і культурна-масавую работу. Піонеры займаюцца ў тэхнічных, мастацкіх гуртках, у гуртках канструктароў, вынаходнікаў. Мы маем не мала шахматыстаў сярод піонераў. Мы маем факты, калі рабяты не толькі добра працуюць у гуртках, але таксама адлюстроўваюць у драматызацыі і гульнях паход чэлюскінцаў, заваявальнікаў стратасферы. Расце культурнасць і палітычная актыўнасць піонераў. Гэта пацвярджае, што рабяты многім цікавяцца. Наша задача гэту актыўнасць рабят арганізаваць і накіраваць па правільнаму шляху.

Факты сведчаць, што калі арганізатары дзіцячых мас, комсамольскія і піонерскія работнікі на месцах добра працуюць, добра ўразумелі задачы, пастаўленыя перад імі, яны дабіваюцца ўвагі і дапамогі з боку грамадскіх арганізацый. Мы маем многа дзесяткаў жактаў, якія выдзелілі дзіцячыя пакоі. Так у Барысаве піонерам адвялі добры клуб, у Менску ёсць школа юных снайпераў, ёсць гімнастычныя школы ў Віцебску і Менску. У Віцебску арганізован дом мастацкага выхавання дзяцей, які разгарнуў даволі вялікую работу.

Магчымасцей у нас вельмі многа ва ўсіх гарадах і раёнах, мы іх нават далёка не поўнасцю выкарыстоўваем.

Паасобныя піонерскія арганізацыі, атрады ставяць перад сабой зусім правільныя задачы і дабіваюцца перадавой ролі піонераў сярод дзяцей. Тут прыкладам можа служыць работа 78 атрада (Менск). Піонеры гэтага атрада не хваляцца, не рапартуюць, а працуюць. Яны маюць у жакце пакой, дзе займаюцца радыёаматары, шахматысты.

Яны таксама дабіваюцца палепшання якасці вучобы. І калі ў першай чверці адзнак „вельмі добра“ было 94, то ў другой чверці гэтых адзнак 124; „добра“ было 208—стала 213, „здавальняюча“ было 293—знізілі да 268; „нездавальняюча“ было 49—знізілі да 15.

У Віцебску 87 атрад арганізаваў дапамогу ТПД па барацьбе з хуліганствам і безнагляднасцю сярод дзяцей. 15 піянераў арганізаваліся на гэтую работу. Яны абследвалі 100 кватэр хуліганствуючых рабят, аб якіх паведамілі школе і атрадам, і дабіліся не дрэнных паказчыкаў. Вось характэрны прыклад, які паказвае, як класаваму ворагу ўдаецца ўзяць пад свой уплыў рабят, якія павінны быць пад нашым уплывам. Ёсць вучань Н.—сын інжынера. Гэты вучань папаў пад уплыў хуліганаў. Яны ўцягнулі яго гуляць у карты і хлопец пачаў красці грошы. Рабяты аб гэтым даведаліся і Н. быў узят пад здаровы ўплыў актыва піонераў. Яму дапамагалі вучыцца, гулялі з ім і ён выправіўся.

Растуць актыўныя піонеры і ў вясковых атрадах. Перадавыя піонеры Дзержынскага раёна Коля Арцюшэўскі і інш. добра вучыліся, арганізоўвалі збор каласоў, шэфства над калгасным маладняком. Гэтыя піонеры былі прэміраваны адпачынкам у „Артэк“.

Піонер Квасавец з Лепельскага раёна ў сваёй настойлівасці, каб Ляхаўскую школу зрабілі добрай і знішчылі недахопы, якія ёсць у школе, дайшоў да газеты „Правда“, дабіўся ўвагі з боку райкома партыі і ўсіх раённых арганізацый да гэтай школы.

Важатая піонератрада Тураўскага раёна т. Райхман піша аб такім прыкладзе работы: „Піонер 7 класа А. часта не прыходзіў на звеннявыя зборы, не хацеў удзельнічаць у грамадскай рабоце. Мы яго некалькі разоў выклікалі на звяно і совет атрада, але нічога не маглі дабіцца. Дома сям'я (бацькі калгаснікі-ўдарнікі) ніяк не магла на яго ўздзейнічаць. Прышлося мне ўнікнуць глыбей у асяроддзе яго таварышоў. Аказалася, што яго лепшы таварыш сын асуджанага за кулацкі сабатаж, і ўсе варожыя думкі з дому ён перадаваў А. Пасля гэтага мы сабралі звеннявыя заняткі ў яго дома пры бацьках і калгасніках. На звеннявых занятках яго бацька расказаў, як ён працуе ў калгасе і тут-жа бацька з сынам дагаварыліся аб далейшай ударнай рабоце кожнага. Праз некалькі дзён мы яму далі ролю ў п'есе, якую рыхтавалі к канцу першага паўгоддзя. У выніку А. стаў самым прыкладным у звяне. Па яго ініцыятыве ў піонерскі атрад паступілі яго сястра і яе тры таварышкі. Цяпер А. у атрадзе гарністам.“

Усё гэта падкрэслівае, што там дзе кіраўнікамі ўлічваюцца здаровыя інтарэсы піонераў, там поспех забяспечан. А там, дзе бюрократызм, фармальныя адносіны да справы, рапартаманія,—там поспехаў у рабоце не можа быць.

Вялікая роля піонерскай арганізацыі ў справе комвыхавання падкрэсліваецца бацькамі і грамадскасцю.

У час перавыбараў советаў у Новадворскім сельсовеце Менскага раёна пры абгаварэнні наказа, калгаснік выступіў з такой прапановай: „Вось у нас у вёсцы ёсць піонеры, але яны не працуюць, у той час, як яны маглі-б прынесці вялікую карысць. Чаму яны не працуюць? Таму што няма важатага. Пагэтаму я прапаную, каб сельсовет звярнуўся ў Менскі гарком і папрасіў важатага“.

Гэта надзвычайна важна. Гэта падкрэслівае, што піонерская арганізацыя ўвайшла ў быт. Бацькі разумеюць важнасць піонерскай арганізацыі.

У Дубровенскім раёне бацькі вучняў поўнай сярэдняй школы ўключыліся ў конкурс на лепшую сям'ю па комуністычнаму выхаванню дзяцей і патрабуюць ад піонерарганізацыі: „Дапамагчы вучням арганізаваць пазашкольную работу. Даць ім спісы кніжак для пазашкольнага чытання. Арганізаваць пры школе гурткі юных канструктароў, драматычныя, музычныя і літаратурныя гурткі і не менш двух разоў у месяц наладжваць вечары самадзейнасці".

Бацькі адчуваюць чаго не хапае дзецям.

У Менску мы арганізавалі сустрэчы з асобнымі бацькамі наконт іх дзяцей-піонераў. Мы ім паставілі пытанне, як яны даведаліся аб уступленні дзяцей у піонерскую арганізацыю. З 25 бацькоў 17 адказала, што даведаліся яны аб гэтым ад самаго піонера, адразу-ж пры яго ўступленні ў атрад. Астатнія заявілі, што дамагаліся самі, каб іх дзеці паступілі ў піонеракую арганізацыю.

Вось што заявіў бацька Эйдланд: „Мы зацікаўлены былі ў паступленні сына ў атрад—там праяўляецца вялікая зацікаўленасць да грамадскай работы і палітычнага жыцця, дапамагаюць комсамолу".

На пытанне, ці гаварылі дзеці бацькам папярэдне аб сваім жаданні ўступіць у піонерскую арганізацыю—адказалі, што толькі двое не гаварылі з бацькамі, астатнія 23 гаварылі.

Вось што піша матка Вадэйка: „Я ведала аб жаданні сына ўступіць у піонерскую арганізацыю. Ён пытаўся ў бацькі аб піонерах і рыхтаваўся".

На пытанне, што змянілася ў паводзінах дзяцей пасля ўступлення ў піонератрад, 20 адказала, што дзеці сталі лепш вучыцца, сталі больш дысцыплінаванымі і акуратнымі і толькі 5 не заўважылі ніякіх змен у сваіх дзяцей.

Бацька Левітэ кажа, што „дачка стала больш дысцыплінаванай, больш чытае, вельмі добра вучыцца, дружыць з таварышамі".

Бацька Навадворскі кажа, што „сын стаў больш дысцыплінаваным, раней ён быў звязан з дрэннымі таварышамі, а зараз яго захапіў атрад сваім уплывам".

На Гомельскай канферэнцыі бацькоў 2/IV—35 г. бацькі патрабавалі палепшання піонерскай работы і састава важатых. Адзін бацька вучня школы ім. Карла Маркса скардзіцца, што „на які-небудзь меленькі завод сакратаром комсамола выбіраюць партыйца, або лепшага комсамольца, а ў школу, дзе выхоўваецца 300 і больш дзяцей назначаюць важатым каго папала і па 20 разоў мяняюць іх". Гэта правільнае абвінавачванне.

Прыведзеныя факты пацвярджаюць, што ёсць добрыя атрады і што многія бацькі ведаюць аб сваіх дзецях не толькі як яны вучацца, але як яны працуюць у піонерскіх арганізацыях.

Аднак, усё гэта не дае нам ніякага права заявіць, што мы як належыць выконваем задачу ўскладзеную на нас партыяй. Гэта далёка не так. Мы не ахапілі ўсю дзетвару і нават піонераў уплывам піонерскай арганізацыі, а наш абавязак праз добрую работу піонераў уплываць на ўсіх дзяцей, дапамагаць школе ў выхаваўчай рабоце.

Зусім правільнай з'яўляецца жорсткая крытыка ў партыйным, комсамольскім і совецкім друку сур'ёзных прарываў, якія маюцца ва ўсёй выхаваўчай рабоце сярод дзяцей і ў рабоце сярод піонераў; правільны тыя абвінавачванні, цалкам якія прад'яўлены комсамолу і нам, работнікам сярод юных піонераў.

Мы недаацанілі, што работа па комуністычнаму выхаванню дзяцей—работа цяжкая і адказная. Да яе наплявацельскі адносіцца нельга.

Гэтую работу ў рамкі злётаў і рапартоў нельга ўкладваць. Гэтая работа патрабуе штодзённай увагі і неабходнасці займацца кожным піонерам і вучнем у паасобку.

Зусім зразумела, што ў вялікай большасці нашы дзеці з'яўляюцца здаровымі дзецьмі, савецкімі дзецьмі, бадзёрымі, упэўненымі ў перамогах нашай краіны. Але было-б глыбока памылковым і шкодным думаць, што дзеці самі сябе выхоўваюць.

Мы не можам выхаваўчую работу сярод дзяцей праводзіць не ведаючы іх асяроддзя, дапускаць благадушша, спакойна назіраць на вуліцах як на калбасе катаюцца рабяты, як яны з рагатак шыбы выбіваюць, думаючы, што гэта—„дзіцячы ўзрост—само пройдзе“.

Такія безадказныя і нядбайныя адносіны з боку раду комсамольцаў і піонерработнікаў усугубляюць прарывы ў выхаваўчай рабоце і часта спрыяюць класава-варожаму ўплыву на дзяцей з боку недабітых класава-варожых элементаў.

Тав. Косарэў у сваім выступленні аб школе гаворыць: „Няправільна думаць, што хуліганствам займаюцца безнаглядныя дзеці, як кажуць, нямаючыя пэўных заняткаў. У школе не умеюць заняць іх, зацікавіць работай, пераключыць іх энергію на спорт, на заняткі ў гуртках планерыстаў, авіямадэлістаў і т. д. Падумайце, колькі рычагоў у нашым распараджэнні і мы не ўмеем пусціць іх у ход“. І гэта зусім правільна. Факты пацвярджаюць, што мы ў большасці раёнаў працуем сапраўды дрэнна.

Крычаўская справа, якая прагучэла па ўсёй рэспубліцы, аналагічныя факты па іншых раёнах гавораць аб вялікіх прарывах у выхаваўчай рабоце. Класавы вораг, не дабіты ў адкрытым баі, імкнецца ў парадку рэванша ўшчаміць нас на такім участку, як выхаванне дзяцей. І таму мы павінны зразумець усю адказнасць гэтай работы, мы павінны ведаць кожнага чалавека, які працуе на гэтым участку. А мы дапускаем недапушчальныя памылкі ў выхаваўчай рабоце, у падыходзе да дзяцей. У Заслаўскім раёне, бясспрэчна, антысавецкі чалавек, бо чалавек наш, савецкі, гэтага не дапусціць, згвалціў на вечарынцы вучаніцу, а агонь абвінавачання накіравалі на вучаніцу, бо яна пайшла на вечарынку. Яе за гэта выключаюць з піонераў, а махінацыю класавага ворага не выкрываюць.

Такі-ж факт быў у Мазырскім раёне. Настаўнік прымушае да сажыцельства маладую вучаніцу на працягу года, а калі гэты факт выкрываецца—абвінавачваюць вучаніцу, выключаюць яе з піонераў за тое, што яна дрэнная піонерка.

У нас недастатковa палітычнай пільнасці і класавай свядомасці пры ацэнцы кожнага факта, які здараецца ў асяроддзі дзяцей.

У Лёзне піонеры арганізавалі лыжны паход. Ніхто не дагадаўся праверыць з чым яны едуць у паход, хто ўзначальвае гэты паход. Адышлі пэўную адлегласць і напіліся гарэлкі. Замест таго каб выявіць чаму і хто які ўплыў аказвае на дзяцей, райком комсамола абмежаваўся „рэпрэсіўнымі“ мерамі: аднаго пазбавілі звання старшыні атрада, а ў астатніх знялі гальштукі.

Паказаных піонераў безумоўна трэба было пакараць, разабраўшы справу так, каб іх асудзіў сам атрад. Аднак абмежавацца толькі гэтым няправільна. Неабходна было дамагацца выкрыцця карэнняў, каб прасеч іх працягванне.

Зняцце гальштука—прынцыпова няправільная форма рэагавання—гэта па сутнасці выключэнне з піонераў, якое нельга рабіць механічна. Наш абавязак выхаваць у юнага піонера любоў да гальштука.

У Гомелі „кіраўнікі“ дапусцілі тое, што малодшыя вучні 11-ці школ горада былі ахоплены „гульнёй“ у „Чапаева“. Без усякага кіраўніцтва важатых яны рабілі „зброю“—рагаткі і інш. 6 дзён рэпетыцыі давялі да таго, што ў 5 дамах павыбівалі вокны. А важатыя ў час веснавых канікул лічылі сябе ў адпачынку. Тут варожыя, хуліганствуючыя элементы выкарысталі імкненні рабят адлюстроўваць героіку чапаеўцаў і накіравалі гэта імкненне супроць нас, дыскрэдытуючы піонерскі рух. Гэты факт у Гомелі не знайшоў своечасовага рэагавання.

Бываюць выпадкі калі які-небудзь вучань 3—5 класа прыносіць у школу—як правіла, навязаны—выраз антысовецкага зместу. Замест таго каб вучня ўзяць пад уплыў, даць яму магчымасць зразумець свой шкодны ўчынак і заняцца асяроддзем, уплываўшым на яго, многія важатыя і настаўнікі збіраюць вялікія мітынгі, абвяшчаюць гэтага вучня „контррэволюцыянерам“, цыціруюць выраз, выказаны гэтым „контррэволюцыянерам“, аб'ектыўна распаўсюджваючы яго.

Хіба-ж гэта метад выхавання? Мы як след не вучым піонераў бачыць і выкрываць махінацыі сапраўднага класавага ворага.

У выхаванні актыўнасці і свядомасці дзяцей мы правільна імкнемся паказаць лепшых піонераў і па іх прыкладах раўняць паводзіны астатніх дзяцей. Аднак, у нас дзе-ні-дзе да паказу перадавога піонера адносяцца фармальна, не клапоцяцца аб яго далейшым росце. Патрабуе ЦК ад райкома паказаць добрага піонера. Тут важаты пачынае бегаць, шукаць і ўрэшце прадставілі характарыстыку, узрадаваліся, што ёсць добры піонер, прэміравалі яго, а праз месяц аб яго існаванні забыліся.

Гэта з пункту гледжання комуністычнага выхавання няправільна. Калі мы ўстанавілі, што той ці іншы піонер з'яўляецца перадавым, паведамілі аб гэтым грамадскасці, трэба памятаць, што па гэтаму піонеру жадаюць раўняцца астатнія рабята. І такога піонера мы павінны падцягваць, сачыць за ім, адказваць за яго рост.

У нас часта казённа разумеюць метады выхаваўчай работы. Вельмі мала клапоцяцца аб палепшанні работы і многа адміністрыруюць. Напрыклад, загадчык Пагосцішчанскай школы Лёзненскага раёна рашыў загадамі палепшыць выхаваўчую работу. 14/II—35 г. ім былі выданы два загады за № 10 і 11.

Падаем першы з іх:

## Загад № 10

ад 14/II—35 года

1. Настаўнікам малодшых класаў кожную пяцідзёнку а 3 гадзіне дня з'яўляцца ка мне для дакладу аб стане выхаваўчай працы ў іх класе.

2. Настаўнікі старэйшых класаў з'яўляюцца для дакладаў аб стане іх працы. Піонерважатаму, старшыні вучкома, старшыням класкомаў рапартаваць мне аб іх працы кожны тыдзень, па суботах а 4 гадзіне. Прыём дакладаў і рапартоў утвараецца ў памяшканні настаўніцкай роўна ў вызначаныя часы.

**Загадчык Пагосцішчанскай школы ЧАГАК.**

Другім загадам вучню 6 класа Ражкову за знаходжанне 13/II—35 г. у класе ў шапцы абвяшчаецца суровая вымова з занясеннем у характарыстыку.

Вось вам метады выхавання, ад якіх недалёка адышлі і піонерскія важатыя, якія здымаюць гальштукі ў піонераў і думаюць, што яны ажыццяўляюць задачы комвыхавання.

Надзвычайна мала ў нас клапоцяцца аб вырошчванні актыва з піонераў.

У Магілёве ў цэлым радзе атрадаў малодшага ўзросту старшынямі з'яўляюцца піонеры старэйшых класаў. Так піонер Балоцін будучы вучнем 7 класа, з'ўляецца старшынёй атрада ў 4 класе. Піонер Власік, вучань 8 класа—старшыня піонератрада ў 5 класе. Няўжо-ж піонеры 5 класа не змаглі-б выбраць са свайго асяроддзя старшыні, які сапраўды-б прадстаўляў іх інтарэсы? Безумоўна могуць. У выніку комсамольскія арганізацыі перадавяраюць гэтым старшым піонерам усю работу і нават не вылучаюць важатых атрадаў.

У 27 школе Менска (важатая Кветная) прымацавалі да атрадаў студэнтаў з педтэхнікума. Студэнты прыходзяць нават на звяно, не даюць дзецям самім пазаймацца. Прыходзіць звычайна прымацаваны на звяно, важаты звяна садзіцца збоку, ён забыўся, што выбран важатым, а прымацаваны камандуе: „Ну, дзеці, што будзем рабіць? Хто будзе пісаць у газету? Вось ты і ты". І гэта называюць кіраўніцтвам.

Некаторыя важатыя выбіраюць піонерскі актыў для формы, а ўвагі яму не ўдзяляюць. У Віцебску з гутаркі з 65 старшынямі атрадаў аказалася, што 25 з іх выбраны пасля агульных перавыбараў піонерскага актыва; з 65 атрадаў вядуць дзённікі работы толькі 28, астатнія не вядуць; газеты маюць 53 атрады, астатнія не маюць.

Не арганізавана пастаянная работа з піонерскім актывам, каб ён зразумеў свае задачы, адчуваў зацікаўленасць і адказнасць за работу атрада.

Усе гэтыя недахопы з'яўляюцца вынікам таго, што нашы важатыя забываюцца аб тым, што піонерская арганізацыя ёсць арганізацыя дзяцей і што кіраваць піонерамі гэта зусім не азначае падмяняць актыўнасць дзяцей. Ніколі нельга забывацца аб узросных асаблівасцях дзяцей і аб тым, што актыў піонераў трэба вырошчваць па кожнаму атраду. Уважлівыя і клапатлівыя адносіны да піонерскага актыва, прыслухоўванне да іх карысных прапаноў, прывіццё ім арганізатарскіх навыкаў—вось што зябяспечвае поспех справы.

*Аб злапалучнай лінейцы.* Як вядома ЦК ВЛКСМ адмяніў у піонератрадзе лінейку як мерапрыемства, якое нічога агульнага не мае з комуністычным выхаваннем дзяцей. І гэта сапраўды так. Схаластыка, знешняя параднасць, унутраная пустата,—вось што характэрна для большасці лінеек.

Вось некаторыя прыклады таго, як праводзілася лінейка ў піонератрадах.

Горад Рэчыца. Узорная школа. Усе піонеры павінны з'ўляцца ў школу за поўгадзіны да пачатку заняткаў. А за 10 мінут да званка выстрайваюцца ў рад (непіонеры стаяць збоку і глядзяць), і піонер ці піонерка робіць паведамленне аб падзеях у Кітаі, або Іспаніі. Зразумела, што з такога 7-8-мінутнага даклада, які робіць усхваляваны непадрыхтаваны „аратар", дзеці не могуць зразумець сутнасці падзей. Апрача таго дзеці вельмі нездаволены тым, што ім прыходзіцца ўставаць раней і зусім дарэмна траціць час.

Або вось другі прыклад. Піонер адной з Віцебскіх школ робіць даклад на лінейцы аб саарскім пытанні. Пасля дакладу яму даюць

пытанне: „Чаму ў вырашэнне саарскага пытання ўмяшалася Ліга нацый?“ Піонер пачырванеў, не адказаў і заплакаў.

Такія прыклады можна знайсці ў любым атрадзе, дзе праводзілася лінейка. Мы павінны ў пастаноўцы палітінфармацыі сярод піонераў рашуча адмовіцца ад моманту парадкасці, шуміхі, ад ужывання форм прапаганды, не ўласцівых большэвізму. Да гэтай работы неабходна падыйсці з ўсёй сур'ёзнасцю і ўдумлівасцю, каб забяспечыць высокі ідэйны змест, жывасць, яркасць і красачнасць. Нельга ператвараць палітычную інфармацыю ў нейкую гульню.

Трэба таксама змагацца і супроць ператварэння піонераў у слухачоў соўпартшколы.

*Аб культурных перапынках і культурных зборах.* Некаторыя важатыя прывучаюць атрады працаваць рыўкамі. Правялі адзін культурны перапынак і лічаць, што гэта ўсё. А на астатніх перапынках недысцыплінаванасць, вучні хуліганяць і т. д. Таксама ў атрадзе і звяне. Правядуць адзін культурны збор атрада і звяна і лічаць, што справа зроблена.

Мы не павінны працаваць па-кампанейску. Мы не ўмеем замацаваць карысныя мерапрыемствы, не арганізоўваем піонерскі актыў на тое, каб усе перапынкі і зборы праводзіліся культурна.

Усе вышэйуказаныя недахопы не выпадковы. Гэта пераважна вынікае з дрэннай якасці кадраў важатых. У нас у цэлым радзе атрадаў нават зусім няма важатых. І вось, калі бачыш атрад без важатага заўсёды прыпамінаеш змешчаную ў „Комсомольскай правде“ карыкатуру: „У аднаго мядзведзя важаты ёсць, а ў 50 піонераў ніводнага важатага няма“. У нас важатых малая колькасць і якасць іх нізкая. Вось дзве прычыны, якія прыводзяць да слабай піонерработы, а гэтаму садзейнічае перадавер'е ўсёй работы атрада з боку комсамола аднаму важатаму, адсутнасць кантролю і патрабавальнасці да важатых з боку комсамольской арганізацыі.

Гэта прыводзіць таксама і да таго, што ў рады важатых пралазяць чужддыя людзі. Менскі гарком выявіў, што дачка кулака Гараль 2 гады была важатым. Бярэзінскі РК ЛКСМБ на курсы важатых у Менск прыслаў скрыўшую сваё паходжанне дачку паліцэйскага.

З важатымі ў нас справа дрэнная як па колькасці, так і па палітычнай падрыхтаванасці, агульнай адукацыі і культурнасці.

Тав. Косарэў у пісьме аб паводзінах важатага ўказаў, што „ЦК ВЛКСМ патрабуе, каб кожны важаты, кіруючы работнік піонерскай арганізацыі сваёй актыўнасцю, арганізаванасцю і культурнасцю даваў прыклад піонерам і дзецям і ўсімі сваімі паводзінамі садзейнічаў выхаванню арганізаванай, культурнай, дысцыплінаванай змены“.

Мы гэтага яшчэ не дабіліся. Мы і зараз ведаем многа важатых, якія з'яўляюцца некультурнымі ў размовах і быту і не дамагаюцца павышэння свайго культурнага і палітычнага ўзроўню.

Я прывяду некаторыя лічбы, якія характарызуюць састаў важатых.

Па 37 раёнах і 3 гарадах на 1/I—35 г. мы мелі 2198 атрадаў, у гэтых атрадах важатых было ўсяго 1387, гэта значыць 37 проц. атрадаў было без важатых. З гэтых важатых больш паловы платныя, значыцца няплатных вельмі мала, а ў нас па рэспубліцы няплатных важатых павінна быць большасць.

Па даных 5 раёнаў і 1 горада з 248 важатых—40 маладзей 18 гадоў. Як бачыце гэта яшчэ малышы, самі яшчэ нядаўна піонеры і ім кіраваць атрадам, а тым больш па цэлай школе цяжка.

*Па стажу піонерработы*—да 6 месяцаў—101 чал., ад 6 месяцаў да 1 года—51 чал.

*Па адукацыі*—ніжэй сямігодкі—74 чал. Гэта прама недапушчальна. З 248 важатых здалі нормы на значок „Варашылаўскі стралок“ толькі 29, на „ГПА“—33, ніякіх норм не здавалі 174.

Мы правялі выбарачнае абследванне 15 Менскіх піонератрадаў па цякучасці важатых у іх і ўстанавілі, што за апошнія паўтара года ў гэтых 15 атрадах было 48 важатых. З іх па 3 месяцы працавала 22, па 6 месяцаў—16, да 1 года—8, а звыш года—толькі 2 чал. У 7 з правераных атрадаў па 6-7 месяцаў за гэты час не было важатага. Гэта называецца замацаваннем кадраў важатых! Як-жа мы можам патрабаваць ад такога важатага работы, калі ён не паспее прыйсці ў атрад, а яго ўжо мяняюць?.. Гэта дрэнна адбіваецца на выхаванні дзяцей.

Амаль усе раёны правялі дэкадныя курсы падрыхтоўкі важатых. Але трэба адзначыць, што многія з іх аднесліся да арганізацыі гэтых курсаў бюракратычна, фармальна. Усяго па 65 раёнах на курсах было 1300 чалавек. Здаецца вялікая армія важатых. Аднак важатыя гэтыя па якасці не задавальняюць прад'яўляемым да іх патрабаванням. З 630 важатых—курсантаў (па матэрыялах 34 раёнаў) 310 з адукацыяй ніжэй сямігодкі. У атрадах з ліку скончыўшых дэкадныя курсы працуюць далёка не ўсе. У Магілёве больш 30 чал. скончылі курсы, а да атрада піонераў дайшло толькі 3-4. Тое-ж у Гомелі, у Сянно і інш.

Чаму здарылася такое становішча? Таму што камітэты КСМ фармальна, бюракратычна аднесліся да выканання пастановы ЦК ЛКСМБ аб дэкадных курсах, „выканалі развёрстку“, але не паклапаціліся аб атрадзе, аб дзецях. Вось у чым бяда.

Недапушчальныя недахопы ў нас і пры падыходзе да зацверджання ці вылучэння важатага. Напрыклад у Полацку (Тураўлянская школа) дырэктар школы Буевіч прышоў у райком комсамола і рэкамендуе нейкую Дазорац піонерважатай сваёй школы. У райкоме рады, што дырэктар рэкамендуе важатага і не праверыўшы, што гэта за чалавек, зацвярджаюць яго. А праз 2 тыдні аказваецца, што гэта Дазорац—жонка дырэктара і комсамолкай не з'яўляецца.

Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што аб працуючых важатых мы клапоцімся вельмі мала. Важатаму неабходна дапамагаць, клапаціцца аб ім; калі ён слабы—вучыць яго, дапамагаць яму адпачываць, лячыць яго, пасылаць у дамы адпачынку і інш. Але ў нас гэтага няма і ў выніку гэтага мы маем вялікую цякучасць важатых. Мы маем многа фактаў, калі важатыя займаюцца не сваёй справай. Яны падмяняюць дырэктароў, настаўнікаў, загадчыкаў гаспадаркі, а для сваёй вучобы не знаходзяць часу.

Вельмі многа важатых скардзіцца на бюракратычныя адносіны з боку ГК і РК ЛКСМБ. Важатую Іванову з Гомеля перакідаюць па рабоце пяты раз у год. Важатыя з Сянно скардзяцца, што ім выплачваюць менш зарплаты, чым належыць. З такога роду „клопатамі“ трэба весці рашучую барацьбу.

Часта мы маем такую з'яву. Раённы кіраўнік піонераў прыходзіць у пярвічную арганізацыю і просіць важатага, або прызначае піонерважатага зусім без удзелу комсамольскай ячэйкі. Такія з'вы неабходна спыніць і дабіцца нарэшце, каб кожны піонерскі атрад меў комсамольскую арганізацыю, якая вылучае важатага і штодзённа кіруе работай.

Пытанне аб гэтым павінна быць вырашана ў самы кароткі час. Мы маем для гэтага ўсе магчымасці. Знайшоў-жа Барысаўскі РК ЛКСМ магчымасць забяспечыць усе атрады важатымі, арганізаваць вучобу сваіх важатых. Гэта павінны зрабіць усе ГК і РК ЛКСМБ.

## Аб задачах нашай работы з піонерамі

ЦК ВКП(б) у сваёй пастанове ад 21/IV—32 г. указаў, што „рашучая перабудова зместу грамадскай работы атрадаў юных піонераў павінна быць разгорнута ў тым напрамку, каб цэнтральнае месца ў ёй займала арганізуемая самімі дзецьмі пад кіраўніцтвам комсамола ў шчыльнейшай сувязі са школьнымі арганізацыямі і органамі Наркомасветы барацьба за якасць вучобы, за свядомую дысцыпліну, за політэхнізм у школе, за развіццё дзіцячай фізкультуры, за правільную арганізацыю дзіцячага досугу, і за павышэнне ўсёй работы па комуністычнаму выхаванню дзіцячых мас, супроць усякіх спроб пратаскваяня ў дзіцячае асяроддзе чуждай пролетарыяту ідэалогіі".

У адпаведнасці з гэтым указаннем мы і павінны працаваць. Бюро ЦК ВЛКСМ прыняў пастанову ліквідаваць ЦБ піонераў, ліквідаваць абласныя, краявыя і раённыя бюро піонераў, якім была перадаверана ўся справа кіраўніцтва піонерамі.

За піонерарганізацыю адказвае ўвесь комсамол і яго кіруючыя органы. Таму пры ЦК, ГК і РК арганізоўваюцца аддзелы юных піонераў. Дырэктывы для работы будуць выходзіць ад ЦК, ГК і РК, абавязковыя для ўсіх комсамольцаў. Зараз для піонерработнікаў работа стала больш адказнай. Раённы работнік раней не адчуваў адказнасці перад РК і рабіў што хацеў. А зараз загадчык аддзела камітэта будзе адказваць як член бюро за сваю работу перад камітэтам і ўсёй арганізацыяй і будзе дабівацца, каб бюро РК (ГК) ведалі работу піонерарганізацыі.

Нездарма ЦК ВЛКСМ ставіць пытанне аб персанальнай праверцы кожнага работніка, ці зможа ён справіцца з работай загадчыка аддзела піонераў.

Мы павінны на гэту работу браць людзей культурных, сур'ёзных, палітычна граматных. Тав. Косарэў, гаворачы аб якасці важатага, адзначаў, што калі ў пярвічнай арганізацыі ёсць два добрыя комсамольцы, то адзін з іх павінен быць комсоргам, а другі важатым. Гэта ў павышаным размеры адносіцца да РК, ГК і ЦК ВЛКСМ пры падборы работнікаў у аддзелы піонераў.

У нас заўважаюцца факты дрэнных узаемаадносін паміж піонерработнікамі і работнікамі школ. На комсамол ускладаецца адказнасць за комуністычнае выхаванне дзяцей, і ў гэтай рабоце мы павінны забяспечыць сумесную дзейнасць комсамола і органаў нарасветы. Самакрытыка недахопаў, выкрыццё нягодных людзей, пралезшых у рады работнікаў выхавання дзяцей, павінна весціся рашуча і сістэматычна. Безумоўна дрэнна, калі дырэктар школы (як напрыклад 25 Менскай) супярэчыць таму, што важаты без дазволу пайшоў на нараду ў гарком. Важаты, перш за ўсё комсамолец, які падпарадкоўваецца комсамолу. Гэта не выключае, а наадварот абавязвае важатага працаваць у цеснай сувязі са школай, узгадняць свае планы і мерапрыемствы.

Мы павінны ўявіць, што барацьба за добрую работу піонерскага атрада ёсць барацьба за культурнае абслугоўванне ўсіх дзяцей,

за арганізацыю дамоў мастацкага выхавання, за арганізацыю культурных пакояў у жактах, гэта значыць барацьба за комуністычнае выхаванне дзяцей, за пашырэнне ўплыву піянераў на ўсіх дзяцей.

Мы павінны значна ўзняць самадзейнасць і актыўнасць піонераў. Зусім недастаткова фармальна прызнаць, што піонерская арганізацыя самадзейная і што працаваць трэба адпаведна ўзросным асаблівасцям піонераў. Фармальнага прызнання мала. Мы павінны ў рабоце заўсёды гэта ўлічваць. Патрэбен дыферэнцыраваны падыход адпаведны развіццю, падрыхтаванасці і здаровым запатрабаванням дзяцей. А таму неабходна сачыць, каб добра працаваў кожны атрад і каб ва ўсіх атрадах былі добрыя важатыя.

Нельга вылучаць старшынямі ў малодшыя атрады піонераў старэйшых атрадаў. У кожным атрадзе старшыня павінен быць выбран з асяроддзя сваіх піонераў. Праўда, пры правядзенні пэўных мерапрыемстваў, можна і нават патрэбна перыядычна вылучаць старэйшых піонераў у дапамогу малодшым.

Нельга дапускаць выхалашчвання ўсёй ролі піонерарганізацыі за кошт гульняў і спеваў. Піонерскае звяно не павінна праходзіць міма дрэнных паводзін піонераў і вучняў, а дабівацца выпраўлення сваіх таварышоў, дабівацца каб піонеры нецярпіма адносіліся да заўважаемых імі недахопаў у навакольным жыцці, каб яны патрабавалі праз важатага, праз комсамольскую арганізацыю іх устаранення. Піонеры сваім уласным прыкладам павінны выхоўваць у масе дзяцей свядомую дысцыплінаванасць, ветлівасць, арганізаванасць і парадак.

Трэба спыніць механічнае запісванне ў піонеры, асабліва гэта мае месца ў вёсцы. Неабходна каб вучань добраахвотна, свядома ўступіў у піонератрад, бо гэта забяспечвае праяўленне яго актыўнасці і свядомасці.

Трэба ўрэшце ўстанавіць дасканалы ўчот піонерарганізацыі. Вось у нас лічыцца 200 тыс. піонераў, я думаю, што іх больш, бо ў нас 1 млн. школьнікаў. Учот РК ЛКСМБ скачкападобны. Часта дасылаюць звесткі, у якія самі не вераць. Трэба ўчот работы таксама наладзіць у атрадах і дабіцца таго, каб піонеры любілі ўчот. Я бачыў атрад піонераў, які мае скрыначку, дзе запісана маёмасць атрада і прыкладзен поўны спіс піонераў з адзнакамі калі той ці іншы піонер уступіў у піонерарганізацыю, калі выбыў або выключан. Учот трэба неадкладна наладзіць па ўсіх атрадах, ва ўсіх гарадах і раёнах БССР.

Трэба вылучыць рабят старэйшага ўзросту на кіруючую работу: у піонерскія клубы, гурткі і асабліва на работу сярод окцябрат. Мы работу з окцябратамі закінулі. Калі комсамол перадаверыў работу піонерарганізацыі важатым, то піонерработнікі перадаверылі ў сваю чаргу работу сярод окцябрат юным піонерам. Зразумела, мы не можам дабіцца таго, каб важатымі ўсіх груп окцябрат былі комсамольцы, але трэба на гэту работу вылучыць лепшых старэйшых піонераў, у першую чаргу піонераў-комсамольцаў. У буйнейшых школах трэба мець старшых важатых окцябрат, аслабанёных. У асобных ГК (РК) у нас ёсць платныя работнікі сярод окцябрат, але яны не выконваюць сваіх абавязкаў, іх нагружаюць другой работай; аб гэтым яны скардзіліся на нядаўна праведзенай нарадзе ў ЦК ЛКСМБ.

Неабходна работу окцябрат зрабіць жывой, цікавай, каб к 11-гадаваму ўзросту ў групе падрыхтаваўся актыўны культурны піонер.

Трэба разгарнуць работу па арганізацыі ў жактах пакояў для піянераў, дапамагчы фарпостам замацавацца як пастаянная форма арганізаванай піонерскай работы па-за-школай.

Трэба часцей паказваць атрад у паходзе, каб працоўныя бачылі піонерскі атрад з горнам, сцягам, барабанам, каб аб атрадзе ведалі, каб піонератрад сваёй арганізаванасцю таксама ўплываў на астатніх дзяцей.

Каб гэта ажыццявіць, неабходна лепш працаваць з піонерскім актывам. Мы-ж яго часта не ведаем. Кожны важаты павінен ведаць свой актыў, павінен ацэньваць і выкарыстоўваць яго здольнасці і адпаведна здольнасцям даваць работу рабятам, арганізоўваць іх у гурткі, пасылаць іх на дзіцячыя тэхнічныя станцыі.

*Яшчэ раз аб важатых.* ЦК указвае, што важатых трэба абавязкова выбіраць у пярвічнай арганізацыі і зацвярджаць у РК КСМ.

Важатага трэба замацаваць не менш чым на 2 гады.

У нас ёсць многа камсамольцаў-настаўнікаў важатых. Мы не кажам, што комсамолец настаўнік не павінен быць важатым, але неабходна, каб гэты настаўнік зразумеў асаблівасць сваёй работы ў атрадзе, як комсамолец-важаты. Бо часта ў атрадзе паўтараюць урокі і абмяжоўваюцца гульнямі. Важаты комсамолец-настаўнік павінен рыхтаваць да піонерскай работы лепшых комсамольцаў з калгасаў і соўгасаў.

Мы павінны ўсямерна садзейнічаць культурнаму росту важатых і павышаць іх кваліфікацыю. Для гэтага ёсць усе сродкі і магчымасці.

Неабходна ў кожным горадзе і раёне мець пастаянна працуючы семінар піонерскіх важатых, забяспечаны кадрамі прапагандыстаў. Мы павінны мець у раёне пастаянныя шахматныя, валейбольныя і стралковыя каманды важатых. Мы павінны ўкамплектаваць для важатых бібліятэчкі палітычнай, мастацкай і спецыяльнай літаратурай, бо многія важатыя не чытаюць літаратуры.

Мы з Наркомасветы ў прынцыпе дагаварыліся, што ў кожным педгабінеце павінен быць адпаведна абсталяваны пакой піонерважатага. У гарадах неабходна па прыкладу Менска выдзеліць спецыяльны габінет важатага, дзе важаты мог-бы вучыцца працаваць, сустракацца з лепшымі педагогамі.

Трэба дабіцца, каб лепшыя педагогі ўзялі шэфства над важатымі і не толькі ў педагагічнай, але і ў агульнаадукацыйнай падрыхтоўцы іх, дапамаглі важатаму аўладаць ведамі ў аб'ёме сямігодкі, або сярэдняй школы без адрыву ад работы.

Мы ў гэтым годзе прапусцілі праз лагеры Асоавіяхіма 200 важатых. Але гэтага мала. Трэба па раёнах праводзіць аздараўляючыя і фізкультурныя мерапрыемствы з важатымі. Наконт ведання кадраў важатых мы павінны паставіць перад сабой задачу: аддзел піонераў ЦК ЛКСМБ павінен прадставіць на зацверджанне Бюро ЦК і мець персанальны ўчот усіх платных важатых, а таксама ўстанавіць сувязь з 5—10 лепшымі атрадамі кожнага раёна, каб бачыць работу важатых.

Загадчыкі аддзелаў піонераў ГК і РК КСМ павінны ведаць усіх важатых і старшынь советаў атрадаў не толькі па прозвішчу, а на справе, гаварыць з імі, каб яны да яго звярталіся, тады ён будзе ведаць чым дыша арганізацыя і будзе патрабаваць ад важатага адпаведнай работы не па форме, а па сутнасці.

Прыдзецца таксама праглядзець напрамак работы рэспубліканскай школы важатых. Яна зараз не адказвае патрабаванням, асабліва па практыцы і тэрміну навучання. Мы ў гэтым навучальным годзе перабудуем школу важатых і прывядзем яе ў адпаведнасць з цэнтральнымі курсамі, давядзем тэрмін навучання да 4-5 месяцаў, каб важаты прыехаў у атрад добра падрыхтаваным.

Мы будзем патрабаваць ад райкомаў накіравання на курсы лепшых комсамольцаў, а не каго папала.

Каб па-большэвіцку выканаць дырэктывы партыі аб комуністычным выхаванні дзяцей, трэба працаваць з удзесяцяронымі сіламі.

Дзецям нашай краіны прадстаўлены ўсе магчымасці добрай вучобы і культурнага жыцця на падставе поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва, і нам трэба арганізаваць у атрадах такія ўмовы, пры якіх піонеры маглі-б заўсёды атрымаць адказ на хвалюючыя іх пытанні палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця, маглі-б праявіць сваю творчую ініцыятыву і актыўнасць, якая выражае адданасць краіне, любоў да Комуністычнай партыі.

Мы павінны рашуча змагацца з дзіцячай безнагляднасцю і беспрытульнасцю, прылажыць усе намаганні, каб пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб ліквідацыі дзіцячай беспрытульнасці і безнагляднасці была выканана цалкам у самы бліжэйшы час.

У гэтым напрамку нам прадстаіць многа работы.

Пастанова ўрада аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці няпоўналетніх злачынцаў агароджвае большасць дзяцей ад небяспечных дзеянняў хуліганаў і злачынцаў, знішчыць злачыннасць сярод няпоўналетніх і нанясе сакрушальны ўдар па рэштках класава-варожых элементаў і на гэтым участку нашага жыцця, паскараючы працэс ліквідацыі перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей. Наша задача ўмацоўваць і паляпшаць работу дзіцячых дамоў і прыёмнікаў, максімальна пашыраць ачагі культурна-масавай работы сярод усіх дзяцей у горадзе і вёсцы, каб ажжыццяўленне пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб ліквідацыі беспрытульнасці і безнагляднасці сярод дзяцей была комсамольскай заслугай.

Штодзённыя клопаты і ўвага партыі і ўрада да комуністычнага выхавання падрастаючага пакалення—залог поспехаў нашай работы па выхаванню юных піонераў дастойнымі сынамі і дочкамі соцыялістычнай радзімы, якая пад кіраўніцтвам партыі і любімага правадыра таварыша Сталіна будуе бяскласавае соцыялістычнае грамадства.

---

*В. СТРУСЕВІЧ*

*Выкладчык геаграфіі*
*Менскай 4-й школы імя Кірава*

# Нагляднасць у выкладанні фізічнай геаграфіі

Цэнтральны камітэт ВКП(б) і Совет народных камісараў СССР у сваёй пастанове ад 16/V 1934 г. „Аб выкладанні геаграфіі ў пачатковай і сярэдняй школе" ў ліку іншых недахопаў, якія ёсць у выкладанні геаграфіі, адзначаюць „адцягненасць і сухасць ізлажэння", „слабую арыентыроўку па карце".

Кожны выкладчык геаграфіі павінен паставіць перад сабой задачу ўстаранення ўсіх гэтых недахопаў. Пры гэтым асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на ўзмацненне нагляднасці ў працэсе вывучэння геаграфіі. Славеснае схаластычнае выкладанне не можа забяспечыць цвёрдага засваення ведаў. Нішто не дае такіх выдатных рэзультатаў, як прадметнасць, нагляднасць і канкрэтнасць выкладання.

У адносінах нагляднасці геаграфія сярод іншых навук займае асаблівае месца: пераважная большасць аб'ектаў, з якімі вучань мае справу, ён бачыць не можа. Для настаўніка таму вынікае абавязак не прапускаць ніводнага выпадку, які-б мог накіраваць выкладанне ў бок нагляднасці. Асабліва вялікае значэнне мае нагляднасць выкладання пры вывучэнні фізічнай геаграфіі. Нагляднасць выкладання мае не толькі адукацыйнае, але і выхаваўчае значэнне.

Пераходзячы да вопыту прымянення на практыцы выкладання фізічнай геаграфіі метада нагляднасці, я спынюся на некаторых момантах, не думаючы аднак гэтым поўнасцю вычарпаць усіх велізарнейшых магчымасцей прымянення нагляднасці, якія ёсць у выкладчыка геаграфіі.

Першым, самым простым „наглядным дапаможнікам" пры выкладанні геаграфіі з'яўляюцца тыя геаграфічныя аб'екты, геаграфічныя з'явы, геаграфічныя адносіны, якія сустракаюцца ў нас на кожным кроку і якія неабходна скарыстаць пры выкладанні геаграфіі. Акружаючая нас рэчаіснасць дае магчымасць у сапраўднасці, а не на словах пазнаёміцца з формамі рэльефа, з горнымі пародамі, глебамі, характэрнымі асаблівасцямі клімата, асаблівасцямі водаснабжэння (рэкі, рэчкі, азёры, грунтавыя воды), з тыповымі раслінамі, жывёламі, з насельніцтвам, соцыялістычным будаўніцтвам (будаўніцтва фабрык і заводаў, калектывізацыя, выпрамленне рэльефа, пракладка дарог і т. п.). Гэты матэрыял, узяты з акружаючай рэчаіснасці, пазнаёміць вучняў з асноў-

нымі геаграфічнымі паняццямі, увядзе іх у разуменне плана і карты, створыць у вучняў вялікі запас канкрэтных прадстаўленняў.

Матэрыял, узяты з акружаючай рэчаіснасці, скарыстоўваецца на практыцы пры прапрацоўцы такіх тэм фізічнай геаграфіі: „Арыентаванне і здымка“, „Формы зямной паверхні“, „Вада на зямлі“, „Будова зямнога шара“, „Атмасфера“, „Знешнія сілы зямлі“, „Ландшафныя зоны і чалавек“.

Многае з успрынятага вучнямі ў час экскурсій у прыроду можа быць замацавана шляхам мадэліравання (напр., формы зямной паверхні).

## Карта

З карты звычайна пачынаецца і картай канчаецца работа па геаграфіі. Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 16/V 1934 г. робіць упор на карту, а ў пастанове ЦК ад 1932 г. гаворыцца, што „праграма па геаграфіі павінна забяспечыць веданне карты, асабліва карты СССР, *асноўных паняццяў фізічнай геаграфіі* (падкрэслена мною—*В.С.*), асноўных элементаў фізічнай, прыроднай і эканамічнай геаграфіі СССР як у цэлым, так і кожнай з рэспублік, краёў і абласцей паасобку“.

Выконваючы гэту дырэктыву партыі і ўрада я кожны ўрок суправаджаю дэманстраваннем карты. На працягу некалькіх год сваёй работы я сабраў дастатковую колькасць карт, каб працаваць з картай пры праходжанні ўсіх аддзелаў геаграфіі.

Забяспечыўшы выкладанне картамі, мы павінны паклапаціцца аб тым, каб вучань любіў карту, цікавіўся ёю, разумеў яе. А між тым мы часта сустракаемся з фактамі, калі вучань карыстацца картай не ўмее.

Я ў сваёй практыцы раблю так. Прапрацоўваючы тэму „Градусная сетка“, пасля вывучэння шыраты і даўгаты, а таксама мясцовага і паяснога часу, уводжу падтэмы: „Картаграфічныя праекцыі“ і „Як карыстацца геаграфічнай картай“.

Пасля таго як вучні даведаюцца, што не заўсёды іх можа задавальняць глобус, што неабходна ізабражаць паверхню зямлі на плоскасці, я ім паказваю глобус, разрэзаны на часткі праз 30° па мерыдыянах і прыбіты цвічкамі да фанернай дошкі. Вучні пераконваюцца, што перанесці паверхню шара на плоскасць, не зрабіўшы памылкі немагчыма. Затым з дапамогай праекцыйнага глобуса (дарэчы сказаць, у продажы іх няма і таму праекцыйны глобус зроблен сіламі школы) знаёмлю вучняў з канічнай, цыліндрычнай, меркатарскай, стэрэаграфічнай і гарызантальнай праекцыямі.

Дэманстраванне праекцыйнага глобуса дапамагае вучням зразумець, чаму на картах канічнай праекцыі мерыдыяны—прамыя лініі, якія зыходзяцца каля полюса, а паралелі—дугі (пасля гэтага вучні не скажуць, што мыс Дзежнеў—самая паўночная точка Савецкага саюза, хоць на карце ён распаложан і вышэй). Вучні свядома разбіраюцца і з картай меркатарскай праекцыі (бачачы востраў Грэнландыю на карце гэтай праекцыі, яны не здзіўляюцца, што ён на выгляд большы за Паўднёвую Амерыку, або Аўстралію, хоць па колькасці квадратных кілометраў ён у восем разоў меншы за Паўднёвую Амерыку і ў тры разы меншы за Аўстралію). Знаёмячыся з гарызантальнай праекцыяй, вучні ўспамінаюць, што карты такой праекцыі змяшчаліся ў газетах і журналах у той час, калі працоўныя ўсяго Савец-

кага саюза ды і ўсяго свету сачылі за гераічнымі падзеямі па ратаванню чэлюскінцаў.

Выдзяленне падтэмы „Як карыстацца геаграфічнай картай“ вельмі неабходна і дапамагае свядомаму падыходу да вывучэння карты. Пры праходжанні гэтай падтэмы вучням даюцца парады перш чым пачаць шукаць які-небудзь геаграфічны пункт, неабходна паглядзець на назву карты, звярнуць увагу на яе праекцыю, маштаб, якая карта па зместу, сімволіку карты і т. п. Пасля гэтага я звычайна зачытваю ўрывак (радкоў 40) з кнігі „Картаграфія“, урывак, у якім вельмі красачна расказваецца аб тым, што гаворыць нам карта.

Вучні на ўроку геаграфіі заўсёды павінны мець у сябе на сталах або геаграфічныя атласы або набор карт, і калі выкладчык расказвае і прыводзіць геаграфічныя назвы ўвесь клас працуе актыўна, знаходзячы і паказваючы тупым канцом алоўка тыя месцы, дзе распаложаны прыведзеныя выкладчыкам геаграфічныя назвы. Пры гэтым выкладчык сочыць за тым, каб працавалі ўсе вучні.

Да гэтага метада ўцягвання ўсіх вучняў класа ў актыўную работу на ўроку я звярачаўся таксама пры вывучэнні плана (для чаго сабрана было да 25 планаў горада Менска) і тапаграфічнага плана і карты (для чаго была падрыхтавана такая колькасць тапаграфічных планаў, якая забяспечвала кожнага вучня асобным экземплярам). Выконваючы розныя заданні па плану і тапаграфічнай карце, вучні працавалі ў класе і дома з дапамогай маштабнай лінейкі, ніткі і курвіметраў (апошнія некаторымі вучнямі былі зроблены самастойна).

Вельмі важным наглядным дапаможнікам з'яўляецца контурная карта. На ёй як на канве вучань паступова наносіць усё новыя і новыя, атрымліваемыя ім геаграфічныя паняцці. Аднак трэба сказаць, што патрэбнасць у іх вельмі вялікая, а ў продажы контурныя карты бываюць толькі невялікага маштаба і ў абмежаванай колькасці.

## Глобус

Пасля паяўлення ў часопісе „География в школе“ № 2, 1934 г. артыкула І. Старасціна „Упражнения с глобусом“ магчыма не трэба было-б паўтараць, што глобус займае „першае і важнейшае месца сярод іншых геаграфічных дапаможнікаў, асабліва пры вывучэнні матэматычнай і фізічнай геаграфіі“.

Маючы глобус мы расчляняем вучням тыя геаграфічныя з'явы і тыя іх асаблівасці, якія можна аб'ясніць толькі шарападобнай формай зямлі. Калі нам трэба даказаць, што зямля мае шарападобную форму мы карыстаемся глобусам, як зменшанай мадэллю зямнога шара. Вярчэнне зямлі вакол сваёй ваабражаемай восі, рух зямлі вакол сонца і т. д. мы раз'ясняем вучням з дапамогай глобуса. На глобусе лягчэй за ўсё можна выясніць асаблівасці градуснай сеткі і паказаць, як адрозніваецца градусная сетка на картах розных праекцый. На глобусе мы прапрацоўваем гарызонт і староны гарызонта, праводзім вызначэнне геаграфічнага палажэння, робім кругасветныя падарожжы, ідучы па мерыдыяну або паралелі свайго месца, шукаем точку, процілеглую нашаму месцу, вымяраем адлегласць, вывучаем мясцовы і паясны час, сонечныя і месячныя зацменні.

Правесці ўсе пералічаныя практыкаванні можна толькі пры ўмове, што выкладчык будзе мець у сваім распараджэнні дастатковую колькасць глобусаў. Але паколькі школе набыць такую колькасць глобусаў цяжка, то я за некалькі дзён да праходжання тэм „Форма і рух зямлі“

і „Градусная сетка“ сказаў вучням усіх пятых класаў прынесці часова ў школу свае глобусы. Такім чынам разам з школьнымі пры праходжанні названых тэм у мяне аказалася больш 20 глобусаў, г. зн. такая колькасць, якая дала магчымасць наглядана прапрацаваць усе тыя моманты, якія былі намечаны вучэбным планам.

## Геаграфічная карціна

Геаграфічная карціна служыць вельмі важным сродкам у руках выкладчыка геаграфіі. А. С. Баркоў у артыкуле „О классных картинах по географии“ („География в школе“, № 1, 1934 г.) гаворыць: „Адной карты мала. Яна дае толькі схему, шкілет, яшчэ пазбаўлены жыццёвых фарбаў. Геаграфічная карціна дае зрокавы вобраз краіны. Яна дапаўняе карту і геаграфічнае апісанне. Тое, што магчыма ізлажыць толькі на многіх старонках слоўнага апісання, значна лепш і наглядней ізабражаецца на карціне. Тое, чаго не можа перадаць карта—характар расліннага пакрову, жывёльнага свету, бытавыя і гаспадарчыя асаблівасці краіны—даецца ў карціне, якая, такім чынам, у пэўнай меры замяняе асабістае знаёмства з мясцовасцю“.

Надаючы вялікае значэнне геаграфічнай карціне, я ўводжу геаграфічныя карціны ў якасці дыдактычнага матэрыялу там, дзе гэта толькі магчыма. Прыходзіцца гаварыць, дзе гэта магчыма таму, што мы яшчэ адчуваем недахват геаграфічных карцін.

Прапрацоўваючы тэму „Формы зямной паверхні“ я скарыстаў наступныя карціны: карціна раўнінных месц, формы рэльефа, карціну даліны, ушчэлля, профіль рэльефа СССР па паралелі Масква—Новасібірск—Байкал—Камчатка. Пры прапрацоўцы тэмы „Вада на зямлі“ я дэманстраваў такія карціны: Мамантава пяшчэра, гейзеры, апоўзні, вадапад, канван, работа мора, каралавы востраў. Часамі з прычыны адсутнасці сапраўдных геаграфічных карцін я скарыстоўваю плакаты, калі яны падыходзяць па зместу, напрыклад, плакат Беламорска-балтыйскі канал, плакат тапаграфічныя знакі, іншыя плакаты выдання для АСО.

Бывалі выпадкі, калі загадзя рыхтуючыся да ўрокаў і не знайшоўшы патрэбных дапаможнікаў, карціны адпаведнага зместу выконваліся сіламі школы, і ўсё-ж такі вучні атрымлівалі ілюстрацыю там, дзе гэта было неабходна. Так, напрыклад, была зроблена карціна „У Новарасійскім парту. Абледзянелы карабль“.

Вельмі многа карціннага матэрыялу выкладчык і вучні знаходзяць у журналах і газетах, асабліва ў газетах „Правда“ і „Комсомольская правда“. Вучні сочаць за газетамі і не прапусцяць, а, наадварот, прынясуць у клас тыя карцінкі, якія маюць геаграфічную цікавасць. Так, напрыклад, у газеце „Правда“ былі знойдзены наступныя ілюстрацыі: гібель параходаў у рэзультаце шторма ў Атлантыцы, паход совецкага катэра „Тайфун“ (які прывёў на буксіры з Амстэрдама вуглеперагружацель, не гледзячы на моцныя штормы), нараджэнне вострава (новы востраў, які ўзнік у рэзультаце ізвяржэння падводнага вулкана на Ціхім акіяне, недалёка каля Японскіх берагоў; здымак быў зроблен з барта парахода „Голд Стар“), карціну выветрывання (сем гіганцкіх каменных слупоў у Печорскім краі вышынёй да 30 *м* кожны). Усе гэтыя карціны былі скарыстаны ў класе з дапамогай эпідыяскопа.

Магчыма, вядома, скарыстаць стэрэаскапічныя геаграфічныя карціны, якія безумоўна з'яўляюцца каштоўным наглядным дапаможнікам. Але работа з імі пры класным выкладанні даволі цяжкая. У пазашкольны

час у якасці гуртковай работы пажадана скарыстаць і стэрэаскапічныя геаграфічныя карціны, якія пачалі асобнымі серыямі з'яўляцца ў продажы.

Вельмі зручнымі для ілюстравання самых рознастайных тэм па геаграфіі з'яўляюцца дыяпазітыўныя светавыя геаграфічныя карціны. Вядома, што для скарыстання дыяпазітыўных карцін патрэбны некаторыя прыстасаванні—экран, цёмныя шторы, валшэбны фанар. Я з пачатку 1934-1935 навучальнага года падрыхтаваў усё гэта, і цяпер, калі трэба прадэманстраваць з дапамогай валшэбнага фанара той ці іншы набор карцін, на працягу перапынку завешваюцца вокны ў любым класе і ўстанаўліваецца фанар, пасля чаго дэманструюцца карціны.

У мінулым навучальным годзе мною быў скарыстаны фанар і дыяпазітывы пры праходжанні тэмы фізічнай геаграфіі „Форма і рух зямлі". Тут я паказаў вучням некалькі дыяпазітыўных карцін, але асабліва моцнае ўраджанне зрабіў рухаючыйся дыяпазітыў, які паказвае набліжэнне і аддаленне карабля. Пры праходжанні тэмы „Будова зямнога шара" дыяпазітывы скарыстоўваліся часта. Была з дапамогай фанара вывучана схема будовы зямнога шара. Падтэма „Гораўтварэнне" таксама была прапрацавана з дапамогай дыяпазітываў і валшэбнага фанара. Не прыходзіцца падрабязна і гаварыць, што падтэмы „Вулканы", „Землетрасенні" багата ілюстраваліся дыяпазітыўнымі карцінамі.

Паказ геаграфічных карцін мае і вялікае выхаваўчае значэнне. Гэта дапамагае вучням з меншым напружаннем, у той-жа самы час лепш зразумець і засвоіць той матэрыял, які ў даны момант вывучаецца, асабліва, калі да карціны падабраць і літаратурны матэрыял, жывы і цікавы, часта ўзяты з нашага соцыялістычнага будаўніцтва, матэрыял, які яшчэ больш мабілізуе вучняў да больш прадукцыйнай работы.

Адзначу і тут тую акалічнасць, што некаторыя дыяпазітыўныя карціны былі зроблены, і нядрэнна, сіламі школы. Напрыклад былі зроблены дыяпазітывы: „Зямля па прадстаўленню старажытных індусаў", „Зямля па прадстаўленню хрысціян больш тысячы год таму назад".

Вельмі добрым дыдактычным матэрыялам з'яўляюцца часопісы: „СССР на стройке", „Советские субтропики", „Наши достижения" і інш.

У адным з нумароў часопіса „СССР на стройке" ў 1934 г. былі змешчаны матэрыялы, звязаныя з паходам Масква—Каракум—Масква і з палётамі ў стратасферу. Гэты матэрыял свежы, узяты з соцыялістычнага будаўніцтва, матэрыял, які адлюстроўвае паспяховую барацьбу з самой прыродай.

Канчаючы аб геаграфічных карцінах неабходна хоць некалькі слоў сказаць аб магчымасці правядзення кіноўрокаў, г. зн. аб скарыстанні кіноленты ў якасці дапаможнага матэрыялу. Кіно цвёрда замацавалася ў практыцы многіх перадавых школ Масквы, Ленінграда і іншых гарадоў. Там у радзе раёнаў горада створаны кіностанцыі, якія абслугоўваюць школы свайго раёна. Неабходна і нам, сталіцы совецкай Беларусі, арганізаваць кіностанцыю, якая абслугоўвала-б вучэбнымі кінофільмамі школы г. Менска. Без наяўнасці такой станцыі не заўсёды можна арганізаваць і правесці кіноўрок. Спроба 4 школы імя Кірава арганізаваць кіноўрок скончылася нічым (то фільма не было ў Менску ў патрэбны час, то яго перараблялі і т. п.). Да таго-ж практыка школ, праводзячых кінолекцыі, гаворыць аб тым, што трэба

дэманстраваць не цэлы многаметражны фільм, а асобныя яго часткі; наяўнасць вучэбнай кіностанцыі забяспечыла-б школе магчымасць скарыстаць той матэрыял, які неабходны на данай лекцыі. Наяўнасць вучэбнай кіностанцыі дала-б магчымасць скарыстаць па курсу фізічнай геаграфіі наступныя фільмы: „Знаёмства з рэльефам мясцовасці", „Акіяны і моры", „Унутраныя воды", „Паверхневыя і грунтовыя воды", „Унутраныя сілы, змяняючыя паверхню зямлі", „Зямля—планета", „Дождж", „Навальніца", „Знешнія сілы, змяняючыя паверхню зямлі", „Зямля і неба" і інш.

## Мастацкае слова

Праграма і падручнік па геаграфіі даюць неабходны мінімум фактычных ведаў. Аднак ні праграма, ні падручнік не могуць ахапіць усёй работы настаўніка, усяго росту соцыялістычнага будаўніцтва, культуры і новых форм жыцця. Выкладчык геаграфіі ўказвае літаратуру, якую пажадана прачытаць вучням. Пазашкольнае чытанне вучняў безумоўна павінна праходзіць пад кіраўніцтвам настаўніка, вучань сам выбірае тэму, якая яго цікавіць, ён не звязан неабходнасцю перад кім небудзь адчытвацца, ён чытае яе ў вольны час. Вучань непрыкметна для сябе развівае самастойнасць, расшырае свой кругавід, у гутарках з таварышамі ён адчувае сябе мацней, у яго нараджаюцца новыя думкі.

Выкладчык геаграфіі сам павінен сачыць за тым, якія кнігі геаграфічнага зместу паяўляюцца на кніжным рынку. Ён сам павінен пазнаёміцца з той ці іншай кнігай і толькі пасля знаёмства можа рэкамендаваць яе вучням. У сваёй практыцы я раблю так. Пазнаёміўшыся з новай кнігай, я запісваю аўтара яе і загаловак у свой гадавы вытворчы план у адпаведную графу, спецыяльна для гэтага адведзеную.

Апрача пазашкольнага чытання выкладчык геаграфіі можа і павінен ілюстраваць урок фізічнай геаграфіі зачытваннем урыўкаў мастацкіх твораў, журнальных і газетных артыкулаў. Цяпер яшчэ няма геаграфічных хрэстаматый, у якіх можна было-б знайсці патрэбны выкладчыку матэрыял, таму прыходзіцца карыстацца старымі хрэстаматыямі, што прымушае выкладчыка быць вельмі асцярожным, загадзя ўважліва знаёміцца з тым артыкулам, які будзе прапрацоўвацца. Зразумела, што ў гэтых хрэстаматыях выкладчык часта не знаходзіць патрэбнага матэрыялу. А між тым у газетах „Правда", „Известия", „Комсомольская правда", „Рабочий", у часопісах можна знайсці дастатковую колькасць патрэбнага ілюстрацыйнага мастацкага матэрыялу. Напрыклад, пры прапрацоўцы тэмы „Формы зямной паверхні" я скарыстаў вельмі добры артыкул Н. Крыленка пад загалаўкам „Штурм Заалтайских вершин", змешчаны ў газеце „Правда". Артыкул гэты расказвае аб узыходжанні ў верасні 1934 г. чырвоных камандзіраў на пік Леніна. Не кажучы ўжо аб тым, што артыкул гэты даў многа ў тых адносінах, што вучні азнаёміліся з умовамі горных паходаў, у артыкуле ёсць цэлы рад выхаваўчых момантаў (значэнне дысцыплінаванасці пры такіх паходах; вучні ўсвоілі розніцу буржуазнага ўзыходжання з шматлікімі насільшчыкамі і ўзыходжання нашага без насільшчыкаў і т. п.). Гэты артыкул зацікавіў вучняў і многія з іх звярнуліся да выкладчыка з просьбай параіць ім што прачытаць, каб пазнаёміцца з гісторыяй нашых горных паходаў. Многія з вучняў пасля прачытання артыкула „Штурм Заалатайских вершин" прынеслі газетныя выразкі, у якіх расказвалася аб узыходжанні на Казбек, Алагез і інш.

Многія вучні наогул пачалі збіраць па газетах матэрыялы па фізічнай геаграфіі. Так, напрыклад, з газеты „Правда“ № 355 ад 26/XII—34 г. узят артыкул „Шторм в атлантике“ (там-жа прыкладзен рысунак „Гибель парахода „Усуарт“). Артыкул быў скарыстаны на ўроку і з'явіўся добрай ілюстрацыяй да прапрацаванага матэрыялу. Артыкул „Погребенный кряж“ („Правда“ № 356 ад 27/XII—34 г.) з'яўвіўся ілюстрацыяй пры закрананні пытання аб тым, што паверхня зямлі не застаецца нязменнай, а наадварот змяняецца. Яшчэ назаву некалькіх цікавых артыкулаў і ўрыўкаў узятых з газеты: „Открытия Берда“, „Сивашские миражи“, „Нашествие мышей на полярную станцию“, „Онежский жемчуг“, „Советский хинин“, „Галий“, „Землетрясение в Гондурасе“, „Землетрясение в Турции“, „Шторм на Черном море“ (гутарка па прамому праваду з начальнікам Новарасійскага парта), „Героическая борьба со стихией“, „Снежные обвалы в Кировске“.

Такім чынам прыведзеныя прыклады гавораць, што нечакаючы выхаду ў свет геаграфічных хрэстаматый, можна скарыстаць у патрэбных выпадках багаты матэрыял па фізічнай геаграфіі, які змяшчаецца ў нашых газетах. Гэтыя матэрыялы асабліва каштоўны тым, што яны даюць свежы матэрыял, вельмі часта матэрыял нашай савецкай рэчаіснасці, матэрыял соцыялістычнага будаўніцтва. Калі вучні разглядаюць геаграфічную карціну пад загалоўкам „Снежный обвал“, у іх можа стварацца ўражанне аб бездапаможнасці чалавека ў барацьбе з указанымі з'явамі. Чытаючы тут-жа артыкул „Снежныя обвалы в Кировске“, вучань бачыць, што ў нас у СССР, пры іншай арганізацыі працы, не гледзячы на тое, што ў Кіраўску таўшчыня снежнага слою даходзіла да 6 *м* і больш, чыгуначны рух быў адноўлен праз некалькі гадзін, рабочыя ў колькасці 7 чал., засыпаныя снегам, усе былі выратаваны (у другім газетным артыкуле было прачытана як загінулі насільшчыкі пры ўзыходжанні на Гімалаі ў час турысцкай экскурсіі, арганізаванай капіталістычнай краінай.

## Прыборы

Выканаць патрабаванне, прад'яўляемае настаўніку геаграфіі пастановай ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб большай нагляднасці, папулярнасці і цікавасці ізлажэння можна толькі прымяненнем на ўроках геаграфіі па магчымасці большай колькасці наглядных дапаможнікаў. Тут я пастараюся пералічыць тыя наглядныя дапаможнікі, якія скарыстоўваюцца мною на ўроках фізічнай геаграфіі, не лічачы геаграфічных карт, якія на ўроках павінны быць заўсёды.

*Глобус* (павінен быць як фізічны, так і палітычны і па магчымасці ў большай колькасці).

*Чорны глобус* (неабходзен пры папрацоўцы градуснай сеткі).

*Глобус, разрэзаны на плосгасці,* ужываецца пры вывучэнні праекцый.

*Праекцыйны глобус* (дапамагае разабрацца з асаблівасцямі картаграфічных праекцый).

*Адвес.*

*Транспарцір з адвесам* (для вызначэння шыраты месца; робіцца вучнямі).

*Ватэрпас.*

*Узровень.*

*Планшэты* (не менш 10 на клас).

*Компас* (не менш 25—30 штук на клас).

*Гнамон* (робіцца вучнямі).
*Вугламер.*
*Рэйка.*
*Мерная вяроўка.*
*Тэлурый.*
*Цэнтрабежная машына са стальнымі пругкімі кольцамі.*
*Плоскасць вагання маятніка.*
*Флюгер з ветрамерам.*
*Тэрмометр.*
*Барометр.*
*Дажджамер.*
*Анемометр.*
*Лупа.*
*Курвіметр.*
*Сонечны гадзіннік.*
*Біноколь.*
*Тапаграфічная горка.*
*Рулетка.*
*Стэрэаскоп.*
*Аласкоп.*
*Эпідыяскоп.*
*Калекцыі* (каменны вугаль, нафта, бавоўна, мінералы).
*Карты* (тапаграфічныя карты і планы з разліку 1 карта на вучня).
*Карціны.*
*Дыяпазітывы.*

*Ад рэдакцыі.* Падтрымліваючы цалкам прапанову т. Струсевіча аб арганізацыі ў Менску кіностанцыі, рэдакцыя чакае ад НК Асветы і Белдзяржкіно адпаведнага рэагавання.

---

*ГАЛКІНА*

*Настаўніца 7-й Менскай НСШ*

# Як я выкладаю гісторыю

Выкладаць грамадзянскую гісторыю ў НСШ—вялікая і адказная справа. Ад выкладчыка гісторыі патрабуецца цвёрдае веданне гістарычных фактаў, уменне так абагульняць і аналізаваць гэтыя факты, каб у вучняў атрымалася правільнае і цэласнае ўяўленне аб працэсе гістарычнага развіцця.

Мне прыходзіцца адначасова выкладаць гісторыю ў V, VI і VII класах. Пры гэтым у кожным з класаў выкладаецца гісторыя розных гістарычных эпох. Гэта, зразумела, значна затрудняе работу. Для таго каб у кожным з класаў выкладаць гісторыю ўпаўне добраякасна, неабходна самая сур'ёзная падрыхтоўка да кожнага ўрока. Дасканалая падрыхтоўка да ўрока—закон педагагічнай работы.

Падрыхтоўка да ўрока ў мяне звычайна складаецца з наступных элементаў:

1. *Прагляд праграм.* Гэта неабходна для таго, каб вызначыць аб'ём тых ведаў, якія вучні павінны атрымаць у выніку прапрацоўкі той ці іншай тэмы або падтэмы.

2. *Прагляд падручніка.* Не гледзячы на тое, што падручнік складзен для вучняў, я лічу для сабе абавязковым прагледзець той матэрыял, якім будуць карыстацца вучні. Гэта дае мне магчымасць ясна арыентавацца ў тым, наколькі цяжкі матэрыял, якія веды атрымаюць вучні ў выніку самастойнай работы і т. д.

3. *Скарыстанне старых (дарэвалюцыйных) падручнікаў.* Я добра ведаю, што падручнікі па гісторыі ў буржуазнай школе скажалі сапраўдную сутнасць гістарычнага працэсу, але тым не менш яны могуць быць з поспехам выкарыстаны для абагачэння сябе канкрэтным фактычным матэрыялам: трэба толькі матэрыял гэты ўспрыймаць крытычна.

4. *Вывучэнне класікаў марксізма.* Амаль па кожнай тэме неабходна звяртацца да твораў Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна, дзе знаходзіш багацейшы матэрыял для правільнага ўяўлення тых ці іншых гістарычных падзей і адзіна правільную навуковую ўстаноўку для поўнай арыентацыі ва ўсім гістарычным матэрыяле. Выкарыстанне гэтага матэрыялу надае глыбокую ўпэўненасць у выкладанні. Так, напрыклад, „Сялянская вайна ў Германіі“ Энгельса не толькі ўзбройвае нас для поўнай і метадалагічна вытрыманай пабудовы гэтай тэмы, але і ствараe для нас аснову для разумення такіх пытанняў, як феа-

далізм другога выдання, для разумення рухаючых сіл буржуазнай рэволюцыі, для выяснення ролі сялянскіх паўстанняў і інш.

5. *Выкарыстанне гістарычных часопісаў*. Для таго каб не адставаць ад узроўню гістарычнай навукі неабходна абавязкова сачыць за гістарычнай перыёдыкай. Я сістэматычна прапрацоўваю матэрыял трох гістарычных часопісаў: „Историк марксист", „Борьба классов" і „История в средней школе". У гэтых часопісах ёсць вельмі многа каштоўных матэрыялаў. Яны значна абагачаюць мяне гістарычнымі ведамі і методыкай выкладання гісторыі.

6. *Падбор кніг для пазакласнага чытання вучнямі* (гістарычныя нарысы, апавяданні, раманы і т. д.). Так, напрыклад, вучні з вялікай цікавасцю прачыталі па майму ўказанню „Под знаменем башмака", „Салават Юлаев" і інш.

Такая ўсебаковая падрыхтоўка да ўрока дае мне поўную магчымасць зусім чотка вызначыць тое, што я павінна паказаць, у чым пераканаць вучняў, дае магчымасць дабіцца цвёрдага засваення сапраўдных асноў марксісцка-ленінскага разумення гістарычнага працэса. Пры прапрацоўцы той ці іншай тэмы я ў адпаведнасці з праграмай устанаўліваю, што абавязкова павінен ведаць кожны вучань. Так пры прапрацоўцы тэмы „Сялянская вайна ў Германіі і рэфармацыя" я вызначыла для вучняў абавязковыя наступныя пытанні:

1) соцыяльна-эканамічныя супярэчнасці ў Германіі, якія прывялі да рэволюцыйнага ўзрыву;

2) змагаючыяся лагеры, іх соцыяльная аснова, патрабаванні і тактыка;

3) выступленне Лютэра і пачатак рэфармацыі;

4) рэволюцыйная барацьба сялянства, сутнасць яго патрабаванняў;

5) здрадніцкая роля гарадоў у сялянскім паўстанні;

6) роля плебейскіх элементаў горада ў ходзе паўстання, асаблівасці іх патрабаванняў;

7) Томас Мюнцэр як папярэднік комунізма;

8) прычыны паражэння сялянскага паўстання;

9) эканамічны заняпад Германіі і ўстанаўленне феадалізма другога выдання.

Намеціўшы асноўныя пытанні ці праблемы тэмы я там, дзе гэта магчыма, устанаўліваю сувязь з сучаснасцю (раблю адпаведныя параўнанні і т. д.). Так, пры прапрацоўцы тэмы „Сялянская вайна ў Германіі" я ўказала дзецям на контррэволюцыйны погляд Троцкага на сялянства, як на рэакцыйную сілу. Разам з тым я паказала як ацэньвалі сялянства Маркс, Энгельс і Ленін.

Устанавіўшы круг ведаў, якія вучні павінны набыць па той ці іншай тэме, я разбіваю гэту тэму на адпаведную колькасць урокаў. Пры гэтым я не заўсёды прытрымліваюся той нормы гадзін, якая вызначана ў праграме: часамі колькасць гадзін я павялічваю, часамі змяншаю, гэта залежыць ад таго, наколькі вучні маюць уяўленне аб той ці іншай тэме, наколькі я распалагаю матэрыялам і ў залежнасці ад таго, якое значэнне мае гэтая тэма ў сістэме ўсяго курса. Важнейшым элементам у сістэме падрыхтоўкі да ўрока мае рабочы план урока. У мяне план урока звычайна прадугледжвае наступныя моманты:

1. Адказы вучняў на заданую на дом тэму. Пры гэтым ад вучняў VI і VII класаў патрабую звязнага расказу па пэўнаму плану, які намячаецца мной або самімі вучнямі (у залежнасці ад ступені

цяжкасці матэрыялу). Адказы асобных вучняў па выкліку дапаўняюцца адказамі класа, прычым вядзецца ўпорная барацьба за тое, каб вучні адказвалі дакладна на пастаўленае пытанне.

2. Расказ настаўніка, які падагульняе пройдзены матэрыял, устанаўлівае сувязь з новым матэрыялам і дае новы матэрыял. Час для расказу настаўніка—20—30 мін. Пры гэтым расказ ілюструецца адпаведнымі дыдактычнымі і ілюстрацыйнымі матэрыяламі: геаграфічная карта (калі няма гістарычнай), гістарычныя карціны, эпідыяскоп, літаратурны матэрыял з гістарычнай хрэстаматыі, дакументы, дыяпазітывы, кіно.

3. Запіс вучнямі храналагічных даных у спецыяльныя сшыткі.

4. Паўтарэнне пройдзенага (5-10 мін). Часамі замест паўтарэння пройдзенага правяраю як вучні ўспрынялі новы матэрыял, на што адвожу таксама 5—10 мін. Для гэтага прапаную вучням рад пытанняў, адказы на якія і пяказваюць мне, як матэрыял засвоен вучнямі.

Усе імёны, цяжка засвойваемыя новыя словы настаўнік або вучні, якія сядзяць блізка каля дошкі, запісваюць на дошцы. Пры гэтым звяртаецца асаблівая ўвага на правільнасць транскрыпцыі. У канцы ўрока ўдзяляю 2—3 мінуты на тое, каб паказаць вучням як трэба ім выканаць хатняе заданне (старонкі падручніка запісваюцца на дошцы).

Вялікае значэнне я надаю пры выкладанні гісторыі нагляднаілюстрацыйнаму матэрыялу і таму стараюся як мага больш абагаціць сваё выкладанне ілюстрацыйнымі момантамі. На жаль наша школа гістарычнымі карцінамі, альбомамі і т. д. яшчэ бедная. Тым не менш, мне ўдалося знайсці некалькі гістарычных карцін, якія паказваюць гістарычнае мінулае Рыма. Усе гэтыя карціны я выкарыстоўваю на занятках. У маім распараджэнні ёсць наступныя гістарычныя карціны, „Рымскі воін“, „Фарум у Рыме“ (карціна паказвае ўезд трыумфатара), „У Рымскім доме“, „Унутранасць рымскага дома“.

Вельмі часта паказ карціны ў мяне суправаджаецца чытаннем мастацкага матэрыялу—урыўкі з гістарычных раманаў, гістарычныя апавяданні і т. д. Так, напрыклад, пры распрацоўцы з вучнямі гісторыі Рыма я прачытала цэлы рад урыўкаў з кнігі „Город Рим“ (карціны з бытавой гісторыі Рыма).

Вось урывак, які апісвае багацці Рыма:

„... У Рыме можна было зблізку разгледзець вырабы ўсяго свету: іспанскую шэрсць і кітайскі шоўк, мастацкія каляровыя шклы і тонкае палатно з Александрыі, віно і ўстрыц з грэчаскіх астравоў, сыр з альп і марскую рыбу Чорнага мора. У магазінах і крамах ляжалі лекавыя травы з Сіцыліі і Афрыкі, арабскія прысмакі, дыяменты з меляў Барэйнскіх астравоў і смарагд з Уральскіх руднікоў, кавалкі каштоўнага дрэва з прыгожымі пражылкамі, якое расце на Атлас, і гіганцкія пласты і пліты каляровага мрамара, які ламалі ў горных ланцугах розных правінцый...“

Але не да ўсякай тэмы можна падабраць матэрыял мастацкага характару. У гэтых выпадках я суправаджаю ілюстрацыю карціны звязным расказам. Пры гэтым расказваю дзецям галоўным чынам аб тым, што яны могуць бачыць на карціне. Так, напрыклад, паказваючы дзецям карціну „Фарум у Рыме“ я расказваю:

„У дзень, прызначаны сенатам для трыумфа, палкаводзец, на чале свайго войска і ў суправаджэнні ўсяго горада ўрачыстым шэсцем уступаў у горад праз трыумфальныя вароты і накіроўваўся ў Капітолію. Сам ён ехаў у пазалочанай калясніцы, запрэжанай чацверыком белых коней, часта акружаны сваімі дзецьмі. Астатнія яго сваякі і яго кліенты ішлі каля калясніцы ў белых тогах, а сам трыумфатар у вопратцы Юпітэра, з лаўровым вянком на галаве. Дзяржаўны раб памяшчаўся ззаду яго на калясніцы, падтрымліваючы над яго галавой залатую карону. У перадзе самога шэсця везлі на калясніцах ваенную здабычу, імёны перамоўжаных народаў і ізабражэнні пакораных краін і гарадоў; затым ішлі знатныя палонныя ў кайданах. Непасрэдна перад трыумфальнай калясніцай ішлі лікторы (суправаджаючыя) іх акружалі музыканты і пяўцы...“ і т. д.

Карціна на адзін дзень астаецца вісець у класе, а затым убіраецца.

Вось яшчэ адзін прыклад. Паказваецца карціна „В усадьбе древнего германца“ (курс VI класа).

Звяртаюся да дзяцей і гавару:

„Уявім сабе вёску аднаго з старажытных германскіх плямён. На адкрытым месцы каля лесу стаіць некалькі хатак. Вось адна з іх перад намі (паказваю на карціну) чатырохкутная хата з дваром, акружаная драўляным плотам. К хаце прыбудавана некалькі гаспадарчых будынкаў: хлеў, свіран, кладоўка (мэбля ў доме драўляная, пасуда гліняная, асвятленне—лучына). Вопратку германцы шылі з шэрсці авечай, казінай, аленняй; радзей з палатна. Вельмі пашырана была вопратка футраная. Германцы насілі шырокія штаны, панчохі, кароткія шэрсцяныя або палатняныя рубашкі без рукавоў, а на гэта яшчэ адзявалася верхняя вопратка. Абутак быў падобны да лапцей. Вопратка жанчын была палатняная, палатно афарбоўвалася ў розныя колеры. Пры гэтым вопратка ўпрыгожвалася спражкамі, ланцужкамі з бронзы або срэбра“ і т. д.

Вельмі важнае значэнне для цвёрдага засваення гістарычных ведаў адыгрывае гістарычная карта. Але Наркомасветы і да гэтага часу вельмі мала клапоціцца аб тым, каб забяспечыць школу гістарычнай картай. Самадзельныя гістарычныя карты, якія мы робім сіламі вучняў, маюць вялікія недакладнасці і таму я часцей за ўсё замест гістарычнай карты прымяняю геаграфічную. Так, напрыклад, пры праходжанні матэрыялу аб тым, што Канстанцін падзяліў імперыю на 4 прэфектуры: Галію, Усход, Іллірыю, Італію—дзеці каляровымі сцяжкамі абазначаюць названыя краіны. Пры праходжанні тэмы („Вялікае перасяленне народаў“ дзеці паказваюць асобнымі каляровымі флажкамі пераход ост-готаў, вест-готаў, гунаў, вандалаў, саксаў і т. д. Матэрыял для засваення даволі трудны, а пры наяўнасці гэтых сцяжкоў, дзеці добра запамінаюць месцы, дзе асядалі плямёны.

Выкладанне гісторыі ў V, VI і VII класах дае багацейшы матэрыял для выхавання ў дзяцей пачуцця самай глыбокай нянавісці да эксплаататараў і выпрацоўкі цвёрдых і ўстойлівых антырэлігійных і інтэрнацыянальных установак. Я не выпускаю ніводнага моманту, які можна было-б скарыстаць для антырэлігійнага і інтэрнацыянальнага выхавання. Так, расказваючы аб узнікненні хрысціянства, я даю вучням уяўленне і аб іншых рэлігіях, паказваю іх адзінства ў барацьбе

за эксплаатацыю працоўных мас. У сувязі з тэмай аб крыжовых паходах я напомніла вучням аб крыжовым паходзе супроць СССР, узначаленым папай рымскім. Я таксама паказала ролю папоў у падаўленні рэвалюцыйных паўстанняў рабочых у Астурыі. Гаворачы аб сялянскіх войнах і паўстаннях я паказваю як цяжка жылося сялянам у мінулым, як цяжка жывецца сялянам і зараз у капіталістычных краінах. У гэты-ж час паказваю, як далёка шагнула наперад працоўнае сялянства ў СССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з правадыром працоўных усяго свету т. Сталіным. Такое выкладанне гісторыі, дзе мінулае звязваецца з сучасным, вучням вельмі падабаецца. Яны з надзвычайна вялікай ахвотай і зацікаўленасцю працуюць над гісторыяй.

Не гледзячы на тое, што веснавыя праверачныя іспыты ў параўнанні з мінулымі гадамі паказалі даволі вялікія поспехі ў засваенні гістарычнага матэрыялу, тым не менш у ведах вучняў адчуваюцца вялікія прабелы. Яны яшчэ слаба ўмеюць аналізаваць і абагульняць гістарычныя факты, не заўсёды адчуваецца цвёрдае засваенне храналогіі, недастаткова цвёрдае веданне гістарычнай карты. У надыходзячым навучальным годзе я пастараюся зрабіць усё залежачае ад мяне, каб гэтыя недахопы выправіць. Прашу выкладчыкаў гісторыі падзяліцца вопытам сваёй работы на старонках нашага часопіса.

*Е. БЕРАЗАНСКАЯ, М. ДЭЙНЕКА,*
*Н. ЗЕРЧЭНІНАЎ, В. ЭМЕНАЎ*

# Якія патрабаванні па матэматыцы прад'яўляе сярэдняя школа пачатковай школе

Праграмы па матэматыцы пачатковай і сярэдняй школы ўзгоднены між сабой, і вучань, які грунтоўна засвоіў праграму па матэматыцы ў пачатковай школе, тым самым падрыхтаваны для праходжання курса сярэдняй школы. Наадварот, кожны прабел у ведах, дапушчаны ў пачатковай школе, з немінучасцю затрымае работу па матэматыцы ў сярэдняй школе. Вось чаму настаўніку пачатковай школы вельмі важна ведаць тыя слабыя месцы ў матэматычнай падрыхтоўцы вучняў, з якімі сустракаецца выкладчык матэматыкі сярэдняй школы і якія перашкаджаюць нармальнай рабоце па матэматыцы.

Змяшчаючы гэты артыкул, рэдакцыя заклікае настаўнікаў пачатковай школы ўлічыць гэтыя прабелы ў матэматычнай падрыхтоўцы вучняў і зрабіць адпаведныя практычныя вывады.

* * *

Асноўнымі патрабаваннямі сярэняй школы па матэматыцы з'яўляецца поўная, якасна высокая прапрацоўка вучнямі праграмнага матэрыялу пачатковай школы. Выкладчыкі сярэдняй школы на ўсіх праведзеных канферэнцыях гавораць аб недастатковай падрыхтоўцы вучняў, паступаючых у 5 клас. Ніжэй мы прыводзім найбольш востра выявіўшыяся ў матэматычнай падрыхтоўцы вучняў недахопы, якія надзвычайна затрымліваюць работу ў далейшыя гады, і барацьбу за зжыванне якіх павінна весці кожная пачатковая школа. Гэта павінна стаць задачай не толькі настаўнікаў 4-х класаў; стварэнне правільных і цвёрдых ведаў і навыкаў па арыфметыцы і геаметрыі ў аб'ёме пачатковай школы павінна пачацца з 1 класа і настойліва і сістэматычна праводзіцца на працягу ўсіх гадоў навучання.

Першае і асноўнае патрабаванне, якое высоўвае сярэдняя школа пачатковай школе,—цвёрдае веданне табліцы множання. Вельмі часта ў 5 клас пападаюць вучні, якія памыляюцца ў табліцы множання. Гэта з'ява зусім недапушчальная.

Другое патрабаванне — навыкі вуснага лічэння. Прыходзячы ў 5 клас вучні павінны ўмець: а) складаць і аднімаць вусна любыя двухзначныя лікі і прасцейшыя трохзначныя, б) памнажаць вусна любы двухзначны лік на адназначны, в) дзяліць вусна любы двухзначны лік на адназначны і двузначны. Адсутнасць гэтых уменняў у вучняў

вельмі перашкаджае ім як у штодзённым жыцці, так і ў далейшай прапрацоўцы курса матэматыкі.

Трэцяе патрабаванне—умець рабіць усе дзеянні над цэлымі лікамі ва ўсіх выпадках не толькі правільна, але і па магчымасці найбольш кароткім шляхам. У гэтых адносінах сярэдняя школа мае многа падстаў для скаргаў. Асабліва многа пярэчанняў выклікае выкананне множання і дзялення цэлых лікаў. Пры вылічэннях не трэба траціць часу на пісанне бесканечнай колькасці нікому непатрэбных нулёў.

Зусім недапушчальны запісы:

```
1)    4002          2)    3200
    × 2003              × 2300
    -------             -------
     12006                 0000
     0000                 0000
    0000                 9600
   8004                 6400
   -------              -------
   8016006              7360000
```

замест правільных запісаў:

```
1)    4002          2)    3200
    × 2003              × 2300
    -------             -------
     12006                96
   8004                  64
   -------              -------
   8016006              7360000
```

Тое-ж і ў дзяленнні. Недапушчальныя запісы:

```
1) _73296 | 8        2) _63275 | 25       3) _5 382 000 | 1 000
    72    |9 162         50    |2 531         5 000     | 5 382
   ----                 ----                 ------
   _„12                 _„132                _„3 820
     8                    125                  3 000
   ----                 -----                ------
   _„49                  _„77                 _„8 200
    48                     75                   8 000
   ----                 -----                ------
    _16                   _25                  _„2 000
     16                    25                    2 000
   ----                 -----                ------
                           „„                    „„„„
```

Не кажучы ўжо аб поўнай механічнасці ўказаных прыёмаў яны прыводзяць часта да пісання лішніх нулёў, а часамі з'яўляюцца прычынай няправільнага адказу. Апрача таго адсутнасць астатку пры дзяленні трэба абазначыць нулём, а адсутнасць вышэйшых разрадаў пры адніманні лепш нічым не абазначаць, і тым больш не абазначаць так, як гэта прыведзена вышэй у няправільных запісах: „хвосцікамі“, двукоссем, знакамі роўнасці. Часамі вучні, прышоўшы ў 5 клас выконваюць дзяленне 87 на 29 наступным чынам:

```
_87 | 29
 87 | 3
 „„
```

а ў гэтым-жа выпадку нават з фармальнага боку такі запіс ніколькі не дапамагае выкананню дзеяння, а паказвае толькі прывычку дзяліць

механічна. Трэба асабліва звярнуць увагу на больш цяжкія выпадкі дзялення лікаў з нулём у сярэдзіне і ў канцы дзелі.

Яшчэ з адной прывычкай вучняў павінна змагацца пачатковая школа: памнажаючы 678 на 9, вучні гавораць: „Дзевяццю восем—семдзесят два, два пішам, сем у ўме“, і зараз-жа пішуць *маленькую* цыфру 7 дзе небудзь крыва і коса на дошцы або на паперы. Трэба дабіцца, каб адна цыфра сапраўды трымалася ў памяці.

Зусім не дапушчальна, каб пачатковая школа давала вучням адны правілы парадку дзеянняў і ўжывання дужак, а сярэдняя школа другія. Калі трэба спачатку зрабіць множанне, а затым складанне (гэта пішацца без дужак: $a+вс$), у пачатковай-жа школе ставяць дужкі: $3+(5.2)$. Нельга ў пачатковай школе лічыць, што $2+3.4=20$, а ў сярэдняй школе перавучваць, што $2+3.4=14$.

Выключна важна для сярэдняй школы, каб вучні ў пачатковай школе рашалі па магчымасці больш задач і не ў адно дзеянне, а ў тры-чатыры дзеянні. У рэзультаце работы пачатковай школы вучні павінны ўмець прачытаць умову задачы, перадаць яе змест сваімі словамі, коратка і чотка запісаць даныя, рашыць задачу.

Апрача рашэння даволі вялікай колькасці рознастайных задач у пачатковай школе неабходна:

1. Выпрацаваць навык адрознівання таго, на якія пытанні адказвае кожнае арыфметычнае дзеянне, г. зн. у якіх выпадках кожнае дзеянне прымяняецца. Пры гэтым асаблівую ўвагу звярнуць на правільнае прымяненне дзеяння ў выпадках, калі трэба павялічыць або паменшыць лік на некалькі адзінак і павялічыць або паменшыць лік у некалькі разоў.

2. Неабходна даваць вучням так званыя „няскончаныя“ задачы, напрыклад: „Купілі 3 *кг* белага хлеба за 6 руб. і 2 *кг* чорнага хлеба за 2 руб. Што можна даведацца?“. Вучні пералічваюць магчымыя пытанні і даюць на іх адказ: а) на колькі кілограмаў куплены белы хлеб важыў больш, чым чорны, б) на колькі ўвесь белы хлеб каштаваў даражэй чым чорны, в) колькі каштуе кілограм белага хлеба, г) колькі каштуе кілограм чорнага хлеба, д) колькі каштаваў увесь хлеб, е) колькі важыў увесь хлеб.

3. Неабходна практыкаваць і адваротныя дзеянні, напрыклад, даць задачу: „Купілі белага і чорнага хлеба. Што трэба ведаць, каб адказаць на пытанне, колькі трэба заплаціць за ўвесь хлеб?“.

4. Вельмі карысна рашаць задачы з лішнімі данымі, каб вучні ўмелі выбіраць, якія даныя ім патрэбны для рашэння задачы.

Для падбору ўказаных задач скарыстоўваюцца задачы, умовы якіх пры чытанні даюцца не ў закончаным выглядзе або з лішнімі данымі. У рэзультаце навучання ў пачатковай школе вучні павінны ўмець рашаць складаныя арыфметычныя задачы.

Затым вучні, якія прыходзяць у 5 клас павінны добра ведаць метрычныя меры даўжыні, плошчы, аб'ёму і вагі; мець аб іх рэальнае прастаўленне, ведаць іх стандартныя абазначэнні і не пісаць „кгр“ замест „кг“ і „мтр“ замест „м“ і т. п., умець раздрабляць іператвараць адны меры ў другія адразу, без пісьмовага множання і дзялення на адзінку з нулямі. Не рэдкі выпадкі, калі вучань піша: 25 *см* = 250 *м*, або 25 *см* = 25 *дм* і т. д. і т. д. Гэтыя памылкі гавораць аб адсутнасці ў вучня рэальных прадстаўленняў аб мерах і іх суадносінах.

У пачатковай школе трэба навучыць вучняў знаходзіць любы лік процантаў ад ліку ў два дзеянні. Другія тыпы задач на процанты будуць пройдзены ў сярэдняй школе; грунтоўна павінны быць прапрацаваны знаходжанне некалькіх частак ад цэлага і цэлага па адной частцы.

Вучні, прыходзячы ў 5 клас, не гледзячы на чатырохгадовую прапрацоўку пачатковай геаметрыі, у рэзультаце маюць вельмі нячоткія прасторавыя прадстаўленні і нават смутнае паняцце аб тым, што імі пройдзена ў гэтай галіне. Трэба звярнуць на гэта сур'ёзную ўвагу і, пачынаючы з малодшых класаў, развіваць прасторавыя прадстаўленні дзяцей на як мага больш рознастайным канкрэтным матэрыяле.

Асабліва настойлівую барацьбу трэба весці за стан запісаў у сшытках вучняў па матэматыцы. Вучні павінны быць прывучаны да паслядоўных, акуратных і чоткіх запісаў, да правільнага напісання цыфр.

Вось тыя асноўныя патрабаванні, якія прад'яўляе па матэматыцы сярэдняя школа пачатковай школе.

---

*Ю. ФРЭЙДМАН*

# Больш увагі вытворчаму навучанню

У пастановах аб пачатковай і сярэдняй школе ЦК нашай партыі неаднаразова падкрэсліваў важнасць палітэхнізацыі школы і значэнне працоўнага навучання.

Яшчэ ў 1931 г. у гістарычнай пастанове аб пачатковай і сярэдняй школе ад 5 верасня ЦК указвае на неабходнасць праводзіць „цесную сувязь навучання з прадукцыйнай працай“. У гэтай-жа пастанове гаворыцца: „Усялякая спроба адарваць палітэхнізацыю школы ад сістэматычнага і цвёрдага засваення навук, асабліва фізікі, хіміі і матэматыкі прадстаўляе сабой грубейшае скажэнне ідэй палітэхнічнай школы“.

У пастанове ад 25 жніўня 1932 г. аб вучэбных праграмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе ЦК зноў адзначае важнасць палітэхнізацыі школы. У гэтай пастанове сказана: „Прызнаць неабходным перапрацаваць праграмы па працы з тым, каб забяспечыць сапраўднае злучэнне навучання з прадукцыйнай працай і вывучэнне ў тэорыі і на практыцы галоўных галін вытворчасці, кіруючыся ўказаннямі Леніна, што палітэхнічны прынцып не патрабуе абучэння ўсяму, але патрабуе абучэння асновам сучаснай індустрыі наогул“.

Школы БССР за апошнія гады на аснове ўказанняў ЦК ВКП(б) значна палепшылі пастаноўку працоўнага навучання. Гэта бясспрэчна. Але тым не менш, працоўнае навучанне ўсё яшчэ астаецца адстаючым, адным з найбольш слабых участкаў работы школы. Усё яшчэ на ўроках па працы назіраецца недапушчальны разрыў паміж тэорыяй і практыкай. Вывучэнне тэхналагічных працэсаў асабліва патрабуе прыцягнення матэрыялу вядомага дзецям з урокаў іншых дысцыплін— хіміі, фізікі і т. д. Але школы гэтаму моманту вельмі мала ўдзяляюць увагі. Часта яшчэ ўсё азнаямленне з працэсамі працы, з навуковымі асновамі вытворчасці зводзіцца да механічнай вывучкі, да саматужніцтва і рамесніцтва.

Матэрыяльная база працоўнага навучання яшчэ даволі бедная. У многіх школах сталярныя і слесарныя майстэрні не маюць самага неабходнага абсталявання, а тое што ёсць часамі толькі дыскрэдытуе сябе ў вачах вучня. Старыя, сцёртыя напільнікі, разбітыя зубілы, малаткі надзвычайна вялікіх размераў, непасільныя для дзіцячых рук, адсутнасць механізацыі, старое іржавае жалеза замест матэрыялу для апрацоўкі—вось што тыпічна для многіх школьных майстэрань. Гаспадарчыя органы і прадпрыемствы, якія шэфствуюць („дапамагаюць школе“), выдзяляюць ёй стары адпрацаваны, нікуды не варты матэрыял.

А нашы кіраўнікі школ бяруць усё, што ім даюць, прытрымліваючыся старой рускай прыказкі: „Всякое даяние есть благо“, бяруць і прыгаварваюць: „Да не оскудеет рука дающего и не отсохнет рука берущего“. Такія адносіны да справы як з боку дырэктароў школ, так і з боку кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія шэфствуюць над школай, мы павінны прызнаць прама злачыннымі, бо нягодныя прылады, не адпавядаючае ўзросту дзяцей абсталяванне надзвычайна дрэнна ўплывае на вучняў, прывучае іх да недакладнасці, неакуратнасці і т. д. Такая абстаноўка адбівае цікавасць да працы, павялічвае стамляемасць і наогул шкодна ўплывае на здароўе дзяцей.

Сусветна-гістарычныя поспехі сталінскай індустрыялізацыі, сталінскай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі нашай краіны адкрылі велізарнейшыя магчымасці для абучэння дзяцей асновам сучаснай індустрыі. Узброеная першакласнай тэхнікай наша прамысловасць можа не толькі дэманстраваць сябе перад падрастаючым пакаленнем, але і забяспечыць школу найлепшым абсталяваннем для выкладання працоўнага навучання. Савецкія дзеці да сучаснай тэхнікі праяўляюць вялікую цікавасць і мы павінны ўмацаваць гэтую цікавасць. Мы можам і павінны даць дзецям савецкай школы ўсё асноўнае, што ім патрэбна для заняткаў па тэхніцы, па працоўнаму палітэхнічнаму навучанню.

Толькі недаацэнкай справы палітэхнізацыі з боку НКА і гаспадарчых арганізацый можна тлумачыць той факт, што да гэтага часу не арганізавана справа масавага вырабу нават самага простага, прыстасаванага для дзяцей абсталявання, інструмента, матэрыялу і г. д.

Не лепш абстаіць справа і з падрыхтоўкай новых кадраў настаўнікаў па працоўнаму палітэхнічнаму навучанню, а таксама з павышэннем кваліфікацыі працуючых. Наркомасветы не выканаў вычэрпваючых па сваёй паўнаце дырэктыў ЦК аб выкладанні працы ў школах.

Яшчэ ў 1931 г. ЦК прапанаваў „арганізаваць азнаямленне настаўнікаў з асновамі вытворчасці на заводах, у соўгасах, у МТС і ў калгасах з такім разлікам, каб на працягу 1931—32 г. гэта азнаямленне ахапіла ўсе выкладчыцкія кадры“. Аднак да гэтага часу, многія выкладчыкі па працы, не кажучы ўжо аб другіх выкладчыках, не маюць нават прадстаўлення аб тэхніцы, якая знаходзіцца блізка ад школы (на заводах, у соўгасах, МТС). Да гэтага часу НКА не забяспечыў школу падручнікамі па працы, а выкладчыкаў сур'ёзнымі метадычнымі дапаможнікамі. За выключэннем двух кніг Яворскага (выд. НДІ школьнай педагогікі) і кнігі т. Гайсіновіча па пытаннях методыкі працоўнага навучання ў Савецкай школе, мы амаль нічога не маем.

Па прыкладу Наркомасветы дырэктары многіх школ мала звяртаюць увагу на пастаноўку працоўнага навучання. Планаў не правяраюць, урокаў не наведваюць. Настаўнікі па працы стаяць у баку ад усяго жыцця школы; яны мала працуюць над сабой, часта зусім не рыхтуюцца да ўрокаў і ў выніку ўрок па працы часта бывае не падобны да класнага ўрока. Многія кіраўнікі школ зразумелі праведзенае ў пачатку мінулага навучальнага года некаторае скарачэнне праграм і вучэбных гадзін па працы, як наогул адмаўленне выкладання апошняй. Яны нават пачалі закрываць рабочыя пакоі, майстэрні. Гэта абсалютна няверная, шкодная ўстаноўка на жаль не атрымала своечасова самога рашучага адпору з боку Наркомасветы.

Дабіваючыся ад Наркомасветы рашучага змянення адносін да справы палітэхнізацыі ў гэтым навучальным годзе, трэба разам з тым дабівацца падняцця адказнасці за выкладанне працы ў школе з боку

дырэктароў, загадчыкаў школ і ў першую чаргу выкладчыкаў працы. Там дзе выкладчыкі працы сур'ёзна працуюць над сабой, любоўна адносяцца да справы, там перамагаюцца цяжкасці, дасягаюцца высокія вынікі вучэбнай работы, там мы маем высокія веды і навыкі вучняў па працоўнаму навучанню. Прыкладам гэтага могуць служыць Гомельская школа імя Комінтэрна, Магілёўская 3-я яўрэйская школа, майстэрні Менскага ГорАНА і інш. Але на вялікі жаль вопыт нашых лепшых школ яшчэ да гэтага часу неабагулен. У мінулым годзе НДІ школьнай педагогікі на падставе матэрыялаў выбарачнага абследвання па працы зрабіў аналіз ведаў і ўменняў вучняў НСШ. Гэта работа не толькі адзначае стан ведаў і ўменняў вучняў, але разам з тым паказвае настаўніку якімі раздзеламі курса праграмы працоўнага навучання вучні найбольш цікавяцца, што можа і павінен зрабіць настаўнік каб замацаваць гэтую цікавасць.

Некаторыя нашы палітэхнізатары, назіраючы моманты недысцыплінаванасці вучняў на ўроку працы, тлумачаць гэта тым, што вучні наогул не цікавяцца гэтай работай. Такі вывад з'яўляецца зусім няправільным. Мы павінны адзначыць зусім адваротнае. Дзеці совецкай школы ў сваёй масе праяўляюць вялікую цікавасць да тэхнікі, да працоўнага навучання. Нават дашкольнікі, асабліва старэйшага ўзросту, ужо вельмі цікавяцца работай з рознымі прыладамі і побач з малатком, ножніцамі, пачынаюць карыстацца лучковай пілой, нажом, шылам, долатам і інш. З дапамогай дарослых старэйшыя дашкольнікі вырабляюць некаторыя прасцейшыя прадметы, якія маюць практычнае прызначэнне—скрынкі для кветак, кутка жывой прыроды і т. д. Найбольш здольныя, старэйшыя дашкольнікі ўжо нават вырабляюць цацкі, якія выкарыстоўваюць у сваіх гульнях, яны-ж робяць цацачныя аэрапланы, аўтамабілі, цягнікі і т. д.

Для 8—12-гадовых дзяцей характэрна надзвычайна хуткае тэхнічнае развіццё. Асабліва гэта заўважаецца там, дзе правільна пастаўлена палітэхнічнае выхаванне. Дзеці 8-9-гадовага ўзросту авалодваюць рознастайнымі прыладамі, больш за ўсё цікавяцца вырабам мадэлей розных сродкаў перамяшчэння, спрабуюць самастойна рабіць гэтыя мадэлі. Такое праяўленне самастойнасці, ініцыятывы ў дзяцей малодшага школьнага ўзросту неабходна своечасова замацаваць і развіваць і ні ў якім выпадку не дапусціць угасанне цікавасці да тэхнікі.

Дзеці 10—12 год ужо разумеюць пабудову галоўных частак цацачнай машыны, рухавіковага перадатачнага і працуючага механізма. Іменна ў гэтыя гады больш развітыя дзеці пачынаюць самастойна канструяваць дзейcтвуючыя мадэлі. Часта юныя тэхнікі ўносяць змены і ў дасканаленні ў гатовыя мадэлі-цацкі, праяўляючы такім чынам першыя спробы ажыццяўлення ўласных вынаходстваў.

Важнейшае значэнне для тэхнічнага развіцця школьніка мае сувязь яго практычнай, тэхнічнай дзейнасці з вучобай. Такія вучэбныя дысцыпліны як матэматыка, прыродазнаўства, маляванне дапамагаюць вучню асмысліць, прывесці ў сістэму свае тэхнічныя веды. Без сістэмы вучэбных ведаў тэхнічнае развіццё школьніка амаль заўсёды ўпіраецца ў тупік і тармозіцца. З другога боку захапленне тэхнікай стымулюе вучняў да паглыбленага вывучэння дысцыплін.

Для тэхнічнага развіцця падлетка ва ўзросце ад 13 да 18 год ужо характэрна развіццё абстрактна-лагічнага мышлення, а галоўнае—развіццё цікавасці да тэхнічнай літаратуры, да сістэматычнага засваення асноў адпаведных навук. Там, дзе вучань шукае вырашэння задачы шляхам непасрэдных спроб, падлетак усё часцей і часцей прыбягае

да разлікаў і вылічэнняў, апіраючыся на веды ў галіне матэматыкі, фізікі, хіміі і чарчэння. Падлетак уносіць у заняткі па тэхніцы пастаянна штосьці новае, ён упарта імкнецца ўдасканальваць і перарабляць свае мадэлі і вынаходствы, уносіць больш элементаў рацыяналізацыі. Дзіцячыя тэхнічныя гурткі ДТС, злёты дзяцей вынаходцаў і т. д. гавораць аб тым, што цікавасць дзяцей да тэхнікі разраслася ў вялікі дзіцячы рух, базай якога безумоўна з'яўляюцца заняткі па працы ў школе і палепшанне выкладання асноў навук. Такім чынам справа не ў тым, што вучні не цікавяцца працоўным навучаннем, а ў тым, як гэта працоўнае навучанне ў школе пастаўлена.

Абследванне раду вясковых школ паказвае, што не гледзячы на тое, што праграма працоўнага навучання там некалькі адрозніваецца ад праграмы гарадскіх школ (робіцца ўпор на вывучэнне асноў сельскагаспадарчай вытворчасці), вывучэнню гэтай справы ўдзеляецца яшчэ вельмі мала ўвагі. Нават вучні старэйшых класаў НСШ мала займаюцца вывучэннем трактара, сельскагаспадарчых машын, арганізацыяй соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Гэты недахоп у надыходзячым навучальным годзе трэба рашуча выправіць. Трэба дабіцца каб вучні, якія канчаюць НСШ мелі зусім чотка акрэсленыя веды па асновах сельскагаспадарчай вытворчасці. Разам з тым, трэба арганізаваць сістэматычныя экскурсійныя азнаямленні з нашымі прадпрыемствамі, каб нашы вучні сапраўды ведалі як у тэорыі, так і на практыцы асноўныя галіны вытворчасці.

* * *

Калі ў НСШ пры ўсіх недахопах працоўнага навучання мы ўсё-ж маем пэўную сістэму выкладання, то ў пачатковай школе такая сістэма вельмі часта парушаецца самімі настаўнікамі. Аб'яднанне працы, малявання і лепкі ў цэласны прадмет зусім неазначае, што гэта—механічная сумесь усіх трох гэтых момантаў. Па кожнаму з відаў гэтай работы вучань павінен атрымаць строга акрэслены круг ведаў і навыкаў. Але часта сам настаўнік навыкаў па гэтых работах не мае і таму ідзе па шляху найменшага супраціўлення, выкарыстоўвае гэтыя гадзіны для заняткаў тымі відамі работы, якія ён больш ведае. Часцей гэта бывае маляванне або лепка; праца-ж на гэтых занятках займае вельмі нязначнае месца. Гэта—недапушчальная справа. Мы павінны дапамагчы настаўніку пачатковай школы, ауладаць і працай, і лепкай, і маляваннем, рукадзеллем, якое мае вялікае вучэбна-выхаваўчае значэнне ў пачатковай школе. Самі-ж настаўнікі таксама павінны крэпка паклапаціцца аб тым, каб папоўніць свае веды ў той галіне, у якай яны менш падрыхтаваны.

Ідучы насустрач настаўнікам малодшых класаў мы ў гэтым нумары даем некалькі планаў урока па працы ў малодшых класах. Гэтыя планы даюцца даволі падрабязна, нават з некаторымі метадычнымі ўказаннямі. Яны складзены настаўнікамі маскоўскіх школ пад кіраўніцтвам Цэнтральнага інстытута палітэхнічнай адукацыі. Мы ўпэўнены, што прапрацоўка гэтых матэрыялаў значна дапаможа настаўніку ў справе рэалізацыі прграмнага матэрыялу. Не гледзячы на тое, што праграма па працы ў беларускіх школах разлічана на некалькі меншую колькасць гадзін, чым у школах Масквы, тым не менш разбіўка на ўрокі, паслядоўнасць у выкладанні і іншыя моманты могуць быць цалкам скарыстаны. Звяртаемся да выкладчыкаў працы з просьбай выказацца па закранутых у гэтым артыкуле пытаннях і расказаць, як ідзе праца па працоўнаму навучанню ў гэтым годзе.

*Н. ПАЛЯКОВА, Е. ФЁДАРАВА*

# Шыццё і пляценне ў І-м класе

## Першы ўрок

Мэта: арганізаваць дзяцей на работу; даць прыём віцця (шнур з нітак); паказаць дзецям, што адна нітка нямоцная, лёгка рвецца, некалькі-ж нітак звітых разам—мацнейшыя, даць навык калектыўна працаваць (работа ўдваіх).

Абсталяванне: Гатовы шнур (узор), каляровыя ніткі (лепш тоўстыя), цвічкі (па 2 шт. на вучня), пакеты або мяшочкі для хавання дзіцячых работ, ножніцы.

Ход урока: *1. Азнаямленне з правіламі работы па шыццю і пляценню.*

а) За кожным замацоўваецца вучэбнае месца і рабочая каробка.

б) Кожны вучань па сканчэнні ўрока хавае работу ў свой пакет, занумараваны нумарам вучэбнага месца.

в) Рукі ва ўсіх вучняў павінны быць чыстымі.

г) У сярэдзіне ўрока для ўсіх вучняў праводзіцца фізкльтмінутка.

2. *Азнаямленне дзяцей з планам работы на даны ўрок.*

а) Паказ і расказ выкладчыка, што будзем рабіць (віць шнур) і для чаго (для мяшочка, гальштука, пояска і т. п.).

3. *Азнаямленне шляхам паказу, што звіванне разам некалькіх нітак робіць іх мацнейшымі.*

а) Прапануецца дзецям разарваць адну нітку, затым некалькі нітак узятых разам. Робіцца вывад, што адна нітка слабая, лёгка рвецца, некалькі-ж нітак узятых разам мацнейшыя, але яны блытаюцца; каб ніткі не блыталіся, іх звіваюць.

4. *Паказ і аб'ясненне к практычнай рабоце.*

а) Колькі ўзяць нітак і як адмераць іх аднолькавай даўжыні.

б) Як звязаць простым вузлом дзве столкі нітак (2 колераў).

в) Як прымацаваць звязаны канец да цвіка.

г) Як віць шнур (выкладчык бярэ адну нітку сам, другую дае аднаму вучню і дэманструе працэс звівання).

5. *Практычная работа вучняў* (у працэсе работы пры пераходзе да кожнай новай аперацыі выкладчык зноў паказвае яе ўсяму класу).

6. *Складванне работ і ўборка вучэбных месц.*

## Другі ўрок

Мэта: замацаваць уменні, атрыманыя на першым уроку і навучыць прывязваць ніткі да шнура (атрыманне кісці).

Абсталяванне: гатовы шнур з кісцямі (узор), каляровыя ніткі, ножніцы.

Ход урока: 1. *Кароткае паўтарэнне прапрацаванага матэрыялу* (што рабілі і што даведаліся на мінулым уроку).

2. *Азнаямленне дзяцей з планам работы на даным уроку.*

3. *Паказ і аб'ясненне к практычнай рабоце:*

а) адмераць і адрэзаць ніткі аднолькавай даўжыні,

б) распалажыць ніткі на канцы шнура вакол вузла,

в) прывязаць ніткі да шнура простым вузлом, адагнуць, перавязаць, падраўняць атрыманую кісць ножніцамі.

4. *Работа дзяцей над кісцямі* (кісць робяць двое вучняў).

5. *Уборка работ і рабочых месц.*

Заўвага: на першым і другім уроках дзеці пры адлічванні нітак на шнур і кісць прымяняюць прамы счот.

## Трэці ўрок

Мэта: замацаваць веды, атрыманыя на папярэдніх уроках і азнаёміць з прыёмам пляцення шнура ў 3 ніткі.

Абсталяванне: ножніцы, цвікі, каляровыя тоўстыя ніткі, або тасьма ці кромкі, або палоскі тканіны, або афарбаванае мачала, або сутаж, плецены шнур (узор).

Ход урока: 1. *Кароткае паўтарэнне мінулага ўрока і азнаямленне з планам данага ўрока.*

2. *Паказ працэсу пляцення ў тры ніткі.* Працэс пляцення дэманструецца на спецыяльным матэрыяле (тоўсты шнур, або шырокія палосы матэрыі, або тоўстыя столкі мачалы) для таго, каб працэс бачылі ўсе вучні. Пры гэтым даюцца ўказанні:

а) як звязаць тры канцы разам,

б) як падводзіць адзін канец пад другі (таксама як плятуць касу).

3. *Практычная работа вучняў*: пляценне пояска і выраб кісці да яго. У працэсе работы выкладчык дае ўказанні асобным вучням.

4. *Уборка работ і вучэбных месц.*

## Чацвёрты і пяты ўрокі

Мэта: замацаваць навык калектыўнай работы (работа 4-5 вучняў разам); азнаямленне са шпагатам і работа з ім.

Абсталяванне: гатовая прыгалка, ножніцы, шпулькі, палачкі пафарбаваны шпагат (2-3 колеры), газетная папера, клейстар, кісці для клею, эмалевая фарба.

Ход урока: 1. *Кароткае паўтарэнне мінулага ўрока і азнаямленне з планам данага ўрока.*

2. *Азнаямленне вучняў з новым матэрыялам*—шпагатам (гутарка):

а) параўнанне шпагату з ніткамі па знадворнаму выгляду (таўсцейшы, мацнейшы, цвярдзейшы);

б) ужыванне шпагату (пры ўпакоўцы, з шпагату плятуць розныя рэчы, робяць вяроўкі, канаты).

3. *Паказ і аб'ясненне як звіць прыгалку з 3-4 нітак шпагату:*

а) як адмераць і адрэзаць шпагат;

б) як загатовіць матэрыял для віцця прыгалкі на шпульках (звязаць 3-4 канцы шпагату, свабодныя канцы прадзець у шпулькі і прывязаць да іх палачкі);

в) як віць прыгалку (круціць палачкі да якіх прывязаны канцы шпагату ад сябе, так звіваецца кожная нітка шпагату паасобку, а затым іх звіваюць разам).

4. *Практычная работа вучняў*. Работа выконваецца 4—5 вучнямі. Адзін вучань трымае шпагат за звязаны канец, астатнія, круцячы палачкі ад сябе, звіваюць кожны канец асобна, пасля чаго звіваюцца ўсе канцы разам, здымаюцца палачкі і шпулькі і канцы звязваюцца простым вузлом.

Заўвага: работа на шпульках аблягчае і паскарае працэс звівання.

5. *Аб'ясненне і паказ, як зрабіць ручку к прыгалцы з паперы*:

а) трэба падрыхтаваць газетную паперу для ручак (папера наразаецца доўгімі роўнабедранымі трохвугольнікамі і 4-5 такіх трохвугольнікаў склейваюцца разам);

б) трохвугольнік, атрыманы ад склейвання 4-5 папяровых трохвугольнікаў, змазваецца клейстарам і пачынаючы з асновы наматваецца на канец прыгалкі. Вузел на канцы ўтрымлівае ручку. Пасля прасушкі ручкі афарбоўваюцца эмалевай фарбай.

6. *Практычная работа вучняў* (вучні робяць ручкі к прыгалцы).

7. *Падвядзенне ітогаў і ацэнка работ вучняў* па віццю і пляценню.

## Шосты і сёмы ўрокі

Мэта: даць дзецям звесткі аб шыцці; пазнаёміць з асноўнымі прыёмамі (як трымаць іголку, матэрыял і т. д.) прывучыць дзіця да акуратнасці ў рабоце.

Абсталяванне: узоры падшытай і непадшытай матэры; вышытай рэчы; мадэль мяшочка мастацка выкананага; тканіна (палатно грубае або канва); ніткі тоўстыя каляровыя; іголкі, ножніцы, напарстак; вучэбная рамка.

Ход урока: 1. *Мэта шыцця*:

а) злучэнне кавалкаў тканіны ў адну рэч;

б) замацаванне краёў матэрыі;

в) захаванне матэрыі ад псавання (рамонт);

г) упрыгожванне (вышыўка).

2. *Азнаямленне з планам данага ўрок а*:

а) выбар аб'екта (што будзем шыць і для чаго);

б) якія патрабуюцца матэрыялы і інструменты для работы;

в) якія патрабаванні трэба выконваць пры рабоце: мець чыстыя рукі, бо інакш работа будзе брудная; не кідаць іголку, а заколваць у работу або падушачку для іголак, бо іголка небяспечны інструмент; працаваць з напарсткам, інакш наколеш пальцы; не спяшайся, працуй уважліва, інакш работа атрымаецца неакуратнай; захоўвай правільную рабочую позу, не гніся.

3. *Аб'ясненне і паказ як зацягваць нітку ў іголку*; праверка, ці ведаюць дзеці правую, левую руку, назвы пальцаў, аб'ясненне і паказ як трымаць іголку, на які палец адзець напарстак; як трымаць матэрыял (у левай руцэ); як сшываць (іголка і нітка ў настаўніка ў павялічаным размеры; вучэбная рамка); як замацаваць нітку.

4. *Практычная работа вучняў* (шыццё па выцягнутай нітцы наперад іголку):

а) праверка рук;
б) раздача матэрыялу і інструмента;
в) яшчэ раз паказ дзе (на якім месцы) рабіць шво;
г) першыя 3-4 мін. работы ідзе пад шчот;
д) праверка рабочай позы, палажэння работы ў руках дзяцей, на які палец адзет напарстак і т. д.;
е) у сярэдзіне ўрока пасля 20 мін. работы праводзіцца фізкультмінутка;
ж) уборка вучэбных месц.

## Восьмы ўрок

Мэта: навучыць дзяцей шыць швом назад іголку; замацаваць навык замацавання ніткі ў пачатку і ў канцы работы.

Абсталяванне і матэрыял тыя-ж што і на 6—7 уроках.

Ход урока: 1. *Кароткае паўтарэнне таго, што рабілі на папярэдніх уроках па шыццю.*

2. *Аб'ясненне і паказ як робіцца шво назад іголку* (на вучэбнай рамцы павялічанай іголкай і тоўстай ніткай); параўнанне шва назад іголку, са швом наперад іголку і рух іголкі пры выкананні таго і другога шва.

3. *Практычная работа вучняў* (працяг работы па шыццю мяшочка для насавой хустачкі). Шыццё швом назад іголку па выцягнутай нітцы:

а) замацаванне ніткі ў пачатку работы і ў канцы;
б) выкананне першых сцёжак па шчоту.

4. *У сярэдзіне ўрока фізкультмінутка.*

5. *Уборка работ і рабочых месц.*

## Дзевяты і дзесяты ўрокі

Мэта: замацаванне навыка шыцця назад іголку; адрозніванне колераў і падбор іх.

Абсталяванне і матэрыял тыя-ж, што і на папярэдніх уроках з дабаўленнем рознакаляровых нітак.

Ход урока: 1. *Кароткае паўтарэнне пройдзенага матэрыялу* (якія швы ведаюць і іх адрозненне па выгляду) і паведамленне, якая работа будзе на даным уроку, як упрыгожыць работу (мяшочак з вышыўкай).

2. *Расказ і паказ настаўніка як нанесці рысунак карандашом на тканіну і як вышыць швом назад іголку.*

3. *Практычная работа вучняў*: заканчванне шва назад іголку па выцягнутай нітцы; нанясенне рысунка на тканіну (рысунак састаўляюць самі дзеці); вышыўка швом назад іголку па нанесенаму рысунку. У працэсе работы дзеці самі пад кантролем настаўніка, выбіраюць колеры, называючы іх.

4. *Уборка работ і рабочых месц.*

## Адзінаццаты ўрок

Мэта: прымяненне швоў пры злучэнні тканіны; завязванне вузла на канцы ніткі.

Абсталяванне тое-ж, што і на папярэднім уроку.

Ход урока: 1. *Гутарка аб прымяненні швоў пры злучэнні тканіны.*

2. *Паказ і завязванне вузла на канцы ніткі з вучнямі* (класныя практыкаванні).

3. *Паказ, як змятаць тканіну.*

4. *Сшыванне тканіны швом назад іголку і выманне намёткі.*

5. *Практычная работа вучняў*: завязванне вузла, змётванне мяшочка, сшыванне бакоў швом назад іголку (у сярэдзіне ўрока праводзіцца фізкультмінутка).

6. *Уборка работ і рабочых месц.*

## Дванаццаты ўрок

Мэта: азнаёміць дзяцей з прызначэннем і выкананнем шва „цераз край“.

Абсталяванне—тое-ж, што і на папярэдніх уроках.

Ход урока: 1. *Гутарка аб прымяненні шва „цераз край“* (сшыванне берагоў тканіны і замацаванне краёў тканіны).

2. *Паказ выканання шва цераз край на класным дапаможніку.*

3. *Практычная работа вучняў.* Абмётванне швоў і краёў мяшочка і прышыванне шнура.

4. *У сярэдзіне ўрока фізкультмінутка.*

5. *Уборка работ і рабочых месц.*

## Трынаццаты і чатырнаццаты ўрокі

Мэта: падвесці вынікі, што даведаліся і чаму навучыліся па шыццю; прымяненне вывучаных швоў на новым вырабе; замацаванне навыка па чыстаце, акуратнасці пры выкананні работы; прыём рэзання тканіны па прамой.

Абсталяванне: інструмент той-жа, што і на папярэднім уроку.

Матэрыял: ласкуткі, выкрайка падушкі, шпількі для праколвання выкрайкі.

*Ход урока*: *1. Гутарка для выяўлення атрыманых ведаў па шыццю* (выкліканы вучань паказвае і называе прароблены ім швы).

*2. Паведамленне дзецям, якая будзе работа на даным уроку (шыццё падушачак для іголак).*

3. *Паказ, як трэба распалажыць выкрайку на матэрыяле і як рэзаць тканіну.*

4. *Паказ і расказ адным з вучняў паслядоўнага ходу шыцця падушкі* (скласці два квадраты, выразаныя з матэрыі, змятаць іх і сшыць з трох бакоў швом назад іголку).

5. *Практычная работа вучняў:* шыццё падушкі для іголак.

## Пятнаццаты ўрок

Мэта: тое-ж што і на трынаццатым і чатырнаццатым уроках і навучыць дзяцей зрабіць і прышыць вешалку.

Абсталяванне тое-ж што і на папярэдніх уроках.

Ход урока: 1. *Кароткае паўтарэнне, што рабілі на мінулым уроку.*

2. *Выклікаць вучань расказвае што трэба яшчэ зрабіць, каб закончыць работу.*

3. *Паказ як скласці і сшыць вешалку і прышыць яе.*

4. *Практычная работа вучняў.* Рэзанне матэрыялу для вешалкі па прамой лініі, складванне, змётванне і шыццё швом цераз край. Набіванне падушкі, зашыванне падушкі швом цераз край і прышыванне вешалкі.

5. *Фізкультмінутка ў сярэдзіне ўрока.*

6. *Уборка работ і рабочых месц.*

## Шаснаццаты і семнаццаты ўрокі

Мэта: замацаваць навыкі, атрыманыя на папярэдніх занятках па шыццю. Навучыць дзяцей загінаць рубец і прадзець шнур.

*Абсталяванне:* інструмент той-жа, што і на папярэдніх уроках. Матэрыял—ласкуткі для мяшочка, шнуркі (зробленыя дзецьмі на першых уроках).

*Ход урока: 1. Падвядзенне ітогаў і ацэнка работы.*

*2. Паведамленне дзецям, што яны будуць шыць на даным уроку і для чаго* (мяшочак для нітак, напарстка, гузікаў).

*3. Вуснае планаванне работы* (вучань расказвае паслядоўнае выкананне работы над мяшочкам).

*4. Практычная работа вучняў:* змётванне, сшыванне краёў, абмётванне швоў.

*5. Паказ настаўнікам, як загнуць рубец, прымятаць і падшыць швом наперад іголку, удзець шнур.*

*6. Практычная работа вучняў па заканчванню мяшочка.*

*7. У сярэдзіне ўрока праводзіцца фізкультмінутка.*

*8. Уборка рабочых месц.*

## Восемнаццаты ўрок

*Мэта:* падвядзенне вынікаў.

*Абсталяванне:* рабочыя сшыткі, алоўкі, простыя і каляровыя; набор матэрыялаў з якімі дзеці працавалі.

*Ход урока: 1. Гутарка аб тым, што рабілі на ўроках па шыццю і пляценню. Прагляд дзіцячых работ і ацэнка іх.*

*2. Зарысоўка выкананых работ.*

*3. Складанне калекцый з матэрыялаў, з якімі дзеці працавалі.*

Дзеці прымацоўваюць узоры гэтых матэрыялаў у сшытках або на таблічках і падпісваюць назвы (ніткі шпагат, мачала, палатно, паркаль).

*Н. ПАЛЯКОВА, Е. ФЁДАРАВА*

# План па тэме „Шыццё“

## 2 клас

### Першы і другі ўрокі

*Мэта*: арганізацыя дзяцей на работу; паўтарэнне матэрыялу пройдзенага вучнямі ў першым класе.

*Абсталяванне:* рабочая каробка з інструментамі; палатно і каляровыя ніткі.

*Ход урока*: *1. Паўтарэнне правіл работы па шыццю*:

а) за кожным замацоўваецца вучэбнае месца і рабочая каробка;
б) кожны вучань па сканчэнні ўрока ўколвае іголку ў работу, хавае ў свой пакет, занумараваны нумарам вучэбнага месца;
в) рукі ва ўсіх вучняў павінны быць чыстымі;
г) у сярэдзіне ўрока для ўсіх вучняў праводзіцца фізкультмінутка;
д) кожны вучань павінен захоўваць правільную рабочую позу, пры шыцці карыстацца напарсткам.

*2. Выяўленне ведаў вучняў па праграме I класа* (гутарка з дэманстрацыяй). Зацягванне ніткі ў іголку, завязванне вузла, назва і віды швоў і іх прымяненне. Замацаванне ніткі ў пачатку і канцы работы. Выклікаюцца вучні і перад класам дэманструюць выкананне ўказаных аперацый.

*3. Практычная работа вучняў*: выкананне шва наперад і назад іголку па выцягнутай ніцты (мяшочак для грабеньчыка або салфетка).

### Трэці і чацвёрты ўрокі

*Мэта*: знаёмства з выкананнем пецельнага шва; пазнаёміць дзяцей з матэрыялам, на якім яны працуюць (ільняное палатно).

*Абсталяванне:* тое-ж што і на першым уроку; каляровыя ніткі для вышыўкі. Апавяданне Ушынскага „Как рубашка в поле выросла“.

*Ход урока*. 1. *Паўтарэнне пройдзенага на мінулым уроку*.

2. *Чытанне апавядання Ушынскага і гутарка аб прачытаным.*

3. Паказ выканання пецельнага шва і гутарка аб яго прызначэнні.

*Практычная работа вучняў*: выкананне пецельнага шва на салфетцы і вышыўка рысунка на ёй.

## Пяты і шосты ўрокі

*Мэта*: замацаванне навыка, атрыманага на папярэднім уроку (пецельнае шво); рэзанне тканіны; знаёмства з паходжаннем шарсцяной тканіны.

*Матэрыял*: суконныя і шарсцяныя ласкуткі, шаблоны, каляровыя ніткі, гузікі.

Апавяданне: „Как чулочки в поле бегали“.

*Ход урока*: 1. *Кароткае напамінанне, што даведаліся і чаму навучыліся на мінулых занятках.*

2. *Знаёмства з новым матэрыялам* (шэрсць). Чытанне апавядання.

3. *Паказ і аб'ясненне, як зрабіць перачыстку* (рэзанне матэрыі, пецельнае шво, прышыванне гузікаў).

4. *Практычная работа вучняў*: работа над перачысткай.

## Сёмы і восьмы ўрокі

*Мэта*: навучыць падагнуць і падшыць рубец.

*Матэрыял*: марля або кісея і ніткі.

*Ход урока*: 1. *Паказ і аб'ясненне, як падагнуць рубец і падшыць* (наперад іголку).

2. *Практычная работа вучняў.*

3. *Аб'ясненне і паказ як скроіць і змятаць сачок.*

4. *Практычная работа вучняў.*

## Дзевяты і дзесяты ўрокі

*Мэта*: пазнаёміць дзяцей з выкананнем двайнога шва, яго прымяненнем.

*Матэрыял*—той самы, што і на папярэднім уроку.

*Ход урока*: 1. *Кароткае напамінанне, што рабілі на мінулым уроку.*

2. *Паказ і аб'ясненне прымянення двайнога шва.*

3. *Практычная работа вучняў*—шыццё сачка.

## Адзінаццаты і дванадцаты ўрокі

*Мэта*: замацаваць уменні, атрыманыя на папярэднім уроку (рэзанне, змётванне, двайное шво). Знаёмства дзяцей з паходжаннем баваўнянапапяровых тканін.

*Матэрыял*: баваўняна-папяровая тканіна, ніткі.

1. *Ход урока*: 1. *Кароткае паўтарэнне матэрыялу папярэдняга ўрока.*

2. *Паведамленне звестак з чаго робіцца паркаль* (расказ настаўніка з дэманстрацыяй табліц, карцін, калекцый).

*Планаванне работы* (выкліканы вучань расказвае паслядоўны ход выканання мяшочка).

4. *Практычная работа вучняў*: выкройванне, змётванне і сшыванне двайным швом.

## Трынаццаты і чатырнаццаты ўрокі

*Мэта*: навучыць дзяцей падшываць тканіну косым швом. Прызначэнне і прымяненне гэтага шва;

*Матэрыял*—той самы, што і на папярэднім уроку.

*Ход урока:* 1. *Кароткае паўтарэнне матэрыялу папярэдняга ўрока.*

2. *Паказ выканання косага шва і прымянення яго.*

3. *Практычная работа вучняў*: загінанне рубца, намётванне і шыццё косым швом (мяшочак).

## Пятнаццаты і шаснаццаты ўрокі

*Мэта*: замацаванне ўменняў выканання пецельнага шва пры абмотванні пецель. Віццё або пляценне шнура для мяшочка і працягванне яго ў мяшочак.

*Матэрыял*: тканіна і каляровыя ніткі для шнура.

*Ход урока* 1. *Кароткае паўтарэннне матэрыялу, прапрацаванага на мінулым уроку.*

2. *Аб'ясненне к практычнай рабоце* (аб'ясненне даецца перад кожнай новай аперацыяй, для чаго выкладчык спыняе работу вучняў і франтальна дае тлумачэнні).

3. *Практычная работа вучняў*: прашыванне швом наперад іголку па сярэдзіне рубца; прарэзванне пецель і абмётка іх; віццё шнуроў і ўдзявання.

## Семнаццаты і восемнаццаты ўрокі

*Мэта*: улік па тэме, што даведаліся, чаму навучыліся і што зрабілі.

*Матэрыял*: табліца і карціны, скарыстаныя на ўроках у час абагульнення звестак аб матэрыялах. Раздатачны матэрыял (кавалачкі рознай тканіны); клейстар, кісці, рабочыя сшыткі.

*Ход урока:* 1. *Гутарка* (з прымяннем раздатачнага матэрыялу), з якімі матэрыяламі працавалі, што аб іх даведаліся, якія яшчэ ёсць тканіны (шоўк). Што шылі і якія швы прымянялі.

2. *Складанне калекцыі з рознай тканіны з наклейваннем іх у сшытак.* Дзеці робяць надпісы і пад імі наклейваюць адпаведную тканіну: ільняную, баваўняна-папяровую, шэрсцяную і шоўкавую.

3. *Зарысоўка швоў і вырабаў.*

---

*І. ЛАКІН*

# Аб настаўніку працоўнага палітэхнічнага навучання

Настаўнік з'яўляецца цэнтральнай фігурай педагагічнага працэса. Вытрыманае комуністычнае выхаванне падрастаючага пакалення цалкам залежыць ад настаўніка. Ён падбірае матэрыял для педагагічнага працэса, плануе, арганізоўвае і кіруе ім. Таму метадалагічная і палітычная падрыхтоўка настаўніка, яго метадычная ўзброенасць, аўладанне тэхнікай педагагічнага майстэрства набываюць вельмі важнае значэнне.

Нізкая якасць работы па працоўнаму палітэхнічнаму навучанню ў пэўнай меры тлумачыцца слабай падрыхтоўкай настаўніцтва па гэтаму прадмету, адсутнасцю ўмення арганізаваць, спланаваць работу, прымяніць рознастайныя метадычныя прыёмы, злучыць тэорыю з практыкай, падначаліць працу вучэбна-выхаваўчым мэтам.

Настаўнік па працоўнаму навучанню зусім недастаткова ўцягнут у агульна-школьны педагагічны працэс. У многіх школах праца з'яўляецца не арганічна звязанай часткай школьных праграм, а як бы дадаткам да іх. Многія дырэктары не патрабуюць ад выкладчыкаў працы рабочых планаў, уліку работы і нават запісаў урокаў у школьны журнал і ўліку наведвання ўрокаў вучнямі (Пухавіцкая яўрэйская НСШ). Не ствараюцца адпаведныя ўмовы для павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў па працы, іх падрыхтоўкі да ўрокаў. Вельмі мала яшчэ ў школе літаратуры для настаўніка і вучняў па працоўнаму навучанню. Урокі працоўнага навучання замест двух гадзін у тыдзень у класе вядуцца адну гадзіну: клас дзеліцца папалам і займаецца па адной гадзіне (Пухавіцкі раён). Вельмі часта ўрокі працы замяняюцца экскурсіямі па іншых прадметах (базавая школа НКА). Даволі часта невыкананне вучэбнага плана па працы як настаўнік, так і дырэкцыя школы лічаць звычайнай з'явай. Працоўнае навучанне ў цэлым радзе школ яшчэ не адыгрывае той важнай ролі, якая яму надаецца ў палітэхнічнай школе. Часта пастаноўка працоўнага палітэхнічнага навучання ў школе знаходзіцца ў прамой супярэчнасці з асноўнымі прынцыпамі пабудовы педагагічнага працэса (недысцыплінаванасць, бяспланавасць, неарганізаванасць і т. д.) (Пухавіцкая яўрэйская школа).

Выкладчыку працы ў многіх школах прыходзіцца весці ўсе раздзелы працоўнага палітэхнічнага навучання (дрэва, метал, электратэхніка, сельская гаспадарка). Гэтыя раздзелы патрабуюць ад выкладчыка адпаведнай кваліфікацыі, штодзённай падрыхтоўкі, а таксама і неабходнасці стварэння адпаведных умоў для гэтай работы з боку

дырэкцыі. З прычыны таго, што выкладчыкі працы не ўсюды дастаткова падрыхтаваны і для гэтага не складзены адпаведныя ўмовы— цэлыя раздзелы працоўнага навучання ў школах не праходзяцца. Так у школах Пухавіцкага раёна зусім не праходзіцца раздзел электратэхнікі, не ўсюды вяліся работы па металу. Да дзесяці школ г. Менска не прапрацавалі раздзелаў электратэхнікі. У 10 класе базавай школы НКА курс электратэхнікі не прапрацаваны.

Выкладанне электратэхнікі ў сярэдняй школе, безумоўна, патрабуе ад настаўніка значнага аб'ёму ведаў. Мы маем выпадкі, калі некаторыя выкладчыкі фізікі, не знаёмыя з электрамантажнымі работамі, адмаўляюцца весці раздзел электратэхнікі нават у 7 класе. Тут справа ўжо не толькі ў адным настаўніку.

Школа павінна набыць адпаведную тэхнічную і метадычную літаратуру, з дапамогай якой настаўнік мог-бы павышаць свой тэарэтычны ўзровень, метадычныя веды, мог-бы рыхтавацца да кожнага ўрока, літаратуру, якую ён мог-бы раіць вучням пры праходжанні курса працоўнага навучання. Разам з тым, неабходна дабіцца, каб дырэктары школ патрабавалі ад выкладчыка працы рабочых планаў, планаў урока, запісаў у журналы ўліку наведвання вучняў, ацэнкі іх паспяховасці. Наведванне дырэкцыяй урокаў па працы павінна праводзіцца ў такім-жа парадку, як і наведванне ўрокаў па іншых дысцыплінах. Праверка і інструктаж выкладчыка працы з боку дырэкцыі будзе садзейнічаць значнаму палепшанню якасці вучобы і хуткаму выпраўленню недахопаў у выкладанні.

Кожны ўрок па працы павінен забяспечыць:

а) чоткую мэтавую ўстаноўку ўрока і строга акрэслены круг ведаў і навыкаў, якія павінен вучань на ім атрымаць;

б) метадычна правільнае абучэнне навыкам і ўменнем, скарыстанне рознастайных метадычных прыёмаў (паказ, дэманстрацыя, ілюстрацыя, франтальны інструктаж і індывідуальная дапамога;

в) улік і ацэнку вынікаў работы класа і асобнага вучня;

г) актыўнасць, дысцыплінавасць і свядомую працу вучняў на ўроку.

Трэба абавязкова, каб выкладчык па працы меў канкрэтны план урока, а пачынаючы малады настаўнік нават і канспект гэтага ўрока. Схемы такіх планаў і канспектаў даюцца ў кніжках: „Элементы электротехники в средней школе“, выданне Цэнтральнага інстытута палітэхнічнай адукацы—Масква, Яворскі“. „Методыка працоўнага навучання ў школьных майстэрнях“, выд. ДВБ, 1935 г., Гайсіновіч—„Методика трудового политехнического обучения“, часопіс—„Коммунистическое просвещение“ за 1934 г.

У рабоце выкладчыкаў працы звычайна заўважаецца дзве крайнасці. Адны сканцэнтроўваюць сваю ўвагу галоўным чынам на агульнафрантальнай рабоце з усім класам, а асобным вучням дапамагаюць вельмі мала. Гэта прыводзіць да таго, што вучні выконваюць работу абы як, не праяўляюць да яе ніякай цікавасці. Другія настаўнікі, наадварот, надзвычайна мала ўдзяляюць увагі рабоце ўсяго класа ў цэлым, не звяртаюць увагі на агульныя недахопы, клас не адчуваецца як цэласная школьная адзінка. Ацэнка работ вучняў у большасці назіраемых выпадкаў робіцца з вучнем, выканаўшым гэтую работу. Гэта прыводзіць да таго, што ўрок як асноўная форма вучэбнай работы не адчуваецца і кожны вучань робіць, што яму падабаецца. Зусім зразумела, што такі індывідуальны падыход нікуды не варты.

Змагаючыся супроць абодвух адзначаных крайнасцей неабходна на ўроках працы дабівацца пастаяннага спалучэння калектыўнай і індывідуальнай работы.

Заўважаецца, што на ўроках працы тэарэтычны матэрыял часта прыпадносіцца не ў навуковай форме. Фармуліроўкі выкладчык працы часта дае нячоткія і нават няграматныя. Не звяртаецца ўвага на культуру мовы, на канкрэтнасць, лагічнасць, звязнасць. Мы не назіралі ніводнага выпадку (на 86 урокаў) калі-б выкладчыкі працы выпраўлялі няправільна выражаную вучнем думку і звярнулі на гэта яго ўвагу. Тое-ж і ў адносінах пісьмовай мовы. Сшыткі хатніх і класных работ выкладчыкам працы праглядаліся, але не выпраўляліся не толькі арфаграфічныя памылкі, але і неправільнасці па сутнасці выказваемай вучнямі думкі.

Трэба з усёй рашучасцю падкрэсліць, што ў цэлым радзе школ выкладчыкі працы не вядуць дастатковай барацьбы за дысцыпліну на ўроку. Вучні часта забываюцца аб прысутнасці настаўніка і трымаюць сябе надзвычайна недысцыплінавана—крычаць, свішчуць, смяюцца, кідаюцца матэрыяламі. Нават у час франтальных заняткаў вучні не слухаюць, голасна размаўляюць, а потым па самых дробязных пытаннях клічуць да сябе настаўніка. Настаўнік бегае ад аднаго вучня да другога. Хіба-ж можна назваць такую беганіну кіраўніцтвам? Зразумела не. І зусім не правы тыя настаўнікі, якія адзначаюць, што ў дзяцей няма ніякай цікавасці да ўрокаў працы. Вопыт лепшых школ БССР нам паказвае, што гэта далёка не так. Там, дзе выкладчык змог зацікавіць вучняў працоўным навучаннем, дзе работа ідзе арганізавана, дзе вучні адчуваюць пэўную адказнасць перад выкладчыкам, дзе выкладчык упарта змагаецца за палепшанне якасці выкладання,—там назіраецца вялікая зацікаўленасць да працоўнага навучання і тэхнікі, там яно займае вельмі важнае месца ў справе выхавання соцыялістычных адносін да працы, да ўзмацнення комуністычнага выхавання ў цэлым.

„Кадры рашаюць усё"—і гэта нас абавязвае рашуча палепшыць справу з падрыхтоўкай кадраў. Наш Наркомасветы ў гэтых адносінах зрабіў яшчэ вельмі мала. Выкладчыкі чакаюць ад яго дзелавой канкрэтнай дапамогі.

---

Рэдкалегія { Баршчэўская, Башкевіч, Гурбо, Дардак, Лешчынскі, Панкевіч, Фрэйдман (адказны рэдактар).

Адрас рэдакцыі: Менск, Дом урада, Наркомасветы, пакой № 556, тэл. 24-591.

## ЗМЕСТ

